23 кастрычніка 2020 | № 40 (699)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Літаратурная Беларусь
стар. 7–18


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Мы — нацыя, якая павінна жыць з высока паднятай галавой

Пётр КУЗНЯЦОЎ

**Незалежна ад таго, чым скончыцца гэты год, і ад таго, калі ў нас зменіцца ўлада (хутка), 2020-ты ўжо стаў лёсавызначальным у гісторыі нашай краіны.**

На працягу гэтага года Беларусь літаральна не выпадала з топу сусветных навін, і адбывалася гэта, дый адбываецца, вельмі цікавым чынам.

Спачатку была эпапея з каронавірусам. Паводзіны ўладаў і пазіцыя кіраўніка насмяшылі ўвесь свет. У той жа час беларускае грамадства, аб’яднаўшыся і самаарганізаваўшыся, паказала настолькі магутны патэнцыял, што літаральна ўсе адчулі да беларусаў павагу.

Потым была эпапея з прэзідэнцкімі выбарамі. Тая ж улада правяла іх так, што здзівіла ўвесь свет, — без назіральнікаў, камісій, падліку галасоў. На лагічныя пратэсты адрэагавала самымі натуральнымі зверствамі, што ўжо, у сваю чаргу, выклікала ва ўсіх абурэнне.

Беларусы ж зноў згуртаваліся і самаарганізаваліся ды паказалі цуды цывілізаванасці, вытрымкі, волі і розуму. Не паддаліся на правакацыі, не скаціліся да сілавых супрацьдзеянняў. І выклікалі ва ўсяго свету ў дадатак да ўжо існуючай павагі, яшчэ і самае непадробнае захапленне.

Мы сталі нацыяй, якая перарасла тых, хто намі кіруе. На шмат галоў. Цяпер гэта бачыць і ўвесь свет, і мы самі.

«Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі», — пісаў у свой час класік, і мы



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

проста зараз менавіта гэта і робім: сваімі рукамі, нагамі, мазгамі і сваёй мараллю.

Беларусы шмат гадоў пакутавалі ад недаацэненасці, першакрыніцай якой былі мы самі. Нас у свеце не так ведалі, каб даваць нам ацэнкі, але самі мы вельмі любілі (і яшчэ дзе-нідзе працягваем любіць) называць сябе баязлівымі і «талерантнымі» (у самым дрэнным сэнсе), наракаць на няспеласць грамадства, лічыць сябе эканамічным і палітычным прыдаткам імперыі, краінай з нізкім міжнародным і чалавечым патэнцыялам. Набор комплексаў, якія мы рэтранслявалі вонкі. І якія вельмі любіў і любіць стымуляваць кіраўнік Беларусі.

Але, на самай справе, мы — вялікі народ. З велізарным чалавечым і інтэлектуальным патэнцыялам. Маем сваю даўнюю, велічную і гераічную гісторыю.

Мы — нацыя, якая можа і павінна, па-першае, жыць з высока паднятай галавой і, па-другое, адыгрываць сур’ёзную знешнепалітычную ролю.

Ні таго, ні другога ў нас да гэтага часу не было, таму што намі кіравалі людзі, для якіх паняцце «высока паднятая галава» ў дачыненні да народа — пусты гук. А нашая роля ў свеце зводзілася да грызні з заходнімі краінамі і пастаянных спробаў у чарговы раз «развесці» Маскву.

Сёння гэтая дурная эпоха, гэтая гістарычная неспадзяванка, падыходзіць да завяршэння. Мы саспелі і даспелі для таго, каб быць тымі, хто мы ёсць, — класнымі, крутымі і неверагоднымі, якія пабудуюць для сябе і сваіх дзяцей класную, крутую і неверагодную краіну.

Як бы людзі ні спрабавалі затармазіць гісторыю, гэта яшчэ не атрымалася ні ў каго. А значыць — усё зменіцца да лепшага. І вельмі хутка.

# Замест парка — дамы

Валянціна РОКАТ

**Ждановічы — буйны пасёлак пад Мінскам, адразу за МКАД, з насельніцтвам звыш васьмі тысяч чалавек і вуліцай імя Васіля Быкава ў прыватным сектары. Колькасць жыхароў няўхільна расце, бо час ад часу тут будуюць шматкватэрныя шматпавярховікі. Чарговы праект па ўшчыльненні жыллёвай зоны з'явіўся зусім нядаўна і выклікаў у мясцовых жыхароў экзістэнцыяльны непакой.**

Як стала вядома, у самым цэнтры пасёлка — на перакрыжаванні праспекта Пераможцаў і вуліцы Паркавай,— плануюць пабудаваць два 16-павярховыя дамы. Агульная колькасць кватэр — 225, новабуд мусіць вырасці пад шыльдай ЖСПК «Сонечны–2020», побач з каменнымі гмахамі павінен з'явіцца ў дадатак шматузроўневы паркінг. Праект ужо анансаваны на сайце выканкама Мінскага раёна.

Дык што ж так усхвалявала жыхароў Ждановіч? Адказаў на пытанне адразу два — сацыяльны і палітычны.

Сацыяльны складнік цалкам празрысты, і на гэтую тэму любы са ждановічцаў будзе гаварыць доўга і эмацыйна. Праблем тут — заваліся. І ўсё ніяк яны не вырашаюцца.

Самая балючая праблема — медыцынская. Клапаціцца пра здароўе тутэйшы люд вымушаны разнастайна і з фантазіяй, марнуючы на гэта шмат сілаў і часу. Патрапіць да лекара — той яшчэ квест, бо ўсё, што можа прапанаваць мясцовая інфраструктура, — гэта старэнькая амбулаторыя. Будынак у два паверхі, дзе працуюць пераважна ўрачы агульнай практыкі. За паслугамі вузкага спецыяліста, ці нават за трывіяльнай флюараграфіяй для медагляду, трэба рушыць на ўсе чатыры бакі. Ці ў горад — на вуліцу Асіпенкі, ці ў Заслаўе, ці нават у Бараўляны. Ну, альбо звяртацца да платных дактароў. Пенсіянеру — не наездзішся, не наплацішся.

Другое вузкае месца «сацыялкі» Ждановічаў — выхаваўча-навучальны сектар. Школа ў аграгарадку таксама няновая. Трохпавярховы цагляны будынак з'явіўся ў 60-х гадах мінулага стагоддзя і даўно ўжо састарэў — і маральна, і практычна. Яго магчымасцяў крытычна недастаткова ўжо сёння, калі ждановіцкія дзеці вучацца ў некалькі зменаў, а многія ўвогуле атрымліваюць адукацыю ў іншых месцах. Часцей за ўсё — штодзённа ездзяць у Мінск, дзе наведваюць школы ці гімназіі ў Лебядзіным або Вяснянцы.

Аналагічная карціна — з дзіцячымі садкамі. Іх у прыгарадзе два, і гэта відавочна недастаткова. Маладых сем'яў у пасёлку хапае, чэргі ў дзіцячыя садкі яны займаюць ці не ад нараджэння немаўляці (або, як жартуюць, яшчэ «на стадыі праекта»). Але колькасць месцаў радыкальна абмежаваная. Выхад для нашых сацыяльна арыентаваных рэалій усё той жа — едзь у горад, шукай прытулак там.

І нарэшце. Мясцовыя ўлады анансуюць будоўлю шматпавярховікаў на месцы, дзе зусім нядаўна — літаральна ў мінулым годзе — быў высаджаны парк. Прыўрочаны да 155-годдзя нараджэння Івана Здановіча — вядомага доктара і падзвіжніка, які лічыцца заснавальнікам населенага пункта, — парк з'явіўся па ініцыятыве сярэдняй школы і пры дапамозе сельсавета. Акрамя пасадкі сотні маладых дрэваў, там жа быў усталяваўлі памятны знак у гонар знакамітага земляка, правялі публічную цырымонію адкрыцця з удзелам ждановіцкай грамадскасці і раённай прэсы.

І вось прайшоў год. Парк болей не патрэбен? Яго можна зруйнаваць, а на гэтым гектары адгрохаць два хмарачосы?

Пералік сацыяльных праблем, якія мусяць абвастрыцца з уводам у эксплуатацыю новых дамоў, можна працягваць. Гэта і дэфіцыт паркоўак, і насычаны трафік на скрыжаванні вуліц у гадзіны пік... І архаічныя камунікацыі, што ледзьве трываюць, абслугоўваючы цяперашні жыллёвы фонд... Але самы час змяніць ракурс — і ад сацыяльнага аспекту перайсці да палітычнага.

Зрэшты, напачатку зробім агаворку: усё, што ніжэй, — пакуль не пацверджаная інфармацыя. Але яна ёсць — у выглядзе трывожных размоваў жыхароў вуліцы Паркавай. Яны кажуць, спасылаючыся на ўласныя крыніцы і тэлеграм-каналы, што запланаваныя навабуды нібыта прызначаны для супрацоўнікаў АМАПу і ЦІП Акрэсціна. Другім разам у тым не было б нічога заганнага, але ж кантэкст цяпер занадта своеасаблівы.

Праўда гэта ці не — выявіцца ў хуткім часе. Пакуль праект у стадыі грамадскага абмеркавання, якое будзе працягвацца да 30 кастрычніка. У гэтыя ж тэрміны любы з жыхароў можа ў пісьмовай форме выказаць усё, што ён думае з такой нагоды, чым ждановічцы ўжо актыўна займаюцца.

# Хай будзе толькі суддзя. У балаклаве

Марына ЗОЛАТАВА, галоўны рэдактар tut.by

**13 сутак — Дашы Спевак, па 15 — Севу Зарубіну, Вадзіму Заміроўскаму, Арцёму Маёраву і Алесю Любенчуку.**

Гэтыя суткі журналісты атрымалі за тое, што рабілі сваю працу — асвятлялі падзеі, якія адбываюцца ў краіне. А па пратаколе міліцыі «прымалі ўдзел у групе асоб у мітынгу, без адпаведнага дазволу» альбо «аказвалі непадпарадкаванне супрацоўнікам пры выкананні». Або і тое і іншае.

Суддзя Алена Жывіца таксама рабіла сваю працу. Напэўна, стамілася. Прыйшла дадому.

Даша, Сева, Вадзім, Арцём і Аляксандр дадому пакуль не прыйдуць. Вары Зарубінай — 9 гадоў, Яну Заміроўскаму няма і года. Я не ведаю, ці ёсць дзеці ў суддзі Жывіцы. А калі ёсць, што яна кажа ім пра сваю працу? Окей, суд — не дзіцячая справа. Дзецям звычайна чытаюць казкі. Пра Дабро і Зло, пра Праўду і Хлусню. У казках Дабро перамагае Зло. Суддзя чытае казкі сваім дзецям?

Я не ведаю, што сказаць жонкам Вадзіма і Севы.

— Прабачце, вы ж усё разумееце?

А я вось не разумею.

Я не разумею, як можна звяртацца да суддзі «Ваш гонар». Гонар — гэта ж «годныя павагі і гонару, маральныя якасці чалавека; яго адпаведныя прынцыпы».

Я не разумею, як можна ўставаць, калі «суд ідзе».

Так, дарэчы, суддзя і не прасіла. Рашэнні па справах Дашы Спевак і Севы Зарубіна так і зачыталі, не адцягваючыся на дробязі — перапынкі або там уставанні ўсялякія. А адвакату Севы нават не далі выступіць.

Я не разумею, пра што думае суддзя і як яна з гэтым жыве. Сёння чацвярым хлопцам яна дала па 15 сутак і адной дзяўчыне — 13. А Вадзім у адпачынку быў усяго дзесяць. Яны правядуць гэтыя суткі на Акрэсціна або ў Жодзіна. За што? Суддзя Жывіца гэта разумее? Добра разумее?

«Заступаючы на пасаду суддзі, урачыста клянуся перад народам Рэспублікі Беларусь сумленна і добрасумленна выконваць свае абавязкі, ажыццяўляць правасуддзе, падпарадкоўваючыся толькі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, быць непрадузятым і справядлівым, як загадае мне доўг суддзі», — кожны суддзя прыносіць гэтую прысягу перад уступленнем на пасаду.

Я не разумею, навошта наогул суд. Такі, як сёння. Калі доказы не маюць значэння. Фотакамеры, бэйдж на грудзях, пасведчанне, рэдакцыйнае заданне — не маюць значэння. Кадры затрымання, дзе відаць, што падпарадкаваўся і супраціву не аказваў, — не маюць значэння. Паказанні сведак, якія сцвярджалі, што хлопцы ўдзелу ў пратэсце не прымалі, — не маюць значэння. Супрацоўнікі АМАПу, якія затрымлівалі хлопцаў, у пратаколе цудоўным чынам ператвараюцца ў супрацоўнікаў ППСМ, але ў суд нават не з'яўляюцца — і гэта не мае значэння. Час затрымання ў пратаколе не супадае з рэальным? Да д'ябла падрабязнасці! А хадайніцтва аб выпатрабаванні відэа з тэлефона затрыманага аказваецца накіраваным на зацягванне працэсу. А я думала, суд зацікаўлены ва ўсталяванні ісціны.

Вінаваты. 15 сутак.

Я не разумею, навошта ўсе гэтыя будынкі, сакратары, адвакаты, гардэробы, сталовыя, расклады, пратаколы. Навошта ж гэтыя ўмоўнасці? Пустая трата рэсурсаў. Хай будзе толькі суддзя. У балаклаве. Са змененымі асабістымі дадзенымі. Яму ж потым дадому ісці. Да дзяцей. Чытаць казкі. Дзе Дабро перамагае Зло.

# У беларускай мовы ёсць толькі Беларусь

Лілея ПЛЫГАЎКА

**Чаму літоўцы змаглі вырашыць моўнае пытанне, а беларусы ўсё топчуцца на месцы, баючыся, каб хаця б руская мова не пакрыўдзілася на беларускую, калі тая будзе не ў ролі падчаркі, а дачкі ў сваёй маці-Беларусі?**

Пытанне любой нацыянальнай мовы як вырашанае, так і спрэчнае ўжо доўгі час. Асабліва яно абвастраецца тады, калі краіна хоча будаваць сваё жыццё самастойна, але іншая краіна, што трымае яе ў сваёй сферы ўплыву, гэтага, зразумела, не хоча.

І вось, каб не выскачыў народ з «братэрскіх абдымкаў», пачынае мусоліцца моўная тэма. Выводзіцца тэза пра міфічныя крыўды, непаразуменні, апраўданні карыстання чужой мовай дзеля нечага таго, што ніхто і не разумее як след.

Ствараецца штучная праблема, якая баламуціць і палохае людзей. Галоўнае — доўга і шмат гаварыць пра яе і з нейкімі жахлівымі перспектывамі.

Я прыехала ў Літву ў 1991-м. Як толькі Літва аднавіла незалежнасць, яна прыняла Закон аб мовах, які ўсталёўваў за літоўскай мовай статус дзяржаўнай.

Што такое дзяржаўная мова? Зразумела, гэта мова этнасу, які даў пачатак пэўнай дзяржаве. І таму толькі на тэрыторыі гэтай дзяржавы яна можа рэалізоўвацца, захоўвацца і развівацца.

Другое. Дзяржаўны статус мовы дазваляе накіроўваць фінансавыя сродкі на яе даследаванне, рэалізацыю і развіццё. Гэта робіцца для таго, каб мова магла паўнавартасна выкарыстоўвацца ва ўсіх сферах жыцця — справаводстве, заканадаўстве, адукацыі, эканоміцы і г.д.

Памятаю, не ўсе, безумоўна, былі згодныя з тым, што трэба пісаць заявы і лісты па-літоўску. Што трэба здаваць экзамен па літоўскай мове, калі прэтэндуеш на нейкую пасаду.

Але ўсё ж тое, на якой мове звяртацца да свайго народа чыноўніку, кіраўніку ці прэзідэнту, нават і без закона аб мовах не аспрэчвалася. Як не аспрэчваецца, хто для цябе ёсць твае бацькі і твая зямля.

І што ў краіне сёння, праз 30 гадоў? Пры адзінай дзяржаўнай мове кожны размаўляе на той мове, якая для яго зручнейшая ў дадзенай сітуацыі ці калектыве. І разам з тым паважае літоўскую мову, бо гэта ёсць мова дзяржавы, дзе ён жыве.

Дык чаму літоўцы змаглі вырашыць гэтае пытанне, а беларусы ўсё топчуцца на месцы, баючыся, каб хаця б руская мова не пакрыўдзілася на беларускую, калі тая будзе не ў ролі падчаркі, а дачкі ў сваёй маці-Беларусі?

У рускай мовы ёсць Расія, у літоўскай — Літва.... А ў беларускай мовы ёсць толькі Беларусь.

Чаму немцы размаўляюць па-нямецку, палякі — па-польску, французы — па-французску?... І нікога гэта не здзіўляе. Ніхто не патрабуе, каб яны адмовіліся ад сваёй мовы. Ніхто не палохае нацыяналізмам, не кажа, што яны некага крыўдзяць або прыніжаюць.

Я доўга магу тлумачыць гістарычныя прычыны гэтай з'явы, але сёння і без майго тлумачэння ёсць шмат даступнай інфармацыі, урэшце, свая галава, і можна знайсці адказ на гэтае пытанне.

Як і на пытанне: чаму прэзідэнты іншых краін з гонарам прамаўляюць на сваёй мове? А беларускія кандыдаты ў прэзідэнты, наадварот, ігнаруюць мову свайго народа, бо, як неяк прагучала, па-беларуску «ельрусы мяне горш зразумеюць».

Тым самым прыніжаючы беларусаў і робячы з іх нейкіх непаўнавартасных людзей, што нягздольныя ў наш час полілінгвізму зразумець мову, якую чулі ад дзядоў і бацькоў і вывучалі ў школе.

І апошняе. Літва ідзе далей, перастаўшы выдаткоўваць свае сілы на відавочнае. А тыя беларусы, якія пераязджаюць сюды жыць, не разважаюць, трэба ці не ім літоўская мова (як гэта яны робяць у Беларусі), а адразу шукаюць моўныя курсы.

Калі нацыя хоча быць заможнай і самадастатковай, хоча, каб з ёй лічыліся, яна мусіць апекавацца ў першую чаргу СВАЁЙ мовай і культурай, а потым астатнімі. Астатнімі няхай апякуюцца іх краіны.

# Тыя, хто заклікае да сілавога супрацьдзеяння, «ці нічога не разумеюць, ці атрымліваюць за гэта грошы»

**Пасля апошніх жорсткіх затрыманняў у сацсетках і тэлеграм-каналах усё часцей чутныя заклікі: фармат мірных пратэстаў сябе зжыў, на гвалт трэба адказваць гвалтам. Чаму гэта не так, TUT.BY распавядаюць эксперты.**




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

— Нашу сітуацыю наогул недарэчна параўноўваць з падзеямі ва Украіне і Кыргызстане. Там зусім іншая палітычная культура, сіла дзяржавы. У нашым разуменні: у Кыргызстане няма дзяржавы, там вялікая дамоўная тэрыторыя, — каментуе Андрэй Паротнікаў, кіраўнік аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog. — Цяпер пытанне не ў тым: добры ці дрэнны мірны пратэст. На сённяшні дзень — гэта адзіны даступны фармат, які дае высокія шанцы на перамогу, і ўжо многае даў. Калі б не было мірных пратэстаў, не было б наогул ніякіх размоваў пра канстытуцыйную рэформу.

Пры пераходзе да гвалтоўнага пратэсту ў мітынгоўцаў не будзе ніякіх шанцаў. Па-першае, рэжым цалкам перагульвае і па частцы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, і па частцы да гатоўнасці падаўлення пратэстаў. Ён рыхтаваўся да гэтага з 2014 года, пасля падзей ва Украіне, і за шэсць гадоў шмат у чым атрымаў поспех. Таму пры пачатку фазы збройнага чыну сілавікі трапляюць для сябе ў зону камфорту, — упэўнены Андрэй Паротнікаў. — Па-другое, у сілавым супрацьстаянні значэнне мае сілавы рэсурс, а не палітычны або юрыдычны. Тыя пратэсты, якія адбываюцца цяпер, яны ў прынцыпе правамерныя і палітычна апраўданыя. І ў гэтым плане дзеянні рэжыму выглядаюць больш недасканалымі, а сам рэжым знаходзіцца ў больш слабай пазіцыі. Па-сутнасці, ён рэагуе на прайграныя выбары, у сувязі з гэтым такая жорсткасць і такія паводзіны.

— Як толькі ўсё пяройдзе ў фазу сілавога супрацьстаяння, то ні пра якія выбары, палітычныя працэсы і юрыдычныя нормы ніхто ўжо не будзе ўспамінаць. Пераможцам стане той, у каго будзе больш танкаў, таму пераход да сілавой фазы — гэта гульня на карысць уладаў. Людзі, якія да гэтага заклікаюць, альбо не разумеюць гэтага, альбо, наадварот, вельмі добра ўсё разумеюць, і, мяркую, атрымліваюць за гэта грошы. Фактычна, гэта будзе азначаць замарожванне сітуацыі на доўгія гады наперад, таму што ўзброены канфлікт пацягне за сабой увядзенне спецыяльных рэжымаў. Напрыклад, увядзенне надзвычайнага або ваеннага становішча, на працягу якіх выбары не праводзяцца. Як паказвае вопыт некаторых краін, такія рэжымы могуць існаваць дзесяцігоддзямі. Гэта будзе азначаць кансервацыю сітуацыі амаль назаўжды. На мой погляд, заклікі да ўкраінскага або кыргызскага сцэнару з'яўляюцца правакацыяй у інтарэсах улады, таму што яна стала прайграваць у Крамлі, і яе падтрымка там ужо неадназначная.

Эксперт не згодны з меркаваннем, што за два месяцы няма сур'ёзных вынікаў пратэсту.

— Гэты рэжым кансалідаваўся і ствараўся 26 гадоў, за два месяцы ён не абрынецца. Нават пасля змены ўлады спатрэбіцца яшчэ некалькі гадоў, каб прывесці краіну да нечага прыстойнага. Але ўжо цяпер магу сказаць: дамагліся пратэстоўцы вельмі многага. Пратэсты сталі часткай грамадскай культуры — гэта значыць, што будуць жыць сваім жыццём вельмі доўга. Гэта важна з пункту гледжання грамадскай псіхалогіі. Акрамя таго — ёсць падтрымка сусветных дзяржаў, а сам рэжым аказаўся

**Фарміруецца грамадзянская супольнасць, расце запыт на незалежнасць Беларусі. Фактычна, гэта ўжо не пратэст, а палітычны рух па станаўленні дэмакратычнай дзяржавы беларускага народа**

ў палітычнай ізаляцыі. Яго не падтрымалі ні Кітай, ні Крэмль. Давайце будзем рэалістамі: у Маскве ўжо ідуць агледзіны беларускіх палітыкаў, якіх яна гатовая будзе падтрымаць на бліжэйшых выбарах. Лукашэнка страціў манаполію, каб выступаць асноўным і адзіным партнёрам Масквы ў Беларусі.

Пра важнасць захаваць пратэст мірным кажа і былы супрацоўнік МУС, сябра Каардынацыйнай рады Юрый Гушча. Ён адзначае: мірны пратэст — не значыць «пакорны і маўклівы пратэст», які гатовы забыцца пра гвалт з боку сілавікоў.

— Пераход пратэсту ад мірнага да ўзброенага — гэта вельмі небяспечны шлях, перад перспектывай якога мы рызыкуем цяпер аказацца. Гэты шлях — недапушчальны і пацягне за сабой сур'ёзныя наступствы — як прававыя, так і палітычныя, — адзначае наш суразмоўца. — З іншага боку, мірны пратэст — гэта зусім не маўклівы пратэст, які ніяк не рэагуе на факты адвольнага перавышэння ўлады з боку так званых органаў праваахова. І калі мы гаворым пра тое, што беларусаў заклікаюць змяніць тактыку і сысці ад мірнага характару пратэсту да радыкальнага, давайце разбярэмся: а хто заклікае? З чыіх вуснаў узніклі такія заклікі? Як паказвае аналіз апошніх падзей, менавіта ўлада і падштурхоўвае людзей да радыкалізацыі. Напрыклад, ужывае гвалт да пенсіянераў, да мірных пратэстоўцаў — спецсродкі (вадамёты, пярцовы газ, гумовыя палкі). І пры гэтым робіць адкрыта неабдуманыя заявы пра гатоўнасць прымяняць баявую зброю. Усялякая эскалацыя і папярэджанні ўлады аб магчымасці ісці на крайнія меры — вельмі небяспечныя. Дзе гарантыя, што гэтым не скарыстаецца якая-небудзь трэцяя сіла, якая ў напаленай да мяжы абстаноўцы не пачне страляць па абодвух баках?

— Што тычыцца беларускіх мірных пратэстаў як з'явы, то яны, насуперак існаму меркаванню, паказваюць высокую эфектыўнасць, — упэўнены Юрый Гушча. — Яны ўжо разглядаюцца як феномен і прыкавалі да сябе ўвагу ўсяго свету. Імі захапляюцца, іх вывучаюць, але самае важнае — на якія зрухі яны штурхнулі ўладу. Пасля выбараў яна казала: ні з кім размаўляць не будзе, тым больш, з вуліцай, бо яе прадстаўляюць палітычныя авантурысты, праплачаныя Захадам людзі. І ўжо, тым больш, улада ніколі не стане размаўляць з тым, каго мы называем палітвязнямі. І што адбылося? Лукашэнка паехаў дамаўляцца ў СІЗА КДБ аб канстытуцыйнай рэформе з гэтымі самымі палітвязнямі! За вельмі кароткі тэрмін улада, што да гэтага часу лічылася моцнай і маналітнай, прайшла шлях ад публічнага адмаўлення да публічнага прызнання неабходнасці дыялогу. І яшчэ — беларускі мірны пратэст паўплываў на перагляд пэўных стэрэатыпаў на іх у Расіі. Параўнайце заявы расійскага міністра Сяргея Лаўрова ў жніўні і цяпер.

— Міліцыя слабая перад мірнымі пратэстамі. Чаму? Па-першае, падрыхтаваных сіл не так шмат, і ўжо задзейнічаны ўсе — пачынаючы ад аператыўных падраздзяленняў да курсантаў і выкладчыкаў Акадэміі МУС. Па-другое, гэтых сіл і сродкаў першапачаткова аказалася нашмат менш, чым звычайна сабе ўяўляюць людзі. У першы эшалон стрымлівання пратэстаў аказаліся кінутыя ўсе сілы, без фарміравання рэзерваў, ратацыі — і гэта прывяло да таго, што байцы вельмі стаміліся, а замяніць іх няма кім. А наогул уся міліцыя і войскі рэальна стаміліся, працуюць кругласутачна на ўзмоцненым варыянце нясення службы пачынаючы з ліпеня і на мяжы сваіх фізічных магчымасцяў. Ніхто з вялікіх міліцэйскіх начальнікаў не думаў, што так усё зацягнецца: усе разлічвалі на тое, што справіцца з народам атрымаецца бліцкрыгам — за два дні. Сітуацыю пагаршае тое, што ніхто з іх не можа прадбачыць, колькі яшчэ так давядзецца працаваць, але ўсе ўжо зразумелі: гэта надоўга. Асабліва варта адзначыць, што праваахоўнікі, якія працуюць на мітынгах, вельмі дрэнна кіруюцца, тактыка іх дзеянняў у асаблівых умовах масавых мерапрыемстваў не вытрымлівае ніякай крытыкі. Дастаткова прааналізаваць хоць бы, як непрафесійна выкарыстоўваюцца тыя ж вадамёты — пратэстоўцам дастаткова было пары хвілін, каб вывесці іх з працоўнага стану, да таго ж большая частка рэзерваў ёмістасцяў вадамётаў выдаткоўваецца на забруджванне асфальту і вокнаў дамоў.

А яшчэ супрацоўнікі міліцыі нарэшце сталі разумець карціну таго, што адбываецца, і на сабе адчуваць, як да іх ставіцца беларускі народ. Гэта дэмаралізуе і выклікае страх перад будучыняй, перад перспектывай адказнасці. І колькасць затрыманых падчас мірных акцый не сведчыць пра сілу, гэта праява слабасці і непрафесіяналізму.

— Важна адзначыць, што і сілаў у пратэстоўцаў для сілавога супрацьстаяння, скажам праўду, замала, большасць беларусаў пакуль за мірнае адстойванне сваіх канстытуцыйных правоў, — лічыць вайскова-палітычны аглядальнік Ягор Лебядок. — Тыя, хто заклікае да сілавога супрацьстаяння, разумна кажуць, што ахвяры ўжо ёсць і маштабны тэрор адбываецца цяпер (арышты, звальненні, пагрозы адабраць дзяцей), таму, маўляў, трэба выступіць сёння. Але ўсё ж пакуль відаць, што Лукашэнка палітычна аслабеў: і паход у СІЗА, і канстытуцыйныя рэформы, і іншыя спробы беспаспяхова выйсці з тупіка. Прыкметна аслабленыя ключавыя арганізацыі дэманстрацыі падтрымкі: прафсаюзы, «Белая Русь», БРСМ. Крызіс нарастае, а фінансавыя рэсурсы ў гэтых умовах прывязаныя да Расіі, якая перайшла на выдачу крэдытаў за выкананне патрабаванняў. Сілавыя структуры не сталі, дый не стануць мацнейшымі, чым ёсць. Таму пры бягучым развіцці падзей час працуе не на Лукашэнку.

— Але беларускі пратэст — гэта не толькі «вуліца», а трансфармацыя сістэмы адзінаасобнай улады Лукашэнкі знутры. Выхад людзей на вуліцу — гэта толькі адзін з працэсаў, якія адбываюцца цяпер. Вядома, Лукашэнка на яго рэагуе самым актыўным чынам, паколькі вялікая колькасць людзей на вуліцах — гэта разбурэнне віртуальнай рэальнасці татальнай падтрымкі, якой з'яўляецца любая дыктатура для апалітычнага абывацеля.

Такія працяглыя мірныя шэсці грамадзян маюць значэнне для праціўнікаў Лукашэнкі, не так актыўных у знешніх праявах, але якія важныя для сацыяльных працэсаў трансфармацыі сістэмы ўлады. І, галоўнае, мірныя дэманстрацыі працуюць па людзей у сістэме ўлады Лукашэнкі (вядома, не на вышэйшых чыноўнікаў), паказваюць, што гэта не наркаманы і засланыя Захадам ворагі, а беларускія грамадзяне, якія дамагаюцца сумленных выбараў. Выхад нармальных мірных людзей разбурае віртуальную бурбалку быцця дзяржслужбоўцаў, ва ўяўленні якіх дэманстранты абавязкова павінны быць агрэсіўныя і нізкага сацыяльнага ўзроўню. Усмешкі і шарыкі якраз накіраваныя на такіх людзей — людзей у сістэме ўлады Лукашэнкі — а не на сілавікоў, як многія блытаюць.

Фарміруецца грамадзянская супольнасць, расце запыт на незалежнасць Беларусі, адбываецца (сама)навучанне грамадзян палітычнаму жыццю і ўсведамленне яго важнасці. Фактычна, гэта ўжо не пратэст, а палітычны рух па станаўленні дэмакратычнай дзяржавы беларускага народа.

# «Трэба перастаць баяцца і

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Супрацоўніца Мінскага трактарнага завода распавяла «Новаму Часу», якія настроі цяпер у працоўных, чаму калегі не падтрымалі экс-лідара стачкама МТЗ Сяргея Дылеўскага і ці гатовыя завадчане далучыцца да ўльтыматуму Святланы Ціханоўскай ды распачаць страйк.**




### «Нягледзячы на словы Лукашэнкі, зарплата падае»

Ульяна Гарбачова прыйшла працаваць на МТЗ у 19 гадоў. Тады ёй тэрмінова патрэбная была праца, таму яна пагадзілася на першую ж прапанову, нават не ведаючы яе спецыфікі.

— Начальнік цэха прапанаваў пайсці на штампоўку, і я, яшчэ не заходзячы ў цэх, пагадзілася. Прыйшла на завод, убачыла сваё працоўнае месца — аказалася, што на штампоўцы працаваць вельмі цяжка, — узгадвае Ульяна.

Адпрацаваўшы год і сыходзячы ў адпачынак, Ульяна нават думала пра звальненне, хаця заробак па тагачасных мерках у яе быў добры. Але, калі вярнулася з адпачынку, убачыла абвестку пра набор на навучанне пры заводзе машыністаў крана. Прайшла навучанне — і вось ужо 10 з паловай гадоў з тых 12-ці, што працуе на МТЗ, Ульяна — машыніст крана.

— Калі я перайшла са штампоўкі, згубіла амаль палову заробку, — дзеліцца суразмоўца. — Хоць Лукашэнка і гаворыць, што ў нас на заводах высокія зарплаты, але, каб зарабіць тыя ж 500 долараў — гэта калі яшчэ долар не ўзляцеў, — трэба было раз на тыдзень заставацца ў падоўжаны (працаваць з 7 раніцы да 7 вечара) і выходзіць па ўсіх суботах. А праз нашы крызісы зарплата пастаянна падае: калі я сыходзіла ў дэкрэтны адпачынак, яна была ў мяне 500 долараў, калі вярнулася — 350.

### «Бастуем — дык бастуем»

Па словах Ульяны, на супрацоўнікаў завода ціску перад выбарамі не было. За адным выключэннем.

— Ведаю, што людзей, якія жывуць у інтэрнатах ад МТЗ, добраахвотна-прымусова прасілі прыйсці і прагаласаваць датэрмінова, — распавядае Ульяна. — Ужо тады людзі былі запалоханыя, баяліся, што іх выкінуць з інтэрнатаў. Хаця я казала ім, што, нават калі б жыла ў інтэрнаце, усё роўна пайшла б галасаваць у дзень выбараў і за таго, за каго мне трэба.

Адразу пасля выбараў, зазначае суразмоўца, на МТЗ не было масавага абурэння тым, што ў працоўных скралі іх галасы. Калі такія ўспышкі і былі, то кропкава, і іх было мала. Але гвалту з боку сілавікоў супраць мірных пратэстоўцаў у першыя паслявыбарчыя дні завадчане стрываць не маглі.

У пятніцу, 14 жніўня, працоўныя сабраліся спачатку на ўнутранай тэрыторыі МТЗ, тады да іх прыехаў прэм'ер-міністр. Супрацоўнікам паабяцалі, што пусцяць да іх прэсу, але так і не пусцілі. Таму яны самі вырашылі выйсці да журналістаў.

— 13 жніўня напрыканцы змены ў нас быў сход, дзе людзі «на каленцы» напісалі свае патрабаванні дырэктару. Ён прапанаваў сабрацца 14 жніўня ў 3 гадзіны і ўсё абмеркаваць. Але мы падумалі: навошта чакаць — і сустрэліся ў 10 раніцы. Бастуем — дык бастуем. Выйшлі нечакана і паклікалі дырэктара, ён тады разгубіўся, — узгадвае Ульяна.

Людзей на наступны дзень, сапраўды, выйшла шмат. Абралі стачкам і яго старшыню — Сяргея Дылеўскага. Пасля гэтага завадчане пайшлі на плошчу.

— Людзей было вельмі шмат, і яны былі настроеныя на забастоўку, — гаворыць Ульяна Гарбачова.

### Прафсаюз адмовіўся ад людзей — людзі адмаўляюцца ад прафсаюза

У панядзелак, 17 жніўня, Ульяна прыйшла ў цэх, але не пераапраналася і да працы не прыступала. У той дзень працоўныя з МТЗ і Мінскага маторнага завода пайшлі падтрымаць калег на МЗКЦ (тады да іх прыязджаў Лукашэнка, і яму крычалі «Сыходзь!»).

— Нам тады адкрылі турнікеты (на прахадной МТЗ. — НЧ.), некаторыя нават падумалі, што дырэктар нас падтрымлівае, хаця я так не думала. Мы пайшлі маршам на МЗКЦ, было як мінімум 4 тысячы чалавек ад завода, — кажа суразмоўца.

Але ўжо на наступны дзень, 18 жніўня, многія людзі пакрысе сталі прыступаць да працы. Калі сябры стачкама пайшлі да дырэктара, каб перадаць патрабаванні завадчан, ім далі зразумець, што забастоўку абвяшчаць нельга. Людзей пачалі запалохваць. Таму многія, па словах Ульяны, у душы падтрымліваюць страйк, але самі баставаць не гатовыя.

Паколькі афіцыйна страйк абвясціць было нельга, сябры стачкама дамовіліся сустрэцца ў абед і абмеркаваць далейшыя планы.

— Нас сабралася дастаткова шмат, мы паклікалі старшыню прафкама — чамусьці думалі, што прафсаюз нас абароніць. Але пачулі яго мармытанне — і зразумелі, што прафсаюз ад нас адмовіўся. Пасля гэтага мы сталі масава выходзіць з прафсаюза.

Ульяна зазначае, што да жніўня гэтага года ў афіцыйным прафсаюзе "БЕЛПРОФМАШ" не знаходзілася 15% супрацоўнікаў МТЗ. Цяпер гэтая лічба складае ўжо 30% і працягвае расці. Да таго ж з'явілася альтэрнатыва: на заводзе створана пярвічная арганізацыя незалежнага прафсаюза РЭП.

### «Ім усё роўна, а на прахадной ім крычаць: "Малайцы!"»

— Суслянкоў (намеснік генеральнага дырэктара МТЗ па ідэалагічнай працы, кадрах і сацразвіццю Андрэй Суслянкоў. — НЧ.) прапанаваў тым, хто хоча баставаць, напісаць заявы за свой кошт на тры дні — з серады па пятніцу. Людзі сталі пісаць, хаця на гэта пайшлі нямногія — каля 300 чалавек з усяго завода. А мы яшчэ стаялі і казалі, што не збіраемся сядзець дома, а заўтра прыедзем у 7 раніцы, як на працу, і будзем хадзіць па цэхах і агітаваць людзей.

А яшчэ ў аўторак для мяне быў такі непрыемны момант, калі нас прыехалі падтрымаць людзі, яны прывезлі ваду, ежу. Мы ўжо тады ведалі, што забастоўкі не будзе, але яшчэ стаялі на прахадной, спрабавалі сабраць працоўных. Але яны праходзяць міма, ім увогуле ўсё роўна. Яны выходзяць за прахадную, і мы чуем, як ім там крычаць: «Малайцы!», апладзіруюць. А я стаю, і мне настолькі брыдка, у душы ўсё пераварочвалася. А тыя людзі бралі гэтую ежу, не разумеючы, для чаго яна, ішлі потым на «Крышталь» і ёй закусвалі. Калі я выйшла, я выцірала слёзы — і мне было сорамна нешта ўзяць, бо я ведала, што наш завод ужо даў задні ход.

А ў сераду, 19 жніўня, завадчан да галоўнай прахадной а 6.30 раніцы прыйшлі падтрымаць сотні мінчан. І тады на прахадную МТЗ нагналі АМАП, а тым, хто напісаў заявы за свой кошт, проста заблакавалі пропускі, і яны не змаглі прайсці на завод.

— Адміністрацыя выйграла час: яны паспелі данесці да людзей, што ніякая забастоўка нам не патрэбная, унушыць ім, што завод памрэ і больш не паднімецца.

### З цэха Дылеўскага ніхто не прыйшоў яго падтрымаць

А ў панядзелак, 24 жніўня, арыштавалі Сяргея Дылеўскага.

— Тады я была проста ў шоку ад яго цэха — механічны цэх № 5, — прызнаецца Ульяна. — Я сама туды прыходзіла, мы вырашылі сабрацца ў абед і вырашыць, што рабіць далей: абвясціць забастоўку і запатрабаваць, каб Сяргея вызвалілі. Мы чакалі першых дзеянняў ад 5-га механічнага цэху, бо чалавек адпрацаваў там шмат гадоў. Я казала людзям, што ён на Акрэсціна, а яны не ведалі. І калі мы сустрэліся з тымі, хто хацеў падтрымаць Дылеўскага, прыйшло вельмі мала людзей, а з яго цэха не прыйшоў увогуле ніхто.

Пасля гэтага тыя, хто хацеў пратэставаць, вырашылі выходзіць на працу і працаваць у рэжыме італьянскай забастоўкі. Да цяперашняга дня ўсе завадскія актывісты так і працуюць.

Ульяна прызнаецца, што ў многіх людзях, з якімі працуе побач шмат гадоў, яна расчаравалася, бо страх у іх аказаўся мацнейшым за жаданне быць свабоднымі.

— Я магу параўнаць з сабой: у мяне таксама ёсць крэдыт, маленькае дзіця, я ў разводзе. Яшчэ і маме дапамагаю, таму што яна засталася без пенсіі дзякуючы рэформам, — распавядае суразмоўца. — Таму, калі людзі гавораць, што яны баяцца, гэта як апраўданне нейкае. Дзеці — як прыкрыццё. Часам у мяне складваецца ўражанне, што людзі прывыклі да нейкага мінімальнага камфорту і баяцца яго страціць. Я разумею, што пагрозы страціць працу і даход — цалкам рэальныя, але я веру ў Бога і ў справядлівасць і лічу, што кожны атрымае сваё. Атрымаюць усе: тыя, хто прымяняе фізічны і псіхалагічны гвалт у адносінах да людзей, і тыя, хто сядзіць адмоўчваецца.

Ульяна гаворыць, што гвалт над людзьмі падчас разгону маршаў стаў штуршком для новай актывізацыі працоўных на заводзе. Але яна да гэтага часу не разумее, як яны дапусцілі звальненне Сяргея Дылеўскага.

— Пасля вызвалення ён увесь час казаў, што не хоча сыходзіць з завода, ён хацеў займацца незалежным прафсаюзам, яму гэта было вельмі цікава, у яго гарэлі вочы. Але спачатку яго хацелі звольніць, бо не давалі дакументаў з Акрэсціна. Там сказалі, няхай адміністрацыя завода дае запыт. Адміністрацыя запыт не дала. Але начальнік аддзела, які налічвае нам заробкі, сказаў, што ведае, дзе ён быў, і закрыў яму гэтыя дні. Аднак наш Суслянкоў паставіў Сяргея перад фактам: альбо ты звальняешся сам, альбо звольнім тваіх бацькоў. Сяргей паразмаўляў з імі і вырашыў, што бацькі — гэта святое, і яму давядзецца звольніцца.

Па словах Ульяны, абвяржэнню, якое пасля звальнення Дылеўскага прагучала з вуснаў Андрэя Суслянкова, не верыць ніхто.

— Але сыход Дылеўскага яго калегі ўспрынялі спакойна. Ведаючы яго, калі б кагосьці звальнялі, ён стаў бы за гэтага чалавека і сказаў бы, што таксама будзе звальняцца. Але калегі яго не падтрымалі, і ў яго засталася крыўда.

### Забіраюць з працы, не даючы пераапрануцца

Але рэпрэсіі на МТЗ зазнаў не толькі Сяргей Дылеўскі. У верасні супрацоўніка завода Вадзіма Пайвіна выклікала на размову кіраўніцтва, а калі ён прыйшоў — яго забралі супрацоўнікі МУС, завезлі ў міліцыю, а потым — на

# паказаць, хто такія працоўныя»

Акрэсціна на трое сутак. Яго абвінавачвалі ва ўдзеле ў пратэстах, але вызвалілі ў зале суда і справу адправілі на дапрацоўку. Тым не менш, Вадзіма Пайвіна звольнілі. Фармальна — за прагул. Вадзім баяўся выходзіць на працу пасля Акрэсціна, чакаў, што яго зноў могуць забраць. Прасіў дзень за свой кошт, але яму яго не далі. Звальненне за адзін прагул — нонсэнс, зазначае Ульяна. Бо, бывае, людзі не ходзяць на працу тыднямі, і нейкім чынам застаюцца працаваць.

Некалькі тыдняў таму такім жа чынам на размову да начальства выклікалі 23-гадовага Міраслава Сабчука. Яго забралі супрацоўнікі МУС наўпрост з працоўнага месца. Пазней хлопцу прысудзілі 15 сутак арышту. Міраслаў удзельнічаў у запісе відэазваротa завадчан супраць гвалту.

— Той факт, што людзей забіраюць наўпрост з завода, усіх вельмі абурае, бо гэта стаўленне як да скаціны. Да таго ж гэтаму спрыяе наша вышэйшае кіраўніцтва — без яго санкцыі ніхто на завод не зойдзе. Таксама людзей абурае, што таму ж Мірaславу не далі нават пераапрануцца ў яго адзенне, а забралі ў працоўным касцюме. Яго забралі ў чацвер, і 1,5 сутак ні адвакат, ні мама не ведалі, дзе ён, у РУУСах не давалі ніякай інфармацыі. Ён тыдзень быў на Акрэсціна ў гэтым халодным касцюме.




Фота Ірыны Арахоўскай з фотапраекта «Галоўныя людзі»

Ульяна распавядае, што многія завадчане проста не маюць доступу да гэтай інфармацыі, і калі ім яе даносіш, яны атрымліваюць шок.

Сама Ульяна таксама зведала затрыманне і суд. Яна трапіла ў аўтазак 6 верасня, калі сілавікі разагналі калону падчас нядзельнага шэсця на вуліцы Чабатарова ў Мінску.

— Мяне пратрымалі ў Заводскім РУУСе і бліжэй да 11 вечара адпусцілі, бо трапіла першы раз, і дома маленькае дзіця, — узгадвае Ульяна. — Мне прысудзілі 20 базавых штрафу. На судзе было вельмі смешна слухаць сведку па празвішчы Ціtoў. Ён не мог назваць вуліцу, на якой праходзіла затрыманне, і гаварыў, што гэта было падчас жаночага маршу.

Ульяну, якая з калегамі ўдзельнічала ў запісе відэазвароту супраць гвалту, таксама выклікала на размову кіраўніцтва. Ёй далі зразумець, што па-за межамі завода яна можа рабіць усё, што заўгодна, але на тэрыторыі прадпрыемства — не.

### «Людзі выйдуць, бо іх даводзяць, і яны перастаюць баяцца»

Ульяна мяркуе, што працоўныя падтрымаюць ультыматум, які Святлана Ціханоўская абвясціла Аляксандру Лукашэнку з патрабаваннем яго адстаўкі. Суразмоўца цалкам дапускае пачатак забастоўкі пасля 25 кастрычніка.

— Калі працягнецца гвалт, за гэты час працягнуць забіраць з завода актывістаў, то людзі выйдуць, бо іх даводзяць, і яны перастаюць баяцца, — лічыць яна.

Звяртаючыся да калегаў, Ульяна Гарбачова зазначае:

— Ва ўсіх былі моманты, калі мы чагосьці хацелі, але не зрабілі, і потым шкадавалі пра гэта. Бо час назад не вернеш і нічога не зменіш. Я хачу звярнуцца да працоўных, каб яны задумаліся пра тое, што адбываецца ў краіне. Калі яны думаюць, што іх і іх родных гэта не закране, то яны памыляюцца. Гвалт і смерці ўжо былі, і каб гэтага не паўтарылася, трэба праявіць салідарнасць, перастаць баяцца і паказаць, хто такія працоўныя. Галоўныя — мы, усё залежыць ад нас. Гэта не мы павінны баяцца кіраўніцтва, а нашае кіраўніцтва павінна баяцца нас. Бо працоўныя — гэта аграмадная моц. Калі мы хочам свабодную незалежную краіну, то мы павінны аб'ядпацца, агучыць свае патрабаванні і настаяць на тым, каб іх выканалі.

Мы ўсе даўно працуем на МТЗ і зычым яму толькі лепшага, а лепшае будзе тады, калі ў краіне адбудуцца змены. Не трэба баяцца рэпрэсій, бо фонды, створаныя для падтрымкі працоўных і рэпрэсаваных, насамрэч дапамагаюць.

Людзі, якія змагаліся за тое, каб зрабіць нашу краіну сапраўды незалежнай і палепшыць яе становішча, цяпер з'яўляюцца палітзняволенымі і знаходзяцца ў жахлівых умовах. Калі мы спынімся, то яны застануцца там. Мы ўдзячныя ім за тое, што яны рабілі, — і гэта яшчэ адна нагода давесці нашу справу да канца і дамагчыся таго, каб яны выйшлі на волю.

# «Чаму спускацца ў шахту вам не страшна, а на зямлі вы спалохаліся?»

**Дачка аднаго з былых шахцёраў напісала ліст-зварот да шахцёраў «Беларуськалія». Гэты ліст размешчаны ў тэлеграм-канале стачкама «Беларуськалія».**

«Паважаныя шахцёры! — піша жанчына. — Няма больш сіл маўчаць. Я дачка шахцёра, і ваша цяжкая і небяспечная праца мне добра вядомая. Бацька, як аказалася, зберагаў нас ад дрэнных навін. Пра шматлікія небяспечныя выпадкі я даведалася праз 8–10 гадоў, калі ён ужо быў на пенсіі. Але адзін выпадак нашай сям'і давялося перажыць: напарнік бацькі загінуў у яго на вачах (засталіся толькі ногі). І пасля гэтага бацька зноў спускаўся ў шахту.

І вось ведаючы тое, што страх вам не ўласцівы, мяне хвалюе пытанне: чаму спускацца ў шахту вам не страшна, а на зямлі вы спалохаліся?

Я даўно жыву ў іншым горадзе, але калі вы абвясцілі страйк (у жніўні) я крычала ад радасці: "Калі шахцёры выйшлі — значыць, мы пераможам!" Вашы напарнікі, калегі, бачачы вашу падтрымку, выйшлі наперад, каб прадстаўляць вашы інтарэсы, казаць ад імя тысяч чалавек. Гэтыя мужчыны смела пайшлі наперад, ведаючы, што за іх спінай велізарная падтрымка, але праз пару дзён ад яе не засталося і следу. Гэта чыстая падстава (іншых слоў я не знаходжу).

Калі ваш калега не выйшаў на гара, яго прыйшлі падтрымаць 23 чалавекі. У выніку іх усіх павезлі ў РУУС. Скажыце, а калі б вас было 123, вас бы забралі? Вы адказаце: "так". Можа, і так. Але пакуль бы прыехалі аўтазакі са Слуцка і Мінска, вас магло быць 1023. Ды месцаў б не хапіла ў СІЗА і ІЧУ, прыйшлося б зэкаў з турмаў выганяць, вызваляць вам нары.

З расповедаў бацькі я добра ведаю адно: калі вы ідзяце на змену, вы давяраеце сваё жыццё напарніку, вы ў ім упэўненыя, як і ён упэўнены ў вас. У вас на працы ёсць шмат выпадкаў, калі менавіта напарнік, рызыкуючы сваім жыццём, ратаваў вас.

Калі вы будзеце стаяць перад выбарам: як дзейнічаць? Уявіце, што вы ідзяце на змену. Вы глядзіце направа — напарніка няма, глядзіце налева — напарніка няма, паварочваецеся назад — ваш напарнік стаіць у счэпцы насупраць АМАПу. Што зробіце? Пайсці на змену (без яго) або стаць побач?

Салідарнасць — гэта ўсё, што зараз мы хочам бачыць адзін ад аднаго. Паглядзіце на сілавікоў — гэта прыклад салідарнасці (адмоўны, але паказальны). Ім таксама ёсць што губляць, яны ў такіх жа ўмовах, што большасць з нас, але яны стаяць плячом да пляча з напарнікамі і не падстаўляюць іх пад «раздачу». І станоўчы прыклад — салідарнасць спартсменаў: ліст падпісалі 683 чалавекі: мужчыны, жанчыны, падлеткі, знакамітыя спартсмены і першаразраднікі. Ім таксама ёсць што губляць. Не кожны можа спакойна з'ехаць у замежжа і зарабляць, ды і большасць з іх не хочуць нікуды з'язджаць.



Фота www.lider-press

Самае крыўднае цяпер — тое, што вельмі шмат каму стала цяжка мець зносіны: бацькі з дзецьмі, калегі, сябры і г.д. пачынаюць пра надвор'е, а заканчваюць палітыкай. І вось я зразумела адну рэч: як жа так! Адзін чалавек змог парушыць спакой, падтрымку, павагу і любоў у маёй сям'і, сярод маіх сяброў! Гэты чалавек мне ніхто, я ніколі з ім не бачылася, а ён змог улезці ў маё жыццё і разбурыць мой «свет». Я ўсімі сіламі спрабую супрацьстаяць гэтаму і не дапускаць яго з'яўлення ў маёй сям'і, а ён лезе і лезе.

Дапамажыце! Усе ўжо разумеюць, што будзе горш. Пры ім або без яго, але мы апускаемся ў калодзеж з лайном. Вось толькі ёсць розніца: апускацца павольна і пакутліва ці хутка. Шлях наверх аднолькавы ў абодвух выпадках. Дык можа варта набраць паболып паветра і ўніз?

Калі я распавядаю пра вашу зарплату, мне не вераць. Кажуць: "Гэта ў доларах?" Вашу працу староннія людзі ацэньваюць у тры разы больш, чым вы атрымліваеце. Можа, так і павінна быць!

Я схіляюся перад вашай працай, адвагай і мужнасцю.

Беражы вас Бог! Кожнага!

16.10.2020 г. Н. С.»

# Што робяць у Беларусі вайскоўцы, якія акупавалі Крым і Данбас ды спецпадраздзяленні «Росгвардии»?

Дзяніс ІВАШЫН

**Пад прыкрыццём чарговых вайсковых манеўраў і спаборніцтваў на тэрыторыю Беларусі перакінутыя вайскоўцы аднаго з асноўных фарміраванняў са значным баявым досведам, атрыманым падчас акупацыі Крыму і баёў у Данбасе, а таксама спецпадраздзяленні «Росгвардии».**

Сумесныя вучэнні Арганізацыі дамовы пра калектыўную бяспеку (АДКБ) «Нерушимое братство 2020» праходзілі ў Беларусі з 12 па 16 кастрычніка. Месцам іх правядзення быў навучальна-тактычны палігон у Віцебскай вобласці «Лосвіда» 103-й асобнай паветрана-дэсантнай брыгады (103-я АПДБр) Сіл спецыяльных аперацый УС РБ. У вайсковых манеўрах прынялі ўдзел больш за 900 чалавек асабовага складу. Былі задзейнічаныя больш за 120 адзінак узбраення, вайсковай і спецыяльнай тэхнікі (УСВТ).

Вучэнні «Нерушимое братство» адбываюцца з 2012 года на тэрыторыі кожнай з краінаў-удзельніц АДКБ. Першы раз на тэрыторыі Беларусі гэтыя манеўры праходзілі ў 2016 годзе на 230-м агульнавайсковым палігоне «Абуз-Лясноўскі» пад Баранавічамі.

### Камандаванне і склад удзельнікаў

Непасрэднае кіраўніцтва вучэннямі здзяйсняў начальнік Аб'яднанага штабу АДКБ генерал-палкоўнік Анатоль Сідараў.



**Анатоль Сідараў падчас вучэнняў «Нерушимое братство 2020» на палігоне «Лосвіда» ў Віцебскай вобласці**

Паводле інфармацыі Цэнтру «Міратворац», Анатоль Сідараў з'яўляецца кіраўніком распрацоўкі плану поўнамаштабнай ваеннай агрэсіі супраць Украіны, які вайскова-палітычнае кіраўніцтва РФ збіралася рэалізаваць увесну-ўлетку 2015 года. Са снежня 2012 года камандуючы войскамі Заходняй вайсковай акругі (ЗВА) УС РФ. Непасрэдна датычны да прыцягнення злучэнняў і фарміраванняў ЗВА ў ваенную агрэсію супраць Украіны. Мае наўпростую датычнасць да перакідвання на акупаваную тэрыторыю Украіны ЗРК «Бук-М1» 53-й зенітна-ракетнай брыгады ЗВА, з дапамогай якога ў ліпені 2014 года быў збіты пасажырскі самалёт рэйсу MH17. У верасні 2015 года ўключаны ў санкцыйны спіс Украіны, а ўжо ў лістападзе гэтага года прызначаны на пасаду начальніка Аб'яднанага штабу АДКБ.

Ад расійскага боку ў вучэннях удзельнічалі звыш за 140 чалавек асабовага складу: вайскоўцы 15-й асобнай мотастралковай брыгады Міратворчых сілаў (15-я АМСБр) УС РФ, прадстаўнікі зводнага атраду вайсковай паліцыі Цэнтральнай вайсковай акругі, байцы спецназу «Росгвардии» і ратаўнікі МНС РФ. Авіяцыйную кампаненту прадстаўляла вайскова-транспартная авіяцыя (ВТА) і, меркавана, 562-я авіяцыйная база армейскай авіяцыі. Былі задзейнічаныя прыкладна 40 адзінак УСВТ.

На тэрыторыі Беларусі былі зафіксаваныя 4 верталёты ПКС РФ: 2 дэсантна-транспартныя Мі-8АМТШ «Тэрмінатар» і 2 ударныя Мі-24. Падчас правядзення вучэнняў яны выкарыстоўвалі вайсковы аэрадром «Бараўцы» ў Полацкім раёне. Характэрна, што баявыя машыны 562-й авіябазы прымалі актыўны ўдзел у расійскай агрэсіі ў Сірыі.

Вызначана, што расійскі вайсковы кантынгент быў перакінуты самалётам Іл-76МД ВТА з Самары на аэрадром «Віцебск». Задзейнічаныя ў вучэннях УСВТ, у тым ліку БТРы, бронеаўтамабілі «Тыгр» і «Тайфун», былі перакінутыя чыгуначным спосабам і пераадолелі агулам амаль паўтары тысячы кіламетраў.

Ад Беларусі ўдзельнічалі вайскоўцы 103-й АПДБр Сіл спецыяльных аперацый УС РБ, у тым ліку адзіная ў краіне міратворчая рота гэтага злучэння, 50-й змяшанай авіябазы, пантонна-маставых батальёнаў 188-й і 557-й інжынерных брыгадаў. Удзел прымалі таксама супрацоўнікі МНС і Унутраных войскі МУС, у тым ліку вайскоўцы 3-й асобнай брыгады спецназу (в/ч 3214), спецпадраздзяленне якой у жніўні 2020 года было зафіксавана падчас брутальнага задушэння адной з пратэставых акцый у Мінску.

### Грунтоўная змена фармату манеўраў

У АДКБ уваходзяць шэсць дзяржаў — Расія, Беларусь, Арменія, Казахстан, Кыргызстан і Таджыкістан. Як правіла, у штогадовых супольных вучэннях удзельнічаць падраздзяленні ад усіх гэтых дзяржаў.

Сёлета ад удзелу адмовілася Арменія, чый дэмарш можа




**Ідэнтыфікацыя 3-й АБрСПН (в/ч 3214) паводле ідэнтыфікацыйнага пазначэння яе падраздзялення, якое шмат хто ўспрымаў за трыкалор расійскага сцяга. Першы фотаздымак зроблены падчас пратэставай акцыі ў Мінску, другі і трэці — падчас вучэнняў «Нерушимое братство 2020»**

быць растлумачаны ненаданнем ёй належнай падтрымкі з боку АДКБ падчас абвастрэння ваеннага канфлікту з Азербайджанам. Свой вайсковы кантынгент вырашыў не дасылаць сёлета і Кыргызстан, абцяжараны ўласнай унутрыпалітычнай сітуацыяй. Прадстаўнікі Казахстану ўдзельнічалі толькі ў якасці наглядальнікаў. У інфармацыйнай прасторы Таджыкістану згадкі пра гэтыя вучэнні практычна адсутнічаюць, не было заўважанае і зводнае падраздзяленне гэтай краіны падчас афіцыйнага адкрыцця вучэнняў.

Паводле словаў начальніка Генштабу УС РБ Аляксандра Вальфовіча, самыя буйныя кантынгенты на сёлетніх вучэннях былі ад Расіі і Беларусі. Па сутнасці, гэтыя вайсковыя манеўры, як і расійска-сербска-беларускае «Славянское братство», ператварыліся на тэрыторыі Беларусі ў расійска-беларускія.

Характар правядзення манеўраў «Нерушимое братство», як і месяц таму вучэнняў «Славянское братство», быў кардынальна зменены.

Паводле словаў міністра абароны РБ Віктара Хрэніна, манеўры «Нерушимое братство» ўпершыню праводзіліся ў фармаце камандна-штабных вучэнняў.

Галоўнай жа асаблівацю стала тое, што ў межах гэтых манеўраў упершыню была сфарміраваная міратворчая місія з супрацоўнікаў Сакратарыяту і Аб'яднанага штабу АДКБ, якая здзейсніла аналіз і адпрацавала ўвесь комплекс захадаў палітычнага, вайсковага, сацыяльна-эканамічнага і гуманітарнага характару па стабілізацыі сітуацыі ў крызісным раёне. Не выключана, што аб'ектам гэтай місіі перадусім была ўнутрыпалітычная сітуацыя ў Беларусі.

Падчас манеўраў адпрацоўвалася сярод іншага дэсантаванне з верталётаў, блакаванне, штурм і зачыстка населенага пункта, пераадоленне воднай перашкоды з дапамогай 150-метровай пантоннай пераправы.

Усё гэта з улікам высоўвання расійскіх падраздзяленняў з пунктаў сталай дыслакацыі і перакідваннем амаль на паўтары тысячы кіламетраў на патэнцыйны еўрапейскі тэатр ваенных дзеянняў відавочна сведчыць пра наступальны характар вучэнняў.

### «Росгвардия» ў Беларусі

Непасрэдны ўдзел у КШВ «Нерушимое братство 2020» прынялі спецпадраздзяленні Федэральнай службы войскаў нацыянальнай гвардыі МУС РФ («Росвардия»). На фоне працягу масавых пратэстаў у Беларусь для ўдзелу ў вучэннях прыбылі супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення падраздзяленняў паліцыі спецыяльнага прызначэння і Цэнтру спецыяльнага прызначэння сіл аператыўнага рэагавання і авіяцыі «Росвардии».

Цікава, што перад правядзеннем вучэнняў спецназ «Росгвардии» ўдзельнічаў у кастрычніку на тэрыторыі Беларусі ў міжведамасным турніры па стральбе з баявой зброі. Спаборніцтвы праводзіліся сярод падраздзяленняў спецыяльнага прызначэння РБ і РФ. Нагодай для іх правядзення было 30-годдзе спецпадраздзялення па барацьбе з тэрарызмам (СПБТ) МУС РБ «Алмаз».

Вызначана, што «Росгвардию» ў спаборніцтвах прадстаўлялі спецыяльны атрад хуткага рэагавання (САХР) «Рысь» і 604-ы цэнтр спецыяльнага прызначэння «Витязь».

Менавіта атрад «Рысь» кіраўніцтва расійскага МУС часта называе элітай паліцэйскага спецназу РФ.

У межах турніру пераважна адпрацоўвалася праца снайперскіх параў, блакаванне і знішчэнне незаконных збройных фарміраванняў, стральба ў цёмны час.

Варта асабліва зазначыць, што сілавыя ведамствы РБ праводзяць шчыльнае ўзаемадзеянне з расійскімі фарміраваннямі «Росгвардии», якія непасрэдна ўдзельнічаюць у ваеннай агрэсіі супраць Украіны і прыцягваюцца для ўзмацнення расійскай вайсковай прысутнасці на акупаванай тэрыторыі Данецкай і Луганскай абласцей.

Паводле інфармацыі Галоўнага ўпраўлення выведкі (ГУВ) Мінабароны Украіны, спецатрад «Рысь» павінен быў прыбыць у траўні 2016 года на акупаваную тэрыторыю Луганскай вобласці дзеля ўзмацнення ціску на крымінальнае атачэнне кіраўніка «ЛНР» Ігара Платніцкага і для спынення дзейнасці бандыцкіх груповак і захавання кантролю за дзеяннямі падкантрольных Крамлю кіраўнікоў.

Таксама, паводле даных выведкі ГУВ Украіны, у межах чарговай ратацыі ў верасні 2016 года ў раён акупаванага н.п. Ясінаватая Данецкай вобласці з падмаскоўнай Балашыхі прыбылі падраздзяленні ЦСН «Витязь».

Актыўна ўдзельнічалі байцы ЦСН «Витязь» таксама і ў спецаперацыі захопу ўкраінскага Крыма.

Вядома, што САХР «Рысь» актыўна прымае ўдзел у вучэннях АДКБ. Абодва гэтыя спецпадраздзяленні «Росгвардии» з вялікай доляй верагоднасці засталіся на тэрыторыі Беларусі і для ўдзелу ў манеўрах «Нерушимое братство».

Характэрна, што пра гатоўнасць задзейнічаць на тэрыторыі Беларусі сфарміраваны рэзерв байцоў «Росгвардии» Пуцін заявіў яшчэ ў жніўні, пасля таемных перамоваў з Лукашэнкам у першы тыдзень масавых пратэстаў.

Як мы бачым, на фоне працягу пратэстаў у Беларусі прысутнасць байцоў «Росгвардии» пад прыкрыццём удзелу ў спаборніцтвах і вайсковых вучэннях мае на тэрыторыі Беларусі рэгулярны характар і забяспечваецца на ратацыйнай аснове.

### 15-я асобная мотастралковая брыгада Міратворчых сіл

Як заявіў генеральны сакратар АДКБ Станіслаў Зась, большая частка падраздзяленняў міратворчых сіл («МС») АДКБ, агульная колькасць якіх складае 3600 чалавек, маюць рэальны досвед удзелу ў міратворчых аперацыях.

Аднак гэтая «міратворчасць» у расійскім разуменні — вельмі своеасаблівая. Замест сваёй дэкларатыўнай функцыі — падтрымання міру, — яна пакідае пасля сябе ваенныя папялішчы і павялічвае жыццёвую прастору дзяржавы-агрэсара РФ.

Працяг на стар. 19 »

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №10 (170)
(кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест





Фота www.svaboda.org

**Беларуская мова сёння стала самай праўдзівай мовай свету. Бо за апошнія даволі фальшывыя часы на ёй хлусілі менш усяго. І не таму, што на ёй гаварыла не так шмат народу. А таму, што тыя, хто ёй карысталіся, гаварылі праўду**

# Мова Праўды

Віктар САЗОНАЎ

**Аўтазакі, міліцэйскія машыны, спецтэхніка… Цэнтральныя плошчы агароджаныя турнікетамі.**

Людзі ў камуфляжах. І сінія чалавечкі ў міліцэйскіх мундзірах, і зялёныя, і перапранутыя ў цывільнае, але не цывільныя, а найбольш гэтай сілавой публікі ў чорным… Яны самыя актыўныя, тыя чорныя людзі, з чорнымі дубінамі ў чорных балаклавах на галовах, пад якімі хаваюць свой твар і сумленне.

Людзі ў чорным хапаюць і валакуць у аўтазак дзіця, якое на асфальце крэйдай напісала «Жыве Беларусь!!!», пырскаюць газам у мірных дэманстрантаў, б'юць дубінай, цягнуць па асфальце, затрымліваюць…

Жыхароў Беларусі масава выклікаюць у кабінеты сілавікі. Тут і пракуратура, і міліцыя, і следчы камітэт… Іх так многа, аказваецца, панастворана, што рана ці позна аніякі бюджэт не змог бы пракарміць. Толькі працалюбівыя беларусы маглі выцягваць так доўга на сабе такую плойму…

З'ява янычарства не новая і добра вывучаная. Заўсёды і ва ўсіх народаў знаходзяцца тыя, хто за добры заробак, або за перспектывы ў кар'еры, або проста за маніякальнае адчуванне сваёй уседазволенасці і набыцця гвалтоўнай перавагі над іншымі гатовы быў на самыя жорсткія дзеянні ў дачыненні да сваіх суайчыннікаў.

А Беларусь выходзіць з нацыянальнымі сімваламі і становіцца насупраць узброеных у чорным… Жанчына адчыняе дзверы сваёй кватэры і хавае ад сілавікоў з дубінамі зусім невядомых ёй людзей, рызыкуючы, што за гэта ў тыя дзверы пагрукаюць няпрошаныя госці. Супрацоўнік МНС, якога прывезлі адмыслова, каб ён зняў бела-чырвона-белы сцяг з вышыні, не здымае яго, а, наадварот, разварочвае, каб той залунаў яшчэ мацней, — і губляе працу. Уладальнік бару зачыняе дзверы перад сілавікамі, якія гоняцца за пратэстоўцамі, рызыкуючы сваім бізнесам. Аўтамайстры задарма рамантуюць транспарт зусім невядомых ім людзей, якіх пабілі сілавікі за тое, што шафёр гудком падтрымліваў дэманстрантаў. Бацюшка б'е ў званы Храма, каб спыніўся гвалт. Шахцёр прыкоўвае сябе ланцугамі ў шахце, каб улада пачула патрабаванні рабочых. Апазіцыянерка дзярэ ў лахманы на мяжы свой пашпарт, каб яе не выкінулі за межы Радзімы і свядома ідзе за краты. Студэнты выганяюць з універсітэтаў сілавікоў і ўступаюць у спрэчкі з кіраўніцтвам і ідэолагамі сваіх навучальных устаноў, рызыкуючы быць выгнанымі з вучобы. Выкладчыкі заступаюцца за студэнтаў рызыкуючы быць выгнанымі з навучальнай установы. Рабочыя аб'яўляюць страйк, ведаючы, што іх павыганяюць з працы. Работнікі культурных устаноў, інтэлегенцыя, журналісты, заяўляюць сваю пазіцыю і… губляюць працу… Незнаёмыя нясуць дэманстрантам ежу і цяпло, і ўсе разам аб'ядноўваюцца любоўю. Любоўю да Беларусі.

Моладзь і сталыя, рабочыя і інтэлігенты, жанчыны і мужчыны ідуць адстойваць праўду, нягледзячы на рызыку. І нават тыя зверствы, якія ім давялося зведаць з боку сілавых структур падчас арышту і ўтрымлівання ў няволі не змаглі іх зламаць. Яны выходзяць, рызыкуючы ўсім, нават здароўем і жыццём. І ўсе, паўсюдна, вывешваюць, падымаюць, носяць нацыянальную, бела-чырвона-белую сімволіку, хоць менавіта за яе на іх і накідваюцца… Але людзі носяць, каб паказаць, што Мы Народ! Што мы Беларускі Народ! Каб паказаць уладзе, усяму свету, а найперш самім сабе, якім ён ёсць насамрэч, той Беларускі Народ! Цуды добразычлівасці, узаемападтрымкі, самаахвярнасці і іншых найвышэйшых якасцяў велічы чалавечай натуры паказваюць Беларусы. Паказваюць, якія яны ёсць сапраўдныя ў сваёй душы.

І яшчэ на адну найважнейшую рэч варта звярнуць увагу. Лідар вядомай групы «J:Морс» Уладзімір Пугач папрасіў прабачэння ў сваім новым кліпе «Даруй» у тых, хто ўсе мінулыя гады змагаўся з рэжымам, нават тады змагаўся, калі ў іх яшчэ не было такой масавай падтрымкі, як цяпер. І падабраў вельмі цёплыя словы. «Нізкі паклон тым, — сказаў ён, — хто ўжо дзесяць, пятнаццаць і дваццаць гадоў таму знаходзіў у сабе сілы, перамагаючы страх, рызыкуючы і ахвяруючы сабой, адстойваць нашы правы. Дзякуй вам і прабачце, што так доўга вас даганялі».

Гэта насамрэч сапраўдны ўчынак сапраўднага грамадзяніна, разам з іншымі праявамі чалавечнасці якія цяпер у Беларусі праяўляюцца паўсюдна і завяршаюць разгадку беларускай душы. Гэтыя словы ўдзячнасці былі звернутыя да тых, хто ўсе гэтыя гады з такімі ж самымі словамі на ўсіх сваіх імпрэзах гэтак жа шчыра дзякаваў мінулым пакаленням, якія змагаліся за беларускую свабоду, за чалавечую справядлівасць, за праўду. Цяпер падзякавалі і ім. Падзякавалі тым, большасць з якіх нават у новай Беларусі будуць незапатрабаваныя. Бо ўсё жыццё змагаліся з рэжымам, а не рабілі кар'еру, не нажылі багацця, не стварылі імя, не заснавалі бізнес… Бо менавіта пастаяннае змаганне з рэжымам, які ў іх разуменні атаясамліваўся са злом і антыбеларускасцю, менавіта гэта і быў іх прафесійны ўзровень, які яны ўвесь час павышалі.


Фота www.novychas.by

Адзін з найвялікшых палітыкаў навейшай гісторыі прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган неяк сказаў, што Свабода знаходзіцца на адлегласці ўсяго аднаго пакалення ад свайго знікнення, калі за яе не змагацца. Таму нельга было дапусціць, каб у змаганні за Беларускую Свабоду выпала тое пакаленне. Большасць старой апазіцыі цяпер не так разбіраюцца ў кампутарах, як таго патрабуе час, і ў бізнесе, які апярэдзіў іх магчымасці даўно, і нават у палітыцы, якая стала зусім іншая і значна больш фальшывая, чым тады, калі яны ў яе прыйшлі. Большасць з іх не ведаюць ангельскай мовы, бо ўвесь час, калі іншыя вывучалі ангельскую, вучыліся гаварыць праўду па-беларуску. І гаварылі. Гаварылі праўду. І гэтую праўду цяпер пачуў увесь народ.

Зрэшты, для іх, хіба, няма большай узнагароды, чым тая ўдзячнасць, тая падзяка, і бела-чырвона-белая сімволіка ў руках суайчыннікаў. Тысячы і тысячы нацыянальных сцягоў і гербаў «Пагоня» ў тысячах і тысячах рук беларусаў… Што яшчэ трэба, каб зразумець, што ўсё было не дарэмна?!

Шлях гаварыць праўду па-беларуску і ёсць шляхам беларускай перамогі. Вось і атрымліваецца, што беларуская мова сёння стала самай праўдзівай мовай свету. Бо за апошнія даволі фальшывыя часы на ёй хлусілі менш усяго. І не таму, што на ёй гаварыла не так шмат народу. А таму, што тыя, хто ёй карысталіся, гаварылі праўду. Нездарма ўлада ў Беларусі перайшла на іншую мову, але не на сваю нацыянальную. Затое свая, нацыянальная, засталася не спаганеная іх ілжывасцю, як і нацыянальная беларуская сімволіка.

У Беларусі цяпер усё неадназначна. Як гэта не парадаксальна гучыць, але яе далёкую будучыню прадказаць значна прасцей, чым блізкую. Цяжка сказаць, што будзе праз дзень, ці тыдзень, ці нават месяц. Але лёгка прадбачыць, што і як будзе праз год, тым больш, — праз некалькі гадоў. Бо Беларускае Адраджэнне працягваецца і спыніцца не збіраецца.

Прыйшоў час Беларускай Сімволікі, прыйдзе і час Беларускай Мовы.

# Вершы салідарнасці

### Крокі

Войцех БАНОВІЧ

*Яны не адступаюць не хаваюцца*
*не апускаюць галоваў*
*не робяць ні кроку назад хіба што*
*робячы два крокі наперад.*
*А тыя іх рассякаюць збіваюць*
*хапаюць і зноў збіваюць.*
*Іх спіны сінеюць іх ягадзіцы*
*ў крывавых падцёках.*
*Ды не адступаюць а крочаць*
*далей спяваюць*
*іх атачаюць яны выбухаюць*
*смехам і атачаюць самі.*
*Ты кажаш не маеш сіл? Паглядзі на іх:*
*яны ўсё бліжэй і ўжо*
*не зробяць болей ні кроку назад*
*хіба што робячы два наперад.*

**З польскай.**

* * *

Мікіта МОНІЧ

*Ваша імя — цвёрды лоб,*
*што праломіць цэглу.*
*Аляксандр — “ахоўнік”:*
*каб стада не збегла!*
*Кіраўнік, а назаўтра —*
*насельнік пекла,*
*Родзячы мемы, парад свой*
*ладзіць нягегла.*

*Вам і няўцям, што прычынай*
*нашага гневу.*
*Ворагі ўсюды вам бачацца:*
*справа, злева.*
*Хочацца быць Македонскім —*
*выходзіць Рэва.*
*А па пладах, як заведзена, судзяць дрэва.*

*Зябка ў палацы, тым болей —*
*палац лядовы.*
*Пальцы сінеюць, прымерзлі*
*да вуснаў словы.*
*Тэрмін канчаецца ваш,*
*і ці будзе новы?*
*Смерць у Кашчэевай голцы.*
*Канец хрaновы.*

*Слухаюцца халуі, ды ў вачах апаска.*
*Як выяўляецца, страшнай*
*бывае казка.*
*Болей не грэе АЭС,*
*ані Тэсла Ма́ска.*
*Пройдзены й спалены мост.*
*Чакае развязка.*

*Хопіць пужаць ужо, кідаць*
*нязгодных на нары.*
*Час уцякаць, адпаўзаць за роў,*
*за ангары…*
*Вы пастарэлі: чвэрць веку —*
*на злосць нашым марам.*
*Прыкра, што ўсё выходзіць гэткім*
*макарам.*

*Хутка ўжо развіднее.*
*Бывайце. Годзе.*
*Борт ваш стаіць на лёдзе —*
*расталым лёдзе.*

*Мы доўга трывалі, пакуль*
*трымалі ў хляве вы*
*Нашу краіну. Але рукі прэч*
*ад Евы!*

**З рускай.**

### Менск, 12.08.2020

Астап СЛЫВІНСКІ

*Такіх, як мы,*
*у вышуканае таварыства*
*пускаюць толькі з разбітым тварам,*
*перапэцканым уласнай крывёй.*
*Гэта наш пропуск —*



Малюнак www.pravlife.org

*не далей, чым сцэна,*
*з якой нас папросяць сыйсці,*
*калі ўдосталь паспачуваюць*
*і дадуць колькі добрых парадаў.*
*Можа, пасадзяць за крайні столік,*
*калі мы памыемся і пацiснем*
*адно аднаму рукі,*
*бо ахвяра і агрэсар — гэта ж так адносна.*
*Можа, нальюць нам чагосьці моцнага,*
*уласна так, як мы любім.*
*Але мы ведаем: дарма яны*
*адчынілі нам дзверы,*
*дарма ўпусцілі гэтую воўчую кроў,*
*штосьць пачынае ім муляць,*
*як муляе нам ужо шмат год,*
*нібы сверб там, куды не можа*
*дацягнуцца рука,*
*нібы парэз, які ўжо даўно*
*мусіў загаіцца, —*
*фантомны боль, які мы называем*
*фантомнымі, то бок*
*неперакладальнымі словамі.*
*Калі мы, звяры, яшчэ можам быць*
*у чымсьці адзінымі,*
*то ў зларадпасці,*
*з якою сочым, як сціскаюцца*
*іхныя кулакі,*
*як напружваюцца цяглiцы*
*пад рамянямі гадзіннікаў.*
*Праз хвілю тут будзе так,*
*як мы любім.*
*І сцэна — пустая і цёмная,*
*як на пачатку часоў.*

**З украінскай.**

### Беларуская медытацыя

Дзмітрый СТРОЦАЎ

*трохі трывання*

*час працуе на нас*

*адзіны рытм краіны*

*удых*
*выдых*

*удых выдых*

*з драконам размаўляць нельга*
*на мове гвалту*

*на ягонай мове*

*толькі псіхіятр*

*не забіваць*

*толькі доўгае жыццё*

*на ферме*
*на свінаферме*

*дзе цмок у сябе*
*як дома*

*размаўляць з людзьмі*

*з чыноўнікамі*
*з вайскоўцамі*
*з дактарамі*

*з людзьмі*

*размаўляць між сабой*
*шукаць агульную мову*

*новую*

*з даверам і надзеяй*
*з любоўю*

*дыхаць на поўныя грудзі*
*аднымі грудзямі*

*усёй краінай*

*удых выдых*

*удых*
*выдых*

*час працуе на нас*

*трохі трывання*

*

*мы з жонкай*
*не рэвалюцыянеры*
*беспартыйныя і бяззбройныя*

*у нашым доме пасяліўся цмок*
*закуты ў браню і драпежны*

*найбольш яму да спадобы*
*нашыя дзеці*
*яны ўжо збітыя*
*як кітайскі сабака*
*пазбаўленыя скуры*

*мы дзіка стаміліся іх хаваць*
*у нас больш няма патаемных кутоў*

*што нам рабіць*
*міралюбцы*
*драконафілы*

*

*пачакай абдымаць амонаўца*
*беларуская дзева*

*ці не так*
*габрэйская хава*
*абдымала боты эсэсаўца*

*

*я так не люблю гэтай плошчы*
*бо гэты шэдэўр Лангбарда*
*наскрозь прапах рабскім потам*
*бляяннем начальства*
*якое вядуць каб зарэзаць*
*на алтарах Дзяржплану*

*не трэба хадзіць на плошчу*
*міма прайдзі Лангбарда*
*ў чырвоную цэглу касцёла*
*Сымона й Алены*

### Так перамагаем

*перамога*
*складаецца*
*з ледзьве прыкметных*
*гамеапатычных жэстаў*

*як збіраюцца*
*менскія стотысячныя маршы*

*з дваровых кропель*
*вулічных ручаінак*

*у людскі акіян*

**З рускай.**

* * *

Барыс ХЕРСОНСКІ

*школа амону — адвечная звераферма*
*дзе гадуюць пачвараў на смерць*
*хрысціянам у Калізеі*
*у спецыяльным схове*
*замарожаная іх сперма*
*іх скамянелыя зубы пад шклом*
*у кожным музеі*
*імі пралітая кроў проста формула*
*ў сшытку*
*розныя ўзоры габрэі рымляне інкі*
*орган любові даўно ў іх засох*
*без ужытку*
*то зачынаюць дзяцей з дапамогай*
*гумовай дубінкі*
*ці той дубінкі якая радая*
*збітым спінам*
*ці той дубінкі якая ва ўсе*
*адтуліны лезла*
*ці той якая служыла*
*чыноўным крэтынам*
*што забівалі й нявечылі*
*не пакідаючы крэсла*
*ці той дубінкі што пляжыць*
*старэнькіх ды малалетак*
*вось дрэсіроўшчык ідзе*
*са шматкамі цёплага мяса*
*ды абыякава сочаць драпежнікі з клетак*
*бо найсмачнейшая ежа — народная маса*

* * *

*Дзяўчаты выходзяць з кветачкамі*
*для амона.*
*Абдымаюць, цалуюць чорных*
*плячыстых байцоў.*
*Сэрцу дзевы — сказана паэтам —*
*няма закона.*
*Цалаваць трэба так,*
*каб дзейнічала на хлапцоў.*

*Ды не тая эпоха, каб кветкам*
*працівіцца ліху.*
*Пацалункам быка не ўтаймуеш,*
*не тыя часы.*
*Але будзе верыць дзяўчо*
*да апошняга ўздыху*
*ва ўсемагутнасць кветак*
*і сілу сваёй красы.*

*Хай машына гвалту*
*адпусціць вас нечапаных.*
*Хай анёл-абаронца ўратуе*
*вас ад бяды.*
*Абдымайце маці.*
*Цалуйце сваіх каханых.*
*А букеты нясіце ворагам на клады.*

**З рускай.**

**Пераклады Андрэя Хадановіча**

# Знакі лёсу

Уладзімір МАРОЗ

**...Пазнаёміла нас кінастудыя ў небагатыя, але шчаслівыя 90-я гады мінулага стагоддзя, калі беларусы дачакаліся выпакутаванага незалежніцтва і шчыравалі на сваёй багатай, але занядбанай ніве. Я працаваў рэдактарам студыі «Летапіс», мы здымалі дзясяткі дакументальных фільмаў аб нашай гісторыі і яе выбітных асобах, адкрывалі іх у кінавобразах для сябе і беларускага свету. Віктар Казько быў членам рэдакцыйнай калегіі, рэдактарам фільмаў мастацкіх. Пэўны час нават займаў пасаду галоўнага рэдактара кінастудыі. Зразумела, не маглі мы не сустрэцца. Некалькі разоў і чарку бралі пад прыязныя зацікаўленыя размовы.**

Віктар Апанасавіч быў аўтарам дакументальных фільмаў: «Дрэвасек, дзядок і тутэйшыя» (пра народнага майстра-ганчара з Мазыра Міхаіла Пушкара), «Быль аб белай лебедзі» (аб жыцці калісьці багатага калгаса), «Абраннік вякоў» (пра зубра) і «Трэнер» (прысвечаны галоўнаму трэнеру зборнай Беларусі па хакеі Анатолю Варывончыку). Згадваю аб гэтай старонцы кінематаграфічнай творчасці найперш таму, што ў сеціве і ў энцыклапедычных звестках пра Віктара Казько няма нічога аб яго даробку ў дакументальным кіно. Чамусьці няма звестак і аб мастацкіх фільмах па творах і сцэнарыях Віктара Казько ў постсавецкай Беларусі. Згадваюцца класічныя для беларускага кіно фільмы «Паводка» (1981), «Сад» (1983), «Сведка» (1986). А была ж яшчэ стужка «Чорны бусел», знятая ў 1993 годзе Віктарам Туравым, і дзве карціны Маргарыты Касымавай «Маленькі баец» (1998) і «Зорка Венера» (2000), створаныя па сцэнарыях Казько.

Дакладна не памятаю, хто першы сыйшоў з кінастудыі — Віктар Апанасавіч ці я. На схіле веку час змяніўся, стаў больш жорсткім для беларускай справы. Майму старэйшаму таварышу было мо і прасцей — перайшоў на літаратурную працу. А я працаваў, больш таго, у 2005 годзе вярнуўся на родную кінастудыю, якая ўжо называлася як Нацыянальная.

Працуючы ў кінастудыі, Віктар Апанасавіч расказаў мне, што скончыў раман «Бунт незапатрабаванага праху», раіўся, як перакласці назву на рускую мову, бо літаральнае перастварэнне яго тады не задавальняла. Я не адразу ўспрыняў такую нечакана-нязвыклую назву, але потым, калі ўжо прачытаў раман у «Полымі», закладзены вобраз мне стаў зразумелым, адкрылася яго глыбіня. Незлічоная кольскасць... воблакі матылькоў над закінутымі могілкамі, быццам душы памерлых, што клічуць нас не цурацца сваіх продкаў, успомніць аб іх. Магутны вобраз. І вельмі стасоўны да Беларусі, да нашай бяспамятнай сітуацыі.

Так атрымалася, што аповесць Віктара Казько «Час збіраць косці», надрукаваную ў «Дзеяслове», я чытаў у Гомелі, куды прыехаў па матэрыял для чарнобыльскага сцэнарыя ў сакавіку 2005 года. Пасялілі мяне за горадам, у памяшканні даследчага інстытута, дзе пасля працоўнага дня ні душы, таму на адзіноце добра было чытаць. Каб нікога не ўводзіць у зман, прывяду свае тагачасныя словы са «Згадак хутаранца», якія я вяду практычна ўсё жыццё. «Ну і накруціў Апанасавіч! Сапраўды, як адзначалі ў «Нашай ніве», цяжка ўчытацца. Але калі ўчытаешся, то асалоду атрымаеш — энергія думкі, пачуцця, сакавітасць пісьма, нагрувашчванне вобразаў. Праз якія прадзірацца мо і складаней, чымся ў «Цар-рыбе» Астаф'ева, прозе Лічуціна («Крылатая Серафіма») ці таго ж Атара Чыладзэ. Але ж і выкруціў фінал, малайчына. Сапраўды, жыццё, як крынічка, усё роўна праб'ецца, не там, дык тут. Нават, калі і знікае на гады, потым ажывіцца, зноў пачне шукаць выйсце. Так і жыццё несупыннае — праб'ецца, раней ці пазней».

Не памятаю, ці тэлефанаваў я Віктару Апанасавічу пасля прачытання. Хутчэй «так», чым «не», бо і ў тыя часы наша сувязь не перарывалася. Пісьменнік нейкі час быў літаратурным кансультантам у «Звяздзе», вёў там конкурс апавядання. Спрыяў надрукаванню ў газеце двух апавяданняў майго бацькі Вікенція Мароза — «Страшныя кулі варожыя» у 2005 годзе і «Бацькоўская хата» (2009). Яшчэ і ўступныя слоўкі напісаў ёмкія і шчырыя да гэтых тэкстаў, якія я згадаў потым у кнізе бацькі «Пережытае-незабытае». Ці варта гаварыць, што я быў удзячны Віктару Апанасавічу за тыя публікацыі?

А вось кнігу «Дзікае паляванне ліхалецця» я прачытаў, як не дзіўна, у рукапісе. Быў, можна сказаць, першым чытачом. Тут варта перайсці ўжо да года 2009-га, насычанага нашымі сустрэчамі і адметнага тым, што ўдалося зняць дакументальны фільм пра Віктара Казько. Час, у тым ліку і на кінастудыі, калі ёй кіраваў абсалютна антыбеларускі чалавек, быў не вельмі спрыяльным. Але якраз у такіх варунках можа спрацаваць шляхецкі авантурызм. Што і сталася ў рэальнасці.

Я збольшага ведаў аб драматычным лёсе Казько, яго сталенні, але напоўніцу трагедыя смерці маці і сястры Віктара Казько і яго выжыванне ў Азарыцкім канцлагеры адкрылася мне ў сустрэчах і размовах з нагоды будучага сцэнарыя фільма. Тады і акрэсліліся для мяне відавочна і глыбока «знакі лёсу», якія вялі пісьменніка па жыцці. Ужо можна было не турбавацца за будучы фільм.



Фота www.lit-bel.org

Эмацыйнасці сцэнарыю дадалі цытаты з адметных публіцыстычных тэкстаў кнігі «Дзікае паляванне ліхалецця».

Зноў жа дзеля дакументальнасці словы са «Згадак хутаранца» 2009 года: «Недзе пад канец лютага з'ездзілі з Віктарам Апанасавічам на яго хутар, у Дудуткі. Хораша з'ездзілі, рамаў балконных дзесяць штук прывезлі, каб не замянілі ў горадзе. Пахадзілі каля і па-над Пціччу, пагрэліся ля каміна. Месца дзеяння (здымак фільма) стала для мяне больш зразумелым...».

Мы знялі фільм за даволі кароткі час, літаральна за двары месяцы. Тут ужо майстэрства рэжысёра Яўгена Сяцько, у якога ўсё заўсёды дакладна, канкрэтна і прадумана. Ды яшчэ герой трапіўся наўздзіў — шчыры перад камерай, давер са здымачнай групай абсалютны. Ва ўсіх здымках я не ўдзельнічаў, але быў яшчэ раз у Дудутках ужо з кінакамерай ды на радзіме Віктара Апанасавіча, куды проста не мог не паехаць. Пачалі з Вільчы, дзе прайшло сталенне будучага пісьменніка. Напаўразбураны будынак дзіцячага дома, рэшткі сада, пасаджанага яго выхаванцамі. У Вільчы стаіць домік, які ў свой час гадаванцы выратавалі ад пажара і які потым, вярнуўшыся ў Беларусь, купіў Віктар Казько. Там напісаны шмат якія яго творы, там бывалі знакамітыя госці. У гэты домік, каб давесці яго да ладу, былі ўкладзены немалыя грошы, а прадаць, калі будаваўся ўжо ў Дудутках, давялося за бесцань.

У Вільчы мы яшчэ здымалі эпізод, звязаны з ратаваннем дубровы. Аляксандр Танчынскі, сябар і таварыш Віктара Апанасавіча па экалагічнай барацьбе, расстараўся на водны транспарт для здымачнай групы. І мы на трох чаўнах паплылі па затоках Случы (паводка яшчэ не сыйшла) у лес. На вёслах былі «хадзяінракі» Аляксандр, сам Віктар Апанасавіч і я, які меў вялікі вопыт рачнога жыцця на дзедавай лодцы-чайцы на Нёмане. Плылі памаленьку, прадзіраючыся дзе-ні дзе пасярод галін, баючыся перакуліцца ў ваду, бо за намі туды трапіла б і кінакамера. Аператар Стас быў якраз у маім чоўне, здымаў цудоўныя непаўторныя планы з вадою і дрэвамі. Але заядала машкара, усю ўвагу забірала на сябе. Нарэшце прысталі да берага, усе дзеючыя асобы рушылі ў лес — Аляксандр Танчынскі павёў паказаць дуброву, якая гіне ад рук чалавека. Я застаўся на беразе, быццам лодкі сцерагчы, хоць далёка наўкол — ні душы. Проста не меў моцы ісці далей. І тут пачалося зусім невыноснае — гнусь вырашыла мяне давесці да нярвовага зрыву. Накрываўся курткай, але тады дыхаць было немагчыма, а як толькі даваў дзе шчыліну, машкара атакавала на знішчэнне. Час, пакуль мае таварышы не вярнуліся з таго паходу ў лес, для мяне здоўжыўся ў вечнасць...

Начавалі мы ў той кінематаграфічнай вандроўцы ў Тураве. Здаецца, не самы блізкі пункт ад Вільчы, але ў нас свая машына, ды гатэль у Тураве новы і камфортны. Вечарам мы з Віктарам Апанасавічам схадзілі на гарадзішча, да помніка святціцелю Кірылу, а потым хораша пасядзелі ў гатэльным пакоі з пляшачкай каньяку. Самі ведаеце, што такія нязмушаныя і нетаропкія шчырыя размовы — самае каштоўнае, што можа быць у чалавечых стасунках. Назаўтра знялі вясковыя могілкі, дзе пахавана маці нашага героя фільма. Чамусьці могілкі былі проста ў лесе. Кранальны атрымаўся кадр.

Кароткі запіс аб здачы фільма ў мяне за 5 чэрвеня 2009 года, пятніца: «Але галоўнае — сёння здавалі наш фільм аб Апанасавічу, які я назваў «Знакі лёсу. Віктар Казько». Буданаў не прыехаў, бо прадстаўлялі новага міністра культуры. А Замяталін паглядзеў. Народу набілася шмат увогуле, харошыя людзі прыязна сустрэлі карціну. Астатняе — гнілое балота, якое і ёсць такім, назаві яго хоць творчым калектывам. На маё, фільм цудоўны, асабліва я рады, што гэта ўдалося зрабіць».

Сам герой фільма доўга не мог убачыць. Летні сезон у Дудутках, пісьменнік заканчваў тую рэч, аб якой гаварыў нам у фільме, чакаў дзве свае кнігі, якія меліся выйсці. Не да таго. І так сталася, што першы раз карціну ён убачыў у Мікашэвічах, куды мы прыехалі з выступленнем у беларускую гімназію. Застаўся задаволены, хоць праекцыя была найгоршая.

**Жыццё, як крынічка, усё роўна праб'ецца, не там, дык тут. Нават, калі і знікае на гады, потым ажывіцца, зноў пачне шукаць выйсце. Так і жыццё несупыннае — праб'ецца, раней ці пазней**

2009 год працягваўся. Запіс у «Згадках хутаранца» 9 лістапада: «Прыйшоў новы «Дзеяслоў». Там першая частка твора Казько «Сказ пра ката, каторы смяяўся». Прачытаў ужо колькі, чытаецца няпроста, але трэба ўлезці ў стыль. Чытаць прыемна, бо бачу і адчуваю аўтара. Светла пазайздросціць даводзіцца, наколькі ён бачыць кожную сцяблінку, галінку, кожны лісточак... І яшчэ нехта будзе казаць, што Казько — не класік. Паспрабуйце самі напісаць з такім болем! Больш разумныя яго нашым Маркесам называюць. Я сам не люблю падобных параленяў, але рацыя ёсць! Ці яшчэ вычытаў у маладога крытыка: адзінокі воўк нашай літаратуры. Выдатна! Ці той жа «міфалагічны рэалізм», азначэнне Міхася Тычыны, — трапна і глыбока.

Марына малюе партрэт Апанасавіча, а я рыхтую прэм'еру фільма 26 лістапада».

Апошняе ў запісе варта крыху патлумачыць. У маёй дачкі мастачкі Марыны тады быў партрэтны перыяд творчасці. Я папрасіў Віктара Апанасавіча папазіраваць, на што ён пагадзіўся. Так з'явіўся «Партрэт Віктара Казько», які Марына прэзентавала герою на яго 70-годдзе. Адзначалася яно ў музеі гісторыі беларускай літаратуры ў Траецкім прадмесці.

Паралельныя прамыя і знакі лёсу крыху «супакоіліся» пасля 2009 года, але не зніклі зусім. У свой час думаю аб тэксце «Апокрыф Багдановіча» пра васілёк як сімвал Беларусі, а тут якраз заканчэнне «Сказа пра ката, каторы смяяўся». І там на завяршэнне бачу васількі! Як быццам спецыяльна паслаў гэты знак мне Віктар Апанасавіч. Невытлумачальная, непазнавальная духоўная повязь між людзьмі...

Апошнія ўжо доўгія гады з маім шанаваным і любімым Віктарам Казько мы бачымся толькі на пісьменніцкіх з'ездах. Нават не варта гаварыць аб турботах, клопатах, творчых праектах, якія ў кожнага свае і на якія сыходзіць час. Значыць, так трэба, але гэта аніяк не здымае нашу ўзаемную прыязнасць і ўзаемаразуменне. На апошнім па часе з'ездзе я прэзентаваў яму два свае паэтычныя зборнікі. А вось кнігу майго бацькі Вікенція Мароза «Пережытае-незабытае» з удзячным аўтографам аўтара ніяк адрасату не данясу. Ды здарыцца тое, будзе для гэтага знак. Без такіх знакаў нам у жыцці аніяк, галоўнае, убачыць іх і разгадаць.

# Бабуіны



Юры СТАНКЕВІЧ

**Стадыён цалкам адпавядаў невялікаму правінцыйнаму гарадку — спешна адбудаваны, са стандартным футбольным полем, двума трыбунамі ўсутыч з некалькімі радамі чырвоных і зялёных крэслаў, няўтульнымі цеснымі раздзявалкамі і душавымі, — мінімальным з таго, што было неабходным для правядзення спаборніцтваў.**

Доўгі час футбольны клуб гарадка высільваўся, ашчаджаў і вымольваў у выканкаме і нешматлікіх фундатараў грошы, каб прадоўжыць сваё існаванне і, нават, спазнаў на гэтым шляху пэўны поспех, хоць і быў ужо абседжаны living рознымі дзялкамі, як мухамі. Клубная футбольная каманда «Рэй» летась выйграла пераход з трэцяй лігі ў другую, і цяпер, у канцы сезона, імкнулася пакрочыць у першую. Чаму ж не — яны верылі і спадзяваліся. Унь, прыкладам, ангельскі клуб «Лестэр». Такі ж невялікі гарадок, як і іхні, а каманда нават станавілася чэмпіёнам Англіі. Усё цяпер залежала ад апошняга матча, які па графіку якраз пашчасціла гуляць на сваім полі, і гэты вырашальны матч павінен быў выігрывацца — тады ў наступным сезоне камандзе можна будзе ўзняцца яшчэ вышэй. Менавіта пра тое марылі і на тое спадзяваліся гульцы і мясцовыя заўзятары.

Разважаючы пра ўсё гэта, адзін з такіх заўзятараў крочыў да ўваходу на стадыён: да матча заставалася з паўгадзіны.

Трыццацігадовы Даніла Коршак, коратка стрыжаны, светлавалосы, сярэдняга росту з простым, непрыкметным тварам, на якім хіба што выдзяляліся цупкія, кемлівыя вочы, — быў апрануты ў вятроўку з самаробным надпісам на спіне «Даніла-беларус», як асабістым брэндам, а ў руцэ трымаў аб'ёмны, чорны футарал. У футарале ён нёс акардэон. Шматлікія заўзятары і гараджане, якія глядзелі футбольныя трансляцыі, што арганізоўвала кволае мясцовае тэлебачанне, ведалі яго як прыхільніка гарадской каманды, які раз-пораз суправаджаў хатнія матчы музычнымі імправізацыямі і папулярнымі мелодыямі, а калі-нікалі спяваў там тое-сёе на роднай мове ў часе перапынку паміж таймамі. Казалі, быццам некаторыя песні Даніла Коршак ствараў сам, хоць за плячыма меў толькі няскончаную з-за беднасці бацькоў музычную школу па класе баяна. Урэшце, так ён падтрымліваў родную каманду, бо калісьці, нават, сам гуляў у футбол за хлопцаў свайго гарадка і працягваў фанатычна любіць гэты від спорту.

Заўзятар Даніла Коршак працаваў на мясцовым кансерваваным заводзе на канвейеры, быў жанаты, меў малую дачку. Лічылі яго за беларускасць дзіваком, але за дасціпнасць і вострыя словы, за якімі ён не лез у кішэню, чапаць асцерагаліся, бо ён заўсёды быў здольны за сябе пастаяць.

Ля брамы да ўваходу на стадыён ужо тоўпіліся заўзятары, многія з-за несціхаючай эпідэміі каранавіруса ў масках, завіхаліся тут жа некалькі міліцыянтаў.

Міліцыянты — маладыя, фізічна не вельмі развітыя, двое з ужо наетымі жыватамі і азадкамі, трэці, маладзейшы, яшчэ хударлявы, — пыхліва абшуквалі вачыма людзей.

«Нядаўна ж з вёскі, апуцакі, — падумаў Даніла Коршак, — але ж быццам ужо іншыя, вышэйшыя, недатыкальныя, ну, словам, — мянты паганыя...»

Яго заўважылі, пазналі.

— Усё лабаеш, Даніла?

— Беларус, ха-ха!

— Каго пільнуеце, бабуіны? — у сваю чаргу спытаў, не ўтрымаўся Даніла Коршак.

Паўза. Міліцыянты пераглянуліся.

— Ты, гэта... як сказаў?

— А што такое?

— У пастарунак захацеў? Аформім.

— Як ён сказаў — бадуіны?

— Трымайце пакуль што яго! Нарываешся?

Адзін з міліцыянтаў, з сяржанцкімі лычкамі, звярнуўся да маладзейшага саслужыўца:

— Ты ў компах кубатурыш. Набяры-ка нам гэтае слова. Што яно азначае?

— Якое?

— Як ты выказаўся? — спытаў сяржант у Данілы Коршака.

— Бедуіны. Вялікія і смелыя, ну, як вы, ха-ха, ваяры пустыні!

— Зараз праверым. За базар, калі што, адкажаш, хоць ты тут і ўлюбёнец публікі.

Малады шараговец выцягнуў з кішэні смартфон і пачаў тыцкаць пальцам.

— Знайшоў! На тое і інтэрнэт!

— І што там?

— Усё як мае быць, — заўсміхаўся маладзейшы з міліцыянтаў. — Ваяўнічае арабскае племя ў паўночнай Афрыцы.

— Ну, ваяўнічае — гэта няхай, — падвынікаваў сяржант. — Хоць прычым тут Афрыка? Там што ў цябе? — ён паказаў на футарал. — Гармонь?

— Быццам не ведаеш. Бомба!

— Ідзі, а то дажартуешся!

Даніла Коршак моўчкі пасунуўся да ўваходу. Білет ён ніколі не купляў, бо абслуга на ўваходзе яго прызнавала ледзь не за свайго, як нешта неабходнае і звыклае. Акрамя сцюардаў — тых жа пераапранутых мянтоў, якія калі-нікалі зласліва чапляліся да яго за тое, што выконваў песні па-беларуску з падазронымі тэкстамі.

На трыбунах ужо было багата заўзятараў. Той-сёй, у большасці сталага веку, паселі на дыстанцыі адзін ад другога, некаторыя з іх былі ў масках рознага колеру; маладыя мясцовыя фанаты пазбіраліся ў купкі, сярод якіх выдзяляліся вопраткай і яркімі шалікамі дзяўчаты. Асобныя з заўзятараў пазналі яго, добразычліва віталі ўзнятымі рукамі: «Даніла-беларус прыйшоў, ну, цяпер мы ў поўным складзе! Перамога за намі! Давай, камрад, сыграй «Каманду»!



Фота Reuters

Даніла Коршак сціпла падзякаваў людзям, уладкаваўся ў крэсле ў першым радзе і акуратна выцягнуў з футарала сваё багацце. Гэта быў «Hohner» — нямецкі акардэон славутай фірмы, — яго гонар, на які Даніла калісьці не адзін год збіраў грошы.

Няспешна агледзеў стадыён. Падключылі ўжо дастатковае асвятленне, інфармацыйнае табло, абслуга вынесла вялікі чырвона-зялёны сцяг, бегалі сцюарды, дадалося міліцыянтаў, снуўдалі яшчэ нейкія людзі. Неўзабаве павінны былі з'явіцца на полі гульцы, судзейская брыгада. Чакалі, па чутках, на трыбуне намесніцу старшыні гарвыканкама па ідэалогіі — этнічную русачку з Вільні, якая праз нейкія грахі збегла з Летувы, даўно прыжылася ў іх гарадку і паднялася ў асабістай кар'еры да выканкамаўскай начальніцы. Урэшце паказалася і тая, прайшла побач, кіруючыся на другі бок трыбунаў: у чырвона-зялёным, са здалёк бачным фарбаваным начосам, айфонам у руцэ і няшчырай, робленай усмешкай на плямістым ад макіяжу твары.

Уладкоўвалі здымачныя відэакамеры два мясцовыя апаратары з рэжысёрам, і завіхаўся побач спартыўны каментатар, прадстаўнік тэлепункта — рыхтавалі прамую трансляцыю па праграме мясцовага тэлебачання.

«Сапсуюць свята, — падумаў спахмурнелы Даніла Коршак, — і каб жа не сурочыла матч гэтая ўедлівая выканкамаўская баба».

Ён расцягнуў мяхі акардэона, прабег пальцамі па клавішах і зайграў «Каманду», — звыклую мелодыю вядомай песні пра футбольную каманду «молодости нашей», але падпяваць не стаў, бо прынцыпова не выконваў на голас нічога па-расейску.

Краем вока ён убачыў, як узнік аднекуль, нібы з-пад трыбун, дырэктар стадыёна — чарнявы, увішны, з вірлівымі вочкамі і шырокім вузкагубым ротам: казалі, што ён таксама з былых міліцыянтаў. Убачыў, як той-сёй раптам звярнулі ўвагу менавіта на яго: яны там, праз поле, пра нешта раіліся; намесніца па ідэалогіі нават паказала ў яго бок пальцам. Даніла Коршак перастаў іграць...

Усё было невыпадкова. Праз хвіліну да яго ўжо крочылі рэжысёр і дырэктар стадыёна. Заўзятар Даніла Коршак неспадзявана адчуў нейкую незразумелую трывогу, дыскамфорт. Пэўна, папросяць перасесці адсюль, падумаў ён. Было такое ўжо і раней. Не ў масць ім тут яго прысутнасць. Адразу ў ім узнікла знаёмае пачуццё непрыняцця гэтых людзей, зацятая прага да супраціву.

Аднак Данілу чакала неспадзяванае...

— Паслухай, паважаны, — звярнуўся да яго дырэктар стадыёна. — Ты гімн зможаш выканаць?

— Чаму ж не...

— А словы ведаеш? Здолееш праспяваць? Ты ж у курсáх: у асобных выпадках дзеля ўрачыстасці ўключаюць не проста музыку, ну, «фанеру», — ты ж разумееш, а даручаюць выкананне якому салісту. Так амаль паўсюль. А цябе, да таго ж, у нас ведаюць. Будзеш у тэме.

— Зараз мы тут табе і мікрафон паставім, — дадаў рэжысёр, а калі што, і заахвоцім пасля ўсяго якой прэміяй. Ну... нашмат не разлічвай, але...

Ён ужо набраў на мабільніку і памахаў рукой камусьці з памочнікаў, і той пабег да іх з мікрафонам.

— Ты словы памятаеш? Павінен жа, — сказаў дырэктар стадыёна, — гімн жа кожны дзень гучыць. — Але ж на ўсялякі выпадак вось табе тэкст, прымацуем да стойкі. Зрок хоць добры? А калі не здолееш, то дай знак. Мы тады «фанеру» ўключым. Але ж ты спрактыкаваны музыка, — падсаладзіў ён. — Дасі рады. Ну, дык няма часу, ужо гульцы вось-вось на паляну выйдуць.

Заўзятар і музы́ка сваёй гадоўлі Даніла Коршак маўчаў. Ён нібы здранцвеў, моўчкі назіраючы, як сыходзяць ад яго тыя, хто замовіў гэтую нечаканую прапанову, прыняўшы тое яго маўчанне за згоду.

Раптам ён нібы ачуняў, прабег пальцамі па клавішах і зайграў знаёмую ўсім песню, правяраючы мікрафон на гук.

Мікрафон працаваў.

Праз некалькі хвілін яму падалі знак, што якраз патрэбная паўза, і ён убачыў, як на поле выходзяць гульцы, судзейская брыгада; абслуга расцілае на траве эмблемы клубаў. Дзяўчаты ў лёгкадумных шортах прыўзнялі з чатырох бакоў вялікі чырвона-зялены сцяг...

Гульцы пашыхтаваліся...

Паўза. Яму зноў падавалі знак.

Даніла Коршак адчуў, як прабег па спіне нярвовы халадок. Хіба не настаў яго час? Што ж — цяпер, альбо ніколі, мільганула ў галаве.

— «Гімн Рэспублікі Беларусь!» — гучна аб'явілі па стадыёне. — Выканае Даніла Коршак!

Ён звыкла расцягнуў мяхі акардэона, пальцы спрактыкавана адшукалі клавішы, мелодыя ўзнікла і паплыла над полем, трыбунамі, стадыёнам.

— Мы выйдзем шчыльнымі радамі, — заспяваў ён крыху хрыпата, але ўзнёсла і гучна. — На вольны, родны свой прастор, // Хай воля будзе вечна з намі, // А гвалту мы дамо адпор...

Ён бачыў, што ў гэтыя першыя секунды ніхто з прысутных, нават тых, некалькіх малпагаловых, што стаялі гуртам уздоўж броўкі, анічога не зразумелі. Таму другое чатырохрадкоўе лёгка ўпісалася ў нерухомую атмасферу таго непаразумення і паступова набягуючага здзіўлення.

— Няхай жыве магутны, смелы, — з унутранай асалодай, узнёсла працягваў ён спяваць. — Наш беларускі вольны дух. // Штандар наш бел-чырвона-белы // Пакрый сабой народны рух...

Нечакана, але прадказальна, ён убачыў, як здранцвенне ў гурце ля броўкі знікла і саступіла месца ліхаманкаваму ўзрушэнню. Але ў гэтую першую хвіліну яны, пэўна, разгубіліся і не ведалі, як адрэагаваць на тое, што адбылося, і які спеў у гэтыя хвіліны велічна лунаў над стадыёнам. Ім трэба было хіба што прыняць нейкае адзінае рашэнне, ды перашкодзіла тая ж намесніца па ідэалогіі, якая пачала дурнавата бегаць ад аднаго да другога, істэрычна нешта выкрыкваць і махаць рукамі.

«Зашкварылася, лярва — свае цяпер задзяўбуць», — мільганула ў галаве Данілы Коршака, але гэтая няўцямная, помслівая думка адразу знікла ў падсвядомасці. Варта было спяшацца.

— На бой, за шчасце і за волю // Народа слаўнага свайго, — нахіліўшыся ўсутыч да мікрафона, утрапёна спяваў ён. — Браты, цярпелі мы даволі, // На бой, — усе да аднаго...

Ён на імгненне азірнуўся: на трыбуне ўсе заўзятары стаялі. Яму нават здалося, што той-сёй з іх спрабаваў падпяваць.

— Мікрафон! — зароў дырэктар стадыёна. — Адключыце яго хутчэй хто-небудзь!

— Міліцыя! — завішчэла і намесніца па ідэалогіі. — Пракраціце эта!

«Мне б яшчэ хвіліна, — пранеслася між тым у галаве Данілы Коршака, — але паспею».

Перадапошні куплет яму ўдалося праспяваць без перашкодаў.

І вось яно, выплыла з памяці заключнае чатырохрадкоўе.

— Браты! Да шчасця мы падходзім, — працягваў ён. — Хай гром грыміць яшчэ мацней! — І даспяваў да канца: — Ў крывавых муках мы народзім // Жыццё Бацькоўшчыны сваёй...

Да яго ўжо беглі: рэжысёр, пераапранутыя стюардамі міліцыянты, міліцыянты ў форме, каляфутбольныя прыліпалы і ціхары, іншыя малпагаловыя, — з вышчаранымі зубамі і вырачанымі вачыма.

«Рыхтык жывёлы, — падумаў ён, таропка запіхваючы ў футарал акардэон. — Нешта быццам ненармальнае ў тым, як іх клініць ад сапраўднага, нязломнага, вечнага. Бабуіны...»

# Дзень пачынаецца…



Аксана ДАНІЛЬЧЫК




* * *

*Адкуль ты тут, Джонатан,*
*сярод тлустых серабранскіх качак,*
*гарлапаністых варонаў,*
*дробных рачных чаіцаў?*
*Дакладней, не сярод, а над.*

*Я пазнала размах тваіх крылаў*
*і тваю жоўтую дзюбу*
*над лініяй стыку рачной плыні*
*з тонкаю плёнкай лёду,*
*дзе іншыя раздураныя птушкі*
*выпрошвалі ежу,*
*а ты пільнаваў нябесную вышыню.*

*Адкуль гэтыя*
*палёты над нашым горадам,*
*над нашым зрэбным зімовым горадам,*
*разгон і лунанне,*
*срэбра-золата-алюміній-латунь,*
*цені хмараў, прабітыя*
*сонечнымі промнямі,*
*што падаюць табе на крылы?*

*Можа быць,*
*гэта толькі размінка*
*на шляху ад мора да мора,*
*а можа быць,*
*ты праляцеў над маёй галавой,*
*каб я не забылася,*
*дзеля чаго нам дадзена неба?*

*Я пазнала цябе, Джонатан.*

* * *

*Сонца не раз і не два —*
*перабірае лапамі, як кот,*
*тупае па маім жываце,*
*а рыжыя кацяняты*
*скачуць*
*па срэбных дырыжаблях ды аблоках,*
*з вакна на вакно,*
*далей, далей, туды,*
*дзе за лініяй далягляду*
*трапляюць у пастку*
*і сядзяць там да наступнага дня,*
*пакуль заход сонца адбіваецца*
*светлай плямкай*
*на супрацьлеглым баку неба,*
*а мая вечнасць*
*падарожнічае*
*па адваротным баку месяца,*
*і калі ён узыходзіць —*
*самы час адчуць сваю смяротнасць.*

*Нават краіну, пра якую*
*я столькі думаю,*
*я не забяру з сабой,*
*і крыўду, пра якую столькі пісалі,*
*я не забяру з сабой.*
*Што ж тады мае сэнс?*

*«Спі», — кажа мне месяц,*
*набліжаючы твар да зямлі,*
*углядаецца пільна ў рухі*
*стварэнняў зямных*
*перанесеных з іншых планетаў,*
*вывучае па іх абрысах*
*гісторыю перасялення*
*душаў.*

*«Спі», бо рэальнасць гэтай краіны*
*меншая за вечнасць.*
*Гэта таксама праўда,*
*і аднойчы ты пяройдзеш мяжу,*
*за якой яна страціць значэнне.*

* * *

***O graziosa luna…***
***G. Leopardi, “Alla luna”***

*Маяком на ўзбярэжжы аблокаў начных,*
*гнаных ветрам з усходу на захад,*
*поўня плынным святлом пасылала*
*свой крык*
*караблям і адрынутым душам.*
*І глядзела мне ў твар,*
*і раптоўным павевам уздых*
*белай хвалі імклівую цемру парушыў.*

*Што ты ведаеш, Поўня,*
*пра гэтых няшчасных людзей,*
*што ты ведаеш, Поўня,*
*пра іх запаветныя мары?..*
*Толькі сон*
*супакойвае прагныя пальцы,*
*якімі за рэшткі надзей*
*той, хто падае ў бездань,*
*працягвае ўпарта чапляцца…*

*А ты не даеш заснуць.*

*Агарні ж ты мяне*
*белатканым святлом*
*між начных дзьмухаўцоў,*
*што ў траве як маленькія поўні,*
*я іду на твой заклік*
*даведацца штосьці з высноў*
*пра сябе і пра свет,*
*я іду на тваё прыцягненне,*
*ўсяведная Поўня…*

* * *

*Жоўта-блакітныя віхуры*
*зацягваюць паветраныя плыні*
*ў віры бясконцасці,*
*выштурхоўваюць на паверхню*
*аблокі памяці,*
*між крутаверцямі заціскаюць*
*мае непрацяглыя радасці.*
*І што, ва ўсіх імавернасцях*
*я — толькі адна з пераменных?*

*Жоўта-блакітныя зоры*
*пульсуюць над кіпарысамі,*
*знічкі залатакосыя*
*спапяляюцца над магіламі,*
*чорных узгоркаў грамадзіна*
*навісае над сонным горадам,*
*толькі душа не спрабуе заснуць*
*і, беспрытульная, месціцца*
*там, дзе горныя схілы*
*ловяць адбіткі чырвонага месяца.*

*Ультрамарынавы сон*
*паглынае апошнія ўздыхі*
*тых, хто заснуў назаўжды*
*ці для іншых страціў аблічча.*
*Або тых, хто пайшоў*
*цераз плазму начы, аздоблена́й*
*воляй вядомага ўсім сцэнографа,*
*падзяляючы гэты сусветны боль*
*з глыбінёй далягляду*
*ў нястрымных віхурах спірографа.*

* * *

*Мы крышымся.*

*Над намі цішыня.*
*Над намі студзень*
*сонечным убраннем*
*зімы амаль паўднёвай,*
*туманом ласкавым ранне*
*да нас прыходзіць па траве зялёнай,*
*і толькі рэшткі снегу дзесь на дахах*
*як сведчанне зімовых апранахаў.*

*І богаўкі на сонечнае шкло*
*са схованак нябачных выпаўзаюць,*
*не да канца ўсведамляючы жыццё,*
*спыняюцца ў спакоі задуменным.*

*На вуліцы на тэракотавай сцяне*
*касыя промні, блікі, цені дрэваў*
*сплятаюцца ў арнамент выцінанкі.*

*Чужыя крокі адбіваюцца ў каменным*
*атачэнні чалавечых душаў,*
*дзе нехта вечна сочыць праз фіранкі*
*за наваколльным светам*
*і за намі.*

*Мы крышымся.*

* * *

*А тыя, прагныя волі,*
*волевыяўлення,*
*самавыяўлення,*
*рухаліся па новым маршруце,*
*слухалі мову,*
*што набывала ўцелаўленне,*
*сэнсам рабілася,*
*тым, што ёсць падмуркам*
*не толькі асабістай светабудовы.*
*Ішлі, бо верылі,*
*бо выбіралі тое,*
*што было большым*
*за ўласнае існаванне.*

*Цяпер, калі паловы няма*
*ні тут, ні там,*
*калі расчараванне дасягнула*
*глыбіні каньёна Каларада,*
*хтосьці ўсё роўна*
*працягвае над ім ісці,*
*па канаце*
*ад мінулага да будучыні,*
*звязвае канцы з канцамі,*
*хтосьці ўсё роўна*
*працягвае ісці.*
*Той,*
*хто не падпарадкоўваецца загадам.*

*І калі я спытаюся,*
*што ты думаеш пра формы свету*
*і сваю ад іх залежнасць,*
*пра стратэгіі самазахавання і*
*самаруйнавання,*
*ці маеш ты адказ?*

*Час паскараецца,*
*свет набліжаецца*
*і, як праз павелічальнае шкло,*
*робіцца бачнымі ўсе яго хібы.*

*А што ты ўмееш, акрамя вершаў?*

*Мы занадта сур'ёзныя для таго,*
*каб жыццё здавалася сцёбам,*
*занадта сур'ёзныя,*
*каб літаратура сталася сцёбам…*

*Ці маю я адказ,*
*адрозны ад уласнага лёсу,*
*што працягвае крочыць*
*па шляху ад гісторыі*
*да Гісторыі?*

### Травень

*Дзень пачынаецца*
*дотыкам цёплым праз шкло,*
*вольным палётам*
*над апусцелымі плошчамі,*
*а сонца густымі плямамі,*
*як масла на хлеб,*
*як фарба на палатно,*
*кладзецца між парасткамі*
*прыдарожнымі.*

### Пачатак сезона

*Водар нагрэтай смалы*
*ад пасечаных сосен*
*ля чыгунных крыжоў.*

*Коміны выдыхнулі*
*белы дым на вішні,*
*ружовы дым на яблыні.*

*Паляцелі пялёсткі*
*на магілы, прыбраныя*
*пад Радаўніцу.*

*Фантазіі ветру і дыму*
*рухаюцца па сцяне адрыны,*
*рэптыліі раслінаў*
*вылазяць з-пад карчоў.*

*Пліскі радуюцца*
*ўзараным гародам*
*пад першым травеньскім дажджом.*

*Заход сонца — агменем*
*вернутага дома,*
*ліхтар палівае вішні*
*чырвонай пяшчотай.*

*Спілаваная бяроза*
*за тыдзень выпрастала лісце —*
*нават у памерлым целе*
*жыццё спыняецца не адразу.*

*Амаль ва ўсіх хатах*
*запалілася святло.*

* * *

*Нерухомасць прыносіць збавенне.*
*Плынь рассыпаецца*
*на тры залатыя паскі,*
*кожны кладзецца ў сваім накірунку.*
*Прайдзі па іх, як хадзілі даўней —*
*і на ўзбочыне свету красуюць краскі,*
*толькі іншага колеру.*

*Нерухомасць таксама стан*
*і даволі просты,*
*яго дасканаласць хаваецца*
*ў глыбіні блакіту.*
*Але ты ўмееш бачыць прыгажосць*
*нават з заплюшчанымі вачыма,*
*і калі вецер падхоплівае пыл*
*тых самых стагоддзяў*
*і штурхае цябе ў спіну,*
*ты адчуваеш скурай*
*яго памкненні*
*ля старой патрэсканай ліпы.*

*Нерухомасць як дар,*
*якім паспей скарыстацца,*
*яго хуткаплыннасць*
*можна толькі адзначыць*
*па разрастанні зялёнай*
*масы, затое ёсць перспектыва*
*стаць голасам,*
*які жыве сам па сабе,*
*і як вялікую ўдачу*
*слухаць птушыную радасць,*
*што далятае з адкрытых балконаў,*

*і ёй адгукацца.*



Фота www.vvvtv.ru

# Цверазілаўка



Андрэй ФЕДАРЭНКА

Сашкý выпала «ў ноч». У яго была такая праца — па зменах, вось яму і надышла чарга заступаць у начную змену. Выходзячы з інтэрната, на будзённыя, праз пазяханне словы вахцёркі: «На службу?» — ён так і адказаў:

— У ноч сёння.

І ў перапоўненым тралейбусе, дзе пашэнціла сесці і дзе ён лавіў на сабе касыя позіркі (асабліва гэтая, тоўстая, з сеткамі ў абедзвюх руках, зырыць), ён так і думаў пра сябе: вось чалавек едзе на працу, «у ноч», — а яны? Куды, адкуль яны едуць? Можа, з базару, ці на базар. Ну і пастаяць, пераб'юцца — не сорак першы, як маёр Паўлавіч кажа. Магчыма, позіркі гэтыя і не ад таго, што ён, Сашок, малады і здаровы, сядзіць, а ад таго, што форма на ім. Тады тым больш пераб'юцца. За год службы Сашок ужо звыкся адчуваць сябе не такім, як усе, звыкся да гэтых паглядаў, звыкся, што калі ён блізка, людзі нават размаўляць пачынаюць цішэй. На ім форма, яна дае ўладу, уладзе зайздросцяць і не любяць таго, хто ёю карыстаецца — вось і ўся «мудзісціка», як любіць казаць той жа Паўлавіч.

Ён спакойна даехаў да праспекта, паправіў фуражку і выйшаў. Было яшчэ светла. На прыпынку, каля газетнага кіёска купкамі стаялі людзі, штосьці ажыўлена абмяркоўвалі. Непадалёку прыткнуўся да самага тратуара міліцэйскі «ўазік». Па тратуары вецер варушыў абрыўкі нейкіх плакатаў. Сашок раптам убачыў у адной з купак знаёмага, толькі ў цывільным. Падышоў:

— Прывітанне; што тут рабілася?

Знаёмы неахвотна, азіраючыся на людзей, падаў яму руку. Людзі прыціхлі.

— Давай адыдзем.

Адышлі за кіёск, закурылі.

— Што рабілася? Тое, што й заўсёды. Паштурхаліся трохі. Амон здарова памог. Пад'ехалі, дзверцы насцеж, накідалі ў машыны, што дроў, — усіх падрад.

— Многа накідалі? — спытаў Сашок, стараючыся адфутболіць шматок плаката, які вецер упарта ляпіў яму на чаравік.

— Парадачна. І адкуль яны толькі бяруцца? Як вясна, так і выпаўзаюць, бы мухі, з усіх шчылінаў. І як ні ганяеш, як ні таўчэш — усё адно не баяцца!

— Абарзелі, — сказаў Сашок. — Рабіць не хочуць, вось і цягаюцца, глоткі дзяруць.

— А ты на работу? — спытаў знаёмы.

— У ноч сёння. А ты?

— Я ўсё, адбарабаніў. Аўтобуса чакаю, дамоў еду.

І, развітаўшыся, разышліся два чалавекі: адзін з працы, другі — на працу.

А працаваць, ды яшчэ ў начную змену, не дужа ахвота. Хоць і вецер, і халаднавата, а ўсё адно вясна, сакавік, а Сашку ўсяго дваццаць адзін год. Вясною не толькі мітынгоўшчыкі, бы мухі, з усіх шчылінаў выпаўзаюць, а і дзеўкі з нагамі. Гэта Паўлавічу добра, на пенсію скора, усё пофіг, толькі б паддаць дзе-небудзь. Ці Будку? — тое ж самае, ні дзеўкі не трэба, ні вясна, абы кір быў. І як ім не абрыдне, такое кожны дзень бачачы. Хоць правільна, што Будку — нічога не свеціць, сорак гадоў, а ўсё ў старшынах, сто разоў адпраўлялі на курсы, каб падвучыць, і ўсё без толку, так і памрэ з адной паласою на пагонах.

Сашок прабраўся між машынаў, што ў любы час сутак ляпіліся ў дворыку перад «даішняю», завярнуў за вугал гэтага ж будынка, выцер ногі аб край шчарбатага цаглянага ганка. Перад тым, як зайсці, глянуў паверх фіранак у закратаванае вакно. Паўлавіч, згорбіўшыся, сядзеў за сталом; збоку, на лаве — Будка.

— Бурэеш, сяржант, — паказаў Сашку гадзіннік Будка, здаровы, з квадратным тулавам дзяцюк, на якім, калі ён паварочваўся, здавалася, трашчыць па ўсіх швах і вось-вось лопне форма. Ён сядзеў на лаве і еў яблык.

— Дабірацца далёка...

— Усё нармальна, — Паўлавіч, відаць, даўно чакаў яго, нават з твару пасвятлеў. Падхапіўся з-за стала: — Так, Сашок, на ключы, пабудзеш адзін трохі... Даішнікі гуляюць сёння, нас запрасілі — такое дзела, што трэба адскочыць, прыняць па сотцы, пакуль ціха... Калі што, бабцы скажаш, яна збегае пазаве. Мы па-быстраму.

Ага, «па-быстраму». Сашок, хмурачыся, узяў звязку ключоў.

— Былі кліенты?

— У чацвёртай камеры каля дзвярэй, — адказаў Будка, высмоктваючы з зубоў рэшткі яблыка, — можаш паглядзець. Дзеўка маладая, «мамоны» прывезлі толькі што, п'яная ў дыміну, ледзь раздзелі.

— Сур'ёзна? Хто такая?

— Хер яе знае, без дакументаў, заўтра разбяромся. А! — ажывіўся Будка. — І з той змены адзін мужык, сам сюды прыйшоў.

— Залівай...

— Паўлавіч, скаж? Трухан, з той змены, выйшаў пакурыць на ганак, а ён сярод белага дня, скаціна, с...ць на сцяну пад самым вакном. Ідзі сюды, пашукай пяты вугал...

— Пайшлі, — прыспешыў Паўлавіч, — пакуль ціха, па-быстраму трэба!

Застаўшыся адзін, Сашок уключыў святло — цямнела проста на вачах. Лянiва прабег позіркам па абрыдлай «прыёмнай». Хоць бы што месцамі памянялася, усе адно й тое ж: стол з папкамі пратаколаў, сейф, лава для «кліентаў», люстра на сцяне, вазоны на падаконніку, фіранкі белыя, бы ў паліклініцы, закрываюць толькі ніжнюю палову акна... Паліклініка... «Незабудка», як алкашы завуць, раз патрапіш — не забудзеш.

Пазвоньваючы ключамі, Сашок прайшоўся з канца ў канец невялікага калідора, паўцёмнага ад слабых лямпачак. Там, дзе мужчынскія камеры, ціха, мужыкі парадак знаюць, давяць сабе масу спакойна. А ў бабскім канцы вечны бардак; гарланяць, блін, нібы іх рэжуць тут, ды яшчэ камфорт кожнай зрабі: то яна вады хоча, то ў прыбіральню, то ей блага і доктар трэба...

Зрэшты, Сашок даўно прывык да гэтых гукаў, як прывыкае, напрыклад, аператар кацельні да шуму прыбораў. І рэакцыя была адпаведная: «шумяць прыборы» — значыць, работа йдзе, усё ў норме.

Зазірнуў у медпакой, ветліва павітаўся. «Фельчар» — Барысавіч — сухенькі кручок у белым халаце, сядзіць на кушэтцы, чытае газету; здзіўлена падняў вочы паверх акуляраў, нібы першы раз Сашка бачыць. Лячыцца ўжо трэба, дзед, ад склерозу, а не лафу тут ганяць... Хоць што: цёпла, ціха, не натрудзішся, сядзі чытай газету ці ў сцяну глядзі, як у тэлевізар.

З прыбіральні данёсся шум вады, якую набіралі ў парожняе вядро. Іванаўна распачала ўборку. Вось хто малайчына, ніколі не ные, не скардзіцца, «кліентаў» не абзывае, усе для яе хлопчыкі, дзевачкі... А «хлопчыкі» з «дзевачкамі» такія трапляюцца, што на карачках паўзці не могуць.

— Многа алкашы наблявалі, Іванаўна? — спытаў Сашок, з'яўляючыся ў дзвярах.

— Пачала толькі, — адказала глухаватая Іванаўна, голымі рукамі выкруціла анучу ў вядры, пачапіла на швабру. — Эх, хлопцы-хлопчыкі, не сядзіцца вам дома...

Сашок успомніў пра «кліентку» ў чацвёртай камеры і толькі хацеў ісці паглядзець, як грукнулі ўваходныя дзверы «прыёмнай». Ён паспяшаўся туды.

Пасярод «прыёмнай» стаяў высокі, хударлявы амапавец. Вочы вузкія, тонкія вусікі, твар скуласты, але не цёмны, як у чучмекаў, а светлы. Берэт ссунуты на патыліцу, дубінка на баку, шнураваныя, з гразёю на падэшвах высокія боцікі... У руцэ — ладны цэлафанавы пакет.

— А дзе старшой? — спытаў амапавец, азіраючыся па баках, і Сашок адразу, толькі па голасе (вопыт як-ніяк) здагадаўся, што ён на падпітку.

— Там... — Сашок матлянуў галавою.

— А старшына? Здаровы такі.

— Там...

— Дык ты, значыць, за старшога? — пасміхнуўся амапавец. — Давай знаёміцца. Цімур! — перакінуў у левую руку пакет, моцна, учэпіста сціснуў Сашкову далонь.

— Саша. Дык, калі маёр трэба, можна пазваць, тут блізка, Іванаўна збегае.

— Не трэба, — Цімур апусціўся на лаву для «кліентаў», з непрывычкі, не ведаючы каверзы гэтай лавы, кульнуўся назад, аж боцікі ўзляцелі. Засмяяўся, сеў вертыкальна, на край: — Сістэма!

— А, гэта вы п'яную дзеўку прывозілі? — здагадаўся раптам Сашок.

— Мы самыя. На мітынгу ўзялі... А я вось скончыў змену, думаю, дай зайду, спытаю, як яна, тым больш я жыву недалёка, вытразвон ваш па дарозе.

— На мітынгу п'яная? — не паверыў Сашок. Не можа быць, я чуў, іх жа там свае не пускаюць...

— Што не можа быць, што не пускаюць? — адразу наструніўся Цімур. Але тут-жа і памякчэў: — Ды ім там бясплатна наліваюць, мне не верыш, дык тэлевізар паглядзі, газету пачытай. Адкуль жа беспарадкі? Цвярозыя ўсе дома ціха сядзяць...

— Пачакай! — перабіў Сашок, прыслухоўваючыся.

Паказалася Іванаўна з мокрай анучаю ў руцэ:

— Просяцца там, у дзверы б'юць, гаротнікі...

— Зараз я камусьці папрашуся.

Сашок загадзя выцягнуў з похваў дубінку, няспешна падаўся ў канец калідора, да крайняй камеры, адкуль даносіўся шум. Цімур пайшоў за ім.

Нехта лупіў кулакамі ў дзверы і п'яна крычаў:

— Выпусціце, сукі, я ва ўсім прызнаюся! Падпішу, што чалавека забіў, толькі выпусціце!

Сашок пстрыкнуў уключальнікам, хутка адамкнуў і рэзка расчыніў дзверы. На яго ледзь не ўпаў голы мужчына, у адных трусах і шкарпэтках. Па інерцыі мужчына яшчэ трымаў узнятыя над галавою кулакі. Сашок размахнуўся і шлёгнуў яго дубінкаю па жываце, не ўдарыў, а менавіта вось так, з адцяжкаю, шлёгнуў.

— Па нырках не біце! — крыкнуў мужчына, скурчыўшыся, закрываючы рукамі чамусьці не ныркі, а галаву. — Я з бальніцы нядаўна выпісаўся!..

— Гэта за сук, — Сашок ступіў у паўцёмную камеру. — Ну, хто яшчэ савецкай уласцю не давольны? — гучна спытаў, паляпваючы дубінкаю аб далонь.

— Папіць можна? — папрасіў сіплы голас з кутняга ложка.

— Можа, яшчэ пахмяліцца паднесці? Пераб'ешся, хутка выпускаць пачнём.

— Хутка — калі?

— Што, першы раз тут?

— Першы...

— Не бойся, выпусцім. Як толькі гімн раніцаю адыграе.

— Скажыце, — не ўнімаўся той жа голас, — а на работу... паведаміце?

— Мяне цікавяць «бабкі», а не вашая работа. Вось адыграе

раніцаю гімн — усе на тэлефон, званіце каму хочаце: сябрам, жонкам, любоўніцам, б…м — хай прыязджаюць, плацяць штраф, і ўсе свабодны.

— Парадачкі ў вас, — пахваліў Цімур, калі вярнуліся ў «прыёмную». Цяпер у яго вузкіх п’янаватых вачах Сашок яўна прачытаў павагу да сябе. — А не скардзяцца яны раніцаю? Ну, што білі там, грошы забралі.

— Ды хто іх слухае! І што яны помняць… У п’янага адно права — забудзь на ўсе правы.

— І то праўда. Слухай, друг, ты мне падабаешся, — Цімур падміргнуў па-змоўніцку, падняў пакет. — Не хочаш выпіць, за знаёмства? Кір, закусон — усё з сабою… Кура гарачая яшчэ, у грылі купіў…

— А, давай! — нечакана згадзіўся Сашок. — Толькі бутэльку вунь там, пад стол паставіш, а куру можна сюды, на крэсла… Для перастрахоўкі.

Сашку не так хацелася выпіць (піў ён увогуле рэдка, тым больш на службе), як паесці. Падумаў пра Паўлавіча з Будкам — гудзяць у «даішнікаў», а ён што, святы́? Прывыклі, маладога знайшлі. Ды і Цімур гэты, здаецца, нічога хлопец, рэзкі, жылісты, накачаны, руку паціснуў — яшчэ й цяпер баліць; з такім не хацелася б сустрэцца дзе-небудзь сам-насам… Сашок узяў з падаконніка дзве шклянкі, панюхаў, выліў у вазон рэшткі піва. Дастаў з папкі стос чыстых лістоў — рукі выціраць.

— Табе больш, — Цімур няроўна падзяліў, — цягні, зямеля!

— А ты адсюль хіба, з Беларусі? Непадобны крыху, — асцярожна заўважыў Сашок.

— Адсюль, не адсюль… На адной зямлі жывем, усе землякі.

Выпілі. Сашок адразу паставіў шклянкі назад на падаконнік. Кура, сапраўды, была яшчэ цёплая, смачная, тлушч аж цёк з яе.

— Многа ў вас кліентаў бывае? — спытаў Цімур, выціраючы папераю вусны і пальцы.

— Як калі. Бывае, што і ніводнага за змену.

— Сур’ёзна? А я гляджу, ложкі незанятыя ёсць. Дык харошая работа ў вас.

— Як жа, — Сашок нават пакрыўдзіўся. — Раз на раз не прыпадае… Ага, — успомніў ён, — яшчэ ж мітынг сёння, а ў такія дні чамусьці мала кліентаў. Ды і злачынстваў, крадзяжоў мала… Вось таксама не разумею: здаецца, каб быў злодзеем, бандытам, дык толькі такія дні і выбіраў бы — уся ментура на разгоне, рабі што хочаш… Знаёмага бачыў, ён расказваў, вы там сёння добры парадак навялі?

— Што навялі, хто навёў? — ускінуўся зноў Цімур невядома ад чаго. Дастаў цыгарэты, закурыў, выпусціў дым праз тонкія ноздры. Нос у яго, відаць, некалі быў перабіты, яшчэ й цяпер белаваты след пасярэдзіне, бы акулярамі нацёрла. — І так цацкаемся з імі… Каб мая воля, я б за пару гадзін усё скончыў. Хоць, з другога боку, — а мы тады на што былі б патрэбныя? Вось не было б, скажам, п’яніцаў — куды б ты дзеўся?

Сашок паціснуў плячыма. Ён пачаў ужо неяк пабойвацца гэтага Цімура, гэтых яго рэзкіх, без прычыны пераходаў ад нармальнай кампанейскай гутаркі да раздражнёнасці. Самаму Сашку ад гарэлкі і асабліва ад смачнай закускі на душы рабілася ўсё дабрэй, усё цяплей. Ён паставіў на стол шклянкі, Цімур наліў, гэтым разам сабе ці не ўдвая больш. Выпіўшы, да куры не дакрануўся, моўчкі дасмальваў цыгарэту.

— І што яны хочуць? — спытаў Сашок, маючы на ўвазе мітынгоўшчыкаў. — Ахвота ж пад дубінкі перці, у каталажках сядзець.

— Што-што… Яны ўсё правільна хочуць. За мову сваю стаяць, за ўсё сваё… І я б таксама бунтаваў на іхнім месцы! — з нейкім выклікам, з гонарам, што вось не бэсціць ворагаў, а хваліць, заявіў Цімур. — Ім лягчэй, яны беларусы, таму і стаяць за ўсё сваё. А вось мне што рабіць? Бацька казах, так? Маці руская, нарадзіўся на Украіне, жыву ў Беларусі… Вось хто я? — уставіўся ў Сашка́, нібы той быў вінаваты.

— А мне напляваць, хто я, — Сашок, і праўда, плюнуў на падлогу і нават расцёр абцасам.

Іванаўна, якая ў гэты час дабралася з уборкаю да «прыёмнай», заўважыла гэта, падышла:

— Эх, хлопчыкі, хлопцы-казакі, — дайце я вас пабеспакою… — пачала шоргаць анучаю каля стала і лавы.

— Хлопцы як дубы, а яйцы як жалуды! — пажартаваў Цімур, падымаючы ногі. Ён сядзеў на лаве. — Дык табе напляваць, — звярнуўся да Сашка, — а сам з акцэнтам гаворыш. Ды яшчэ з такім, што я не ўсе словы разумею.

— Абыякавасць да жыцця і ўсеагульная млявасць, — сказаў Сашок тое, што помніў з арміі, калі хлопцы прасілі пагаварыць па-беларуску незразумелымі словамі. — А акцэнт… дык з вёскі ж… Гэта Марынка па-беларуску чыста ўмее, насабачылася.

— Марынка?

— Ну, сястра, малодшая.

— Сястра ёсць? — чамусьці здзівіўся Цімур.

— Студэнтка. Бацька ёсць, матка, яна з імі жыве, а я асобна, у інтэрнаце.

— У Мінску жывуць? Ты ж кажаш, акцэнт з вёскі.

— З Чарнобылем здорава пашэнціла, — растлумачыў Сашок. — Пайшоў у армію, з Хойнікаў — усё нармальна, вяртаюся — ёперны цеатр, ужо радыяцыя. Ну, Марынка як ільготніца паступіла ў Мінск вучыцца, я таксама паехаў, у ментуру ўстроіўся. А потым бацькоў выселілі, і Мінск выпаў, уяўляеш?

— Халява, — пазайздросціў Цімур.

Выпілі яшчэ. Ужо і Сашок не закусваў. Цімур, расчырванелы, расшпіліў бушлат, смаліў цыгарэту, глядзеў, звузіўшы вочы, на Сашка́, але, здавалася, не бачыў яго, думаў пра штосьці сваё.

Сашок, хоць і ап’янеў, ніяк не мог расслабіцца. Чаго ён тут тырчыць, гэты вузкавокі, чаго ўставіўся, дапіваў бы хутчэй ды зматваў адсюль… І не выжанеш — дужэйшы. Сашок крадком зірнуў на гадзіннік. Пара б ужо і тым прыйсці… Ці хоць бы кліента нарад даставіў…

— Халява некаторым, — задуменна паўтарыў Цімур. Ён перагнуўся цераз стол, паківаў пальцам, каб Сашок прысунуўся бліжэй, і зашаптаў ледзь не ў вуха: — Дык табе, значыць, напляваць, хто ты? І правільна! Бо заўтра, калі ўсё, можа быць, зменіцца, з цябе ні за што не папытаюць, ты іхні, свой, адна кроў, ды яшчэ ў цёплым куточку, пры п’яніцах адсядзеўся… І заўтра ты ўжо не будзеш саромецца акцэнту, а будзеш, можа, крычаць, як гэтыя сёння: «Чамадан — вакзал — Расія»…

— Ды ты што? — адхіснуўся Сашок. Ён нічога не разумеў: што можа змяніцца заўтра? Навошта змяніцца? Хто з яго будзе за што пытаць? Ён бачыў і разумеў толькі, што гэты вузкавокі ўсё больш раздражняецца, усё больш шукае выйсця нейкай злой энергіі, якая гняце яго. І Сашок па сабе ведаў, чым гэта можа скончыцца. Проста яму, Сашку, могуць даць зараз па зубах — вось чым. — Цімур, ты…

— Што?

— Нічога… Давай дап’ем.

— Паспеем. А вось мне не напляваць, хто я! Мне нельга забываць на такое, бо мне першаму — адразу! — усё прыпомняць… — Цімур раптам засмяяўся, заблішчэлі вузкія вочы, яшчэ больш, здалося, выпнуліся, заігралі азіяцкія скулы. Ён склаў дулю: — Толькі не дачакаецеся! Ні храна ў вас не будзе, — усё ж паказаў дулю не Сашку, а некуды ўбок, камусьці, хто за гэтымі сценамі. Тады сціснуў кулак, аж пальцы хруснулі: — Вось дзе вы будзеце? Згодзен?

Сашку падалося, што Цімур зараз ударыць яго, і ён ускочыў з-за стала:

— Згодзен…

— Сядзь, не бойся. Не верыш ты мне, не згодзен, па вачах бачу. А калі верыш — тады ты проста тупы, — спакойна сказаў Цімур. — Ты што, верыш, што мы «парадак наводзім»? Верыш, што мы не злачынцы? — насмешліва спытаў ён.

Сашок, прапусціўшы міма вушэй «тупога», прамычэў штосьці няўцямнае, баючыся не дагадзіць.

Цімур зноў перагнуўся над сталом, зашаптаў:

— Дзеўка, што мы прывезлі, цвярозая была! — і падміргнуў Сашку. — Толькі гарланіла дужа… Гучней за ўсіх. Голас малады, звонкі… Абкруцілася сцягам, а харошанькая сама, ды і ногі… Мяне камандзір штурхнуў у бок — прыглядай, а я і без яго прыглядаюся, — шаптаў Цімур, не спускаючы з Сашка бліскучых звужаных вачэй. — Ну, канчаецца заварушка, а яна, дурніца, зазявалася, вазьмі ды і адстань ад сваіх крыху. Сама вінавата — ідзі сюды, дарагуша, ручкі за спіну, кінулі ў «уазік»… І тут мне крыўдна стала. Разумееш? Так крыўдна, што не перадаць! — Цімур стукнуў сябе кулаком у грудзі. — Ах, думаю, вы на сваёй зямлі? Ах, у вас правы ёсць? Я ж вам пакажу, якія ў вас правы… Усё адно ж, думаю, вы, сволач мітынговая, як бы і за людзей не лічыцеся, супраць улады йдзяце, таму не спадзявайцеся, што ўлада вас пашкадуе… Ну, заехалі мы, значыць, у дворык, — шаптаў Цімур, — тут мне і прыйшла мыслѧ́, стоп, кажу хлопцам. Заскочыў у магазін з двара, там міталем вадзяры бутэльку прынеслі, яны ўжо ведаюць, як мы стрэсы здымаем… Пагуляйце, пакурыце, кажу хлопцам. У машыне цёмна, ды і дворык глухаваты, «ментавозка» стаіць — які нармальны чалавек блізка падыдзе?.. Ды і малая спалохалася, амаль не супраціўлялася, спачатку толькі дрыгнулася пару разоў, а тады прыціхла, самой, відаць, спадабалася… Вось табе, авечка, твае правы, ведай сваё месца. Адвёў душу, пакуль хлопцы курылі… Адкаркаваў бутэльку — пі, кажу. А яна як так, дык маўчала, а гарэлку ўбачыла — бы звар’яцела, крычыць, матляе галавою, зубы сціснула… Я бяру, вось так… — Цімур яшчэ больш перагнуўся і дужымі пальцамі націснуў Сашку каля вушэй паміж сківіцамі. Рот у таго ад болю сам сабою раскрыўся. — І ўліў амаль поўную, а рэшткі дапіў. Пакуль давезлі, дзяўчынка гатовая, сам на руках занёс, вось сюды, на гэтую лаву.

— Але навошта… ты ж кажаш, самой спадабалася? — Сашок зглытнуў сліну. Здагадка, што прыйшла яму на розум, як толькі Цімур пачаў расказваць, не адступала, а з кожным новым словам толькі мацнела, перарастала ў дзікую, неверагодную рэальнасць.

— На ўсялякі пажарны. П’яная, на мітынгу — ідзі цяпер даказвай свае правы каму хочаш, свабодная, як сапля ў палёце… А ты кажаш, сястра, а ты кажаш, студэнтка, — закончыў Цімур нечакана цвярозым голасам і ўжо без іроніі.

Сашок, дранцвеючы, уталопіўся ў яго. Потым схапіў ключы і кінуўся ў канец калідора, да чацвёртай камеры. Пальцы не слухаліся. Ён ледзь уставіў ключ у шчыліну. Адамкнуў дзверы, ступіў да бліжняга ложка, на які па́дала з калідора палоска святла. Ён нічога не думаў, а толькі адчуваў, як гідка макрэе пад пахамі; вусны яго самі сабою шапталі: «Свечку закажу, свечку… Усе грошы папу́ аддам…»

— Начальнік!.. — разбуджаная, тоўстая баба з суседняга ложка паспрабавала ўстаць, але не ўтрымалася, упала назад. — У-у, мянцяра.. — вылаялася доўга і брудна і сціхла.

Дзяўчына ляжала, скурчыўшыся, на баку, прасціны былі скручаныя ў жгут. Сашок нагнуўся над ёю. Свет для яго раптам пацямнеў і звузіўся да памераў гэтай цверазілаўкі, гэтай камеры… Дрыжачымі рукамі ён перавярнуў дзяўчыну на спіну, схіліўся яшчэ ніжэй, узіраючыся ў твар. Дзяўчына не расплюшчыла вачэй, слаба прастагнала і адвяла яго руку. На яго дыхнула звыклым пахам — як ад усіх «кліентаў»… Ён паморшчыўся. Гэта была не Марына.

Цімур стаяў у дзвярах і, пасміхаючыся, глядзеў на яго.

— Ну, што? — пацікавіўся ён, калі Сашок выйшаў.

Сашок маўчаў.

— Не… яна, — выціснуў з сябе ён урэшце.

— Слабак ты, сяржант… Забудзь пра ўсё, што чуў, ясна?

Сашок кіўнуў. Яны стаялі адзін насупраць другога. І за гэты кароценькі міг Сашок, акрамя страху перад гэтым чалавекам, адчуў, зразумеў да неверагоднасці ясна: Цімуру хацелася, каб тут, у камеры, была Марынка. І калі б на месцы гэтай дзяўчыны — чыёйсьці сястры, аказалася Марынка, — усё гэтак сама было б. Нічога б ён, Сашок, не зрабіў бы. Як той мужчына, якога ён нядаўна біў, ён стаяў цяпер перад Цімурам, скурчыўшыся, чакаючы кожную хвілю ўдару.

— Дзверы не забудзь зачыніць, — сказаў Цімур. — Пайшлі.

У «прыёмнай» Сашок, ні слова не кажучы, выліў рэшткі гарэлкі сабе ў шлянку.

— Ого! — Цімур прысвіснуў, відаць, не чакаў такой смеласці.

Сашок ужо больш не мог фізічна выносіць гэтага голасу, гэтых скулаў і асабліва гэтых вузкіх вачэй. Яму раптам да свербу ў пальцах, да болю ў скронях захацелася плюхнуць са шклянкі ў гэтыя вочы — каб толькі не бачыць у іх самога сябе… Ён заплюшчыў вочы і паволі выпіў усё да дна.

— Хлопчыкі! — пачуўся голас Іванаўны. — Зноў крычаць, просяцца, гаротнікі!..

Сашок скрыпнуў зубамі. Выцягнуў дубінку:

— Ну, зараз дапросяцца!

І пайшоў, амаль пабег. Цімур, пасміхаючыся, глядзеў яму ўслед.

**1997, 2020**

# Вечны пароль

**Паэма**



Сяргей ЗАКОННІКАЎ

### Зачын

*Унучцы Марыне*

*Мне словы не трэба падоўгу шукаць,*
*Рукой цвёрда водзіць роднасці повязь…*
*Ад першага да апошняга радка*
*Прысвечана ўнучцы волі аповесць.*

*Як сок, што бунтуе, імчыць пад карой,*
*Любоў насыціць і ласкай атуліць.*
*«МарынаФранцішак» — надзейна пароль*
*Захоўвае памяць бабулі, дзядулі.*

*Пра мілых нашчадкаў развагі найперш*
*Нязменна ўвечары і на світанку…*
*Для дзетак, што будуць у іх,*
*даўні верш,*
*Цэнзураю выкінуты з чытанкі:*

Я — беларус

*Я — беларус.*
*Спрадвеку мне належыць*
*Чароўны край*
*Бароў, палёў, крыніц*
*Ад тураўскіх муроў да Белавежы,*
*Ад Крэва і да полацкіх званіц.*

*Крывіч,*
*радзіміч,*
*дрыгавіч у згодзе*
*Дапамаглі мне моцным верай стаць,*
*Каб прарастаў, як колас, у народзе,*
*Які ніхто не зможа растаптаць.*

*Каб моваю душа мая світала,*
*Каб стаў я вартым матчынай зямлі,*
*Скарына,*
*Каліноўскі*
*І Купала*
*Свой горды дух і мне перадалі.*

*Я — беларус.*
*Я ведаю сягоння,*
*Як пракладаць да шчасця вольны шлях.*
*Са мною неўміручая Пагоня*
*І бел-чырвона-белы родны Сцяг!*

### 1. Мы — такія

*Не думаў, што выпадзе ўдач паласа,*
*Калі жыццё на ўсю моц шкуматала,*
*Што мне давядзецца для дзетак пісаць*
*Падобнае нешта на «Ожэл бялы»…*

*Была эйфарыя нядоўгай, бо ў свет*
*Раптоўна вылезла розная погань.*
*Да скроні цягнецца подлы кастэт,*
*Калі выяўляеш адрозны погляд.*

*Жыць стаў і не дома я, і не ў гасцях*
*Пасля падтасовак, фальшу, падману.*
*Адчуў сябе так, як слаўны наш сцяг,*
*Мярзотна на шматкі разарваны.*

*Але ўсё праходзіць, і гэта міне,*
*Галоўнае — мець сумленне і годнасць.*
*Айчыны гісторыя б'ецца ўва мне,*
*Пульсуе яна па крыві свабодна.*

*Гісторыя наша — сівы, даўні мур…*
*Яна не казка пра белых, пушыстых.*
*Яна — не цынічны і пошлы гламур*
*Сучасных «грымёраў» і «візажыстаў».*

*Сумленнасці мала, бо кожны глядзіць*
*З балотнае купіны, а не з высяў.*
*Правіцелю хочуць яны дагадзіць,*
*Сябе новай выдумкай лепш узвысіць.*

*Ды шлях не такі ў нас, як хочуць падаць*
*Для моладзі сёння прапагандысты.*
*Муць піць надта шкодна, павінна вада*
*Быць, як у крыніцы, —*
*Празрыстай, чыстай…*

*Нярэдка бывала: геройства ў бядзе,*
*А потым — прадажнасць,*
*І так — спрадвеку.*
*Усё ад складанай загадкі ідзе*
*Прыроды і кожнага чалавека.*

*А разам, калі на народ паглядзець*
*Праўдзіва, уважліва і крытычна, —*
*Нібыта не горай за іншых людзей,*
*Але ў стане вельмі несімпатычным.*

*Мы можам на працы як след шчыраваць,*
*Стараццa да стомы, да злога поту…*
*А ўвечары зладзіць данос і пасцаць*
*На ўдачлівых надта калег употай.*

*Мы можам кашулю рвануць на грудзях,*
*Зняць нават з сябе і аддаць суседу…*
*Чаму ж не выходзім на радасны шлях,*
*Каб смак свабоды напоўніцу зведаць?*

*Чаму мы за праўду гарой не стаім,*
*Пакуль чорны дзень не пагрозіць кіем?*
*Чаму так даверліва ў подласці спім?..*
*…Ну што з намі зробіш, бо мы — такія.*

*Шукаць след варожы ў Айчыне дарма,*
*Нам толькі б уласнай дурноты меней.*
*Усе мы — свае, бо чужых тут няма…*
*Патрэбна адзінае — разуменне.*

*Любі Беларусь, ды з усімі, хто ёсць,*
*Рабі яе лепшаю без супынку.*
*З нас кожны на роднай зямельцы —*
*не госць,*
*А частка яе — цаглінка, крывінка.*

*Любі Беларусь — кожны ўзгорак і куст.*
*Няважна чый ты, якога ты ўзросту.*
*Хай розныя веры, няхай іншы густ…*
*Любі, хоць часам любіць і няпроста.*

### 2. Чатыры пары года

#### Зіма

*Паўсюль снягі. На дрэвах крохкі іней…*
*Дым цягнецца да зорак з каміноў*
*У вёсках, што між белае пустыні*
*Рыхтуюцца глядзець малюнкі сноў.*

*У грубцы — бульба, пахне скварка дымам,*
*Сквірчыць і ў рот спяшаецца сама…*
*І ў горадзе — марозік.*
*Добра дыхаць…*
*Душу і цела маладзіць зіма.*

#### Вясна

*Зялёны разліў запаўняе прасторы,*
*Спяшаць апантана лістота і травы.*
*Пара, што прыходзіць, выразна гаворыць:*
*Зямля зноў нявесціцца не без паставы.*

*Сукенка — сады ў маладым першацвеце,*
*А вэлюмам — белай чаромхі глыбіні.*
*Сабраны ў вясельным раскошным букеце*
*Круты, росны бэз і язмін наш любімы.*

#### Лета

*Язмінавы пах перацёк хутка ў лета,*
*Ружовы бачок паказалі суніцы.*
*Прысады, лугі цешаць россыпам кветак,*
*У цёплых барах загусцеў дух жывіцы.*

*Паміж каласоў павучок тчэ красёнцы,*
*Стрыжы віражуюць імкліва і класна…*
*Шчырые напоўніцу шчодрае сонца,*
*Усім раздае жыццядайную ласку.*

#### Восень

*Ляціць павуцінка пад небам самотным,*
*А ў выраю шлях на край свету пралёг.*
*Яшчэ дзе-нідзе на палетках клапотна,*
*Ды складзена стома, як сена, у стог.*

*Іржэўнік, атава, пагоркі, азерца —*
*Плыве ў вочы сцішаны ўвесь далягляд…*
*І сэрца ў нямым утрапенні заб'ецца:*
*Якая прыгожая наша зямля!*

### 3. Ёсць два дзеясловы

*У роднай мове, дзе пошук не сціхае,*
*Ёсць два дзеясловы: «люблю» і «кахаю».*
*З імі не зблудзішся нават выпадкова,*
*Куды трэба нас прывядзе само слова.*

### 4. Велік

*Зноў згадка, нібыта далонь, закране*
*Або нечакана, святочна прысніцца…*
*За плечы прылашчыла сонца мяне,*
*Палае і круціцца сонейка ў спіцах.*

*Гравейкай з узгорка на ўзгорак лячу,*
*Кручу на ўсю сілу няшчадна педалі.*
*Мне хораша, радасць зіхціць уваччу,*
*Прад колам — бясконцая добрая далеч.*

*Крывіцкі пейзаж — поле, возера, лес…*
*Як руль, абдымаю дарогу абеуруч.*
*Туды на спатканне імчуся, дзе бэз*
*Узяў у ліловы палон стромкі бераг…*

*Эх, велічак, велічак… Сябра стары́*
*Знасіўся ў вандроўках даўно да знямогі.*
*Дажыўся і я да сівое пары,*
*Калі лепшы транспарт — уласныя ногі.*

*Але ты ляцеў па жыцці нездарма,*
*Сумленне і годнасць з тых дзён*
*не скрывелі.*
*За радасць, якой на прылаўках няма,*
*Асобны паклон табе,*
*Верны мой велік.*

### 5. Загадка

*Якія там дэкрэты ў галаве?*
*Тут нават не бяда — пустыя шлункі…*
*Жыццё па вуснах радасна плыве,*
*Што злітыя ў пякельным пацалунку.*

*І ў звоне рос, і ў шолаху травы*
*Я спазнаю быцця першапрычыны,*
*Але найперш наш свет дасюль жывы*
*Загадкаю жанчыны і мужчыны.*

### 6. Самаволка

*На зборах вайсковых студэнцкі народ*
*У хохмах бясконцых прайшоў загартоўку.*
*На вокліч наструнены:*
*«Стой! Кто идет?»*
*Гучала: «Морковка!», хоць трэба:*
*«Винтовка!».*

*Яшчэ, заступаючы ў збрыдлы нарад,*
*Наладжвалі цырк з хуліганскім ухілам:*
*Выскоквалі з цёмных кустоў і «Ура!»*
*Крычалі замест «Пароль!» з дзікай сілай.*

*Чаго толькі ў лагеры ні адгуло*
*Пад тупат старых кірзачоў,*
*што з запасу.*
*Ды самым казырным на зборах было —*
*Пайсці ў самаволку, пабыць самапасам…*

*Для вылазкі выбраў нялепшы я час:*
*Савецкія танкі ўварваліся ў Прагу,*
*Паўсюль патрулі і глушылкі вішчаць,*
*Ды чэхі штурхнулі мяне на «адвагу»…*

*Атры́маны ліст прачытаў, палічыў:*
*З дзяўчынай такой не магу размінуцца.*
*Да Жлобіна трэба дабрацца ўначы,*
*Затым у Бабруйск да пабудкі вярнуцца.*

*Адбой. Як заснулі, я выбраўся ў шлях,*
*Ён хоць і нядоўгі, ды скрозь перашкоды.*
*Адчуў, што на станцыі жыў смак і пах*
*Жаданай, але недасяжнай свабоды.*

*Свабодай прапах замазучаны дол,*
*Трава, што прабілася проста між*
*шпалаў.*
*Як кажуць цяпер, быў сапраўдны прыкол,*
*Душа мая ў тым захапленні — спявала.*

*Мой транспарт нязручны —*
*руды таварняк,*
*Ды ў ім зацішней, прыхаваюць вагоны.*
*Я, хоць і студэнт, маю зараз аднак*
*Зялёныя з кантам чырвоным пагоны…*

*З дзяўчынай пабыў, патрымаў за руку,*
*А потым назад, і яна ўратавала,*
*Бо ведала ў Жлобіне кожненькі кут:*
*Да рэек прарваліся мы без вакзала…*

*Успомніўся час малады нездарма,*
*З азартам і смеласцю крочыў заўсёды.*
*Хоць пошасці рознай супынку няма,*
*А я галасую жыццём за свабоду.*

*Штотыдзень пішу і пра гвалт не маўчу*
*Пятнаццаць гадоў, ды пакуль што*
*без толку…*
*Як хочацца мне, хоць старому хрычу,*
*Але з дыктатуры ўцячы ў самаволку.*

### 7. Марына

***На беларускую дзяўчыну,***
***Калі тут праўду ёй аддаць,***
***Ніхто ўшчэ каменем не кінуў***
***І не паважыцца кідаць.***
***Янка Купала***

*Так будзе навечна, як класік сказаў,*
*Бо словы яго неўміручасцю свецяць.*
*Красой, чысцінёй — бы раса ці сляза —*
*Дзяўчаты ў нас*
*найпрыгажэйшыя ў свеце.*

*Мне выпала шчасце пагушкаць дачок,*
*Дарылі здзіўленне адна і другая.*
*А час паміж пальцамі хутка працёк,*
*І вось ужо цуд новы іх даганяе…*

*Нібы па аблоках, у сонечны дзень*
*Блукаў я з табою па гулкіх кварталах.*
*Бэз зноўку квітнеў, цэлы горад глядзеў,*
*Як ты на руках маіх соладка спала.*

*Лістота, трава завяршалі свой бег,*
*Вясна трапятала, буяла наўкола.*
*Зайздросціў у той чысціні сам сабе,*
*Бо ў бэзавым воблаку нёс я анёла.*

*Была ты смяшлівай, рухавай, жывой*
*І мела такую выключную памяць,*
*Што ўпэўнены: лёд забыцця — не з табой,*
*Ніколі душу не сагне, не апаліць.*

*Яшчэ да прыроднай красы, мілаты*
*Прыязнасць, дапытлівасць, гарт дадаліся.*
*З кампутарам ты размаўляеш на «ты»,*
*Я помню блінцы, што табою пякліся…*

*Лёс выпаў «дзіцятку клапотных дарог»*
*Расці, стаць дарослай у новай краіне,*
*Ды веру, што ласкай, пяшчотаю Бог*
*Атуліць цябе і ў бядзе не пакіне.*

*У далеч нязнаную сцелецца шлях,*
*Ён, быццам чаўнок, завіхаецца ў кроснах.*
*Зайздрошчу таму, хто цябе на руках*
*Насіць будзе ў сэнсах прамым,*
*пераносным.*

*Не трэба бясконца тлуміць галаву…*
*Стоп конкурсы «місаў»!*
*Уражам мы «польку»!*
*Найлепшыя ў свеце дзяўчаты жывуць,*
*Як ты ні круці, ў Беларусі і ў Польшчы.*

### 8. Запас залаты

*Ты — мой запас залаты…*

*Дзяржава бясконца пераплаўляе*
*Працу мільёнаў у бліскучы злітак,*
*А я ў гэты час Варшаву ўяўляю,*
*Думаю: як там «мой мілы нажытак»?*

*Ганяецца нехта за золатам сквапна,*
*Ёрзае па ім сваім мяккім месцам.*
*А я зноў шукаю эпітэт трапны,*



Фота www.sputnik.by

*Каб табе стала цікава і смешна...*

*Я гляджу ў твае родныя вочы*
*І не баюся бясконцасці ночы.*

*Мой запас залаты — ты.*

## 9. Жаночая доля

*На ўнучку гляджу, і ўстае прада мной*
*Гісторыі нашай бясконцае поле.*
*Не толькі з сярпом і з сагнутай спіной*
*З вякоў выплывае жаночая доля.*

*Яна прымушала красуняў умець*
*Рабіць што заўгодна не горш за мужчыну,*
*Ісці за каханым у ссылку, на смерць,*
*Ды след за сабою не сцёрты пакінуць.*

*Іх мужнасць не нішчыла нават бяда,*
*Сумленне спрадвек заставалася чыстым.*
*«Хай заб'юць, ды нікога я не прадам», —*
*Дзяўчына сказала ў твар энкавэдыстам...*

*Каго ж не расчуліць і не закране*
*Ахвярнасць матуль?*
*Хто заступіцца лепей?*
*Я згадваю тых, што прасілі ў мяне*
*Для хворых дзяцей ратавальныя лекі.*

*Хто толькі ў стагоддзях не мучыў,*
*не тоўк*
*І плоць, і душу вашу гвалтам звярыным!*
*З вас робяць і сёння маўклівы натоўп...*
*Як быць наравістым і гордым жанчынам?*

*Мае беларусачкі!*
*Спёка ці град —*
*Вам выстаяць трэба ў любую пагоду,*
*Каб не перарваўся заведзены лад,*
*Трывалая нітачка нашага роду...*

*Ляжыць на плячах далікатных зноў час,*
*Лячыць трэба многіх людзей без супынку.*
*Малюся за вас і малюся на вас,*
*Мае залатыя, святыя жанчынкі...*

## 10. Сыход

*Паэма згадала жаночую долю*
*Якраз недарэмна і невыпадкова.*
*Я словы трывожныя ўзяў не са столі,*
*Бо Маці для нацыі — першаснова.*

*Яшчэ ў сэрца часта і ўладна прыходзіць,*
*Займае сваё незаступнае месца*
*Балючы ўспамін аб Вялікім Сыходзе,*
*Які не ахопіш ніякаю меркай.*

*Адна за другой рэвалюцыі, войны,*
*А з імі нястача і бежанства ў пáры.*
*Не жыў беларус на планеце спакойна*
*Ніколі, відаць. Гвалт над ім уладарыў.*

*Да гвалту адразу суседзіцца голад,*
*Які заганяе любога ў знямогу.*
*Калі ён бярэ чалавека за горла,*
*То трэба збірацца паціху ў дарогу.*

*Амерыка, Англія, Мексіка, Чылі,*
*Аўстралія нават — такія маршруты.*
*Яны люд тутэйшы мазольна вучылі*
*Свой лёс выпраўляць, што бядою сагнуты.*

*Савецкай імперыі ўдар быў не меншым:*
*Рэпрэсіі, ссылкі ў Сібір і вярбоўкі,*
*Цаліннныя землі, будоўлі, абмены —*
*Знясілілі ўшчэнт беларусаў тасоўкі.*

*Задумацца трэба над доляй народу,*
*Бо можа ў трагедыю выліцца драма.*
*Нібы ледавік, растаем год ад году,*
*Статыстыка сведчыць — спаўзаем у «яму».*

*Сышліся пакуты, туга, гнеў, праклёны*
*І мары нязбытныя ў доўгім Сыходзе...*
*«А нас жа было б трыццаць пяць аж*
*мільёнаў!» —*
*Дэмографы ў роспачы рукі разводзяць.*

## 11. Абавязак мужчыны

*Мужчыны Айчыны!*
*Сумленне пранізвае боль,*
*А сорам даймае,*
*знясільвае невераговна:*
*Мы страцілі ў спрэчках бясконцых*
*свой вечны пароль,*
*Пароль гэты просты, дакладны —*
*уласная годнасць.*

*Не трэба ўвесь час прыкрывацца мінулай*
*вайной...*
*Калі вораг лезе нахабна на нашыя межы,*
*Не толькі салдаты, народ вырастае сцяной,*
*У ім і жанчынам таксама геройства*
*належыць.*

*Каб нешта было ўсім настойліва*
*абараняць,*
*Яго яшчэ трэба праз пот збудаваць*
*пастарацца!*
*Стралялкі і спорт — гэта стратная*
*ўсё-ткі «гульня»,*
*Аснова жыцця ў нас —*
*нялёгкая мірная праца.*

*У ёй не такі падыход, як звычайна ў баях,*
*Тут думаць належыць усім, не адным*
*камандзірам.*
*А што назіраем? Паўсюль —*
*падхалімства і страх!*
*Галовы сагнуты ў цывільных і ў тых, што*
*ў мундзірах...*

*Наконт вечнай місіі тысячы ўведзены*
*ў зман,*
*Хоць ёсць — муж і чын.*
*Дык у чым жа, прабачце, прычына?*
*Лісліўцаў, падлізаў, праныраў у нас —*
*акіян,*
*Куды ж пахаваліся, зніклі, прапалі*
*мужчыны?*

*Ахова жанчыны, сям'і, волі ўсіх —*
*за табой,*
*Сумленне і мужнасць — такая*
*мужчынская мантра.*
*Якая там «честь» можа быць*
*у бязмоўных рабоў,*
*Якія прывыклі выконваць любыя каманды?*

*Паменей — страляць, а паболей —*
*любіць і ствараць,*
*Нам нельга душою купляцца на шал*
*і спакусы.*
*Спадніцы таксама нявартa, сябры,*
*прымяраць,*
*Бо мы — не шатландцы, а ўсё ж,*
*як ніяк, — беларусы...*

*Праблемы маралі растурзалі існасць*
*даўно,*
*Але наш пароль застаецца, і ён —*
*назаўсёдна...*
*Мужчыны Айчыны,*
*Давайце мы зробім адно:*
*Усе як адзін абаронім уласную годнасць!*

## 12. Перад далёкай дарогай

*Нямала спазнаў за жыццё ў белым свеце,*
*Злічыць немагчыма, што меў*
*на прыкмеце.*

*Але непазбежнасці крок не змаўкае,*
*Спрадвеку ўсё зменліва перацякае:*

*З'яўленне, здзіўленне, чаканне, утрапенне,*
*натхненне, сталенне, прызнанне,*
*трыванне,*
*зачараванне, каханне, змаганне,*
*маўчанне.*

*Я вас пакідаю з адзінай умовай:*
*Спыніце эксперыменты над мовай!*

*З усмешкай кажу падчас развітання,*
*Найбольш мяккі знак патрабуе —*
*Каханьне.*

*Няма без яго чысціні і пяшчоты.*
*Астатняе ўсё адкладаю... на потым.*

## 13. Ліст з-пад шыбеніцы да нарачонай

*Тут балючымі словамі назаўсёды*
*пазначана:*
*З любові і кахання нараджаецца нацыя.*

*Усё ў яго жыцці — пяшчотнае і суровае,*
*Хоць кароткае, але сапраўднае,*
*без падману.*
*Беларусь мужыцкая, Марыся*
*чарнабровая —*
*У Кастуся Каліноўскага было дзве*
*каханых.*

*Над вёскамі, гарадамі, палямі і пожнямі*
*Ліст ляціць, каб Айчыне малітву святую*
*выдаць,*
*Каб да канца зразумелым і блізкім стаў*
*кожнаму*
*Пад пятлёю душы змагара той апошні*
*выдых:*

*«Марыська чарнабрэва, галубка мая,*
*Гдзе ж ся падзела шчасьце і ясна*
*доля твая?*
*Усё прайшло, — прайшло, як бы не бывала,*
*Адна страшэнна горыч у грудзях застала.*

*Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці*
*Ды ў прадвечнага саду вялеў прападаці,*
*То мы прападзем марна, но праўды*
*ня кінем,*
*Хутчэй Неба і шчасце, як праўду, абмінем.*

*Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,*
*Но прыймі цяжкую кару Прадвечнага*
*волю,*
*А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,*
*То я з таго сьвету табе адазвуся.*

*Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе.*
*І часам спамяні пра Яську твайго,*
*Што згінуў за праўду для дабра твайго.*

*А калі слова пяройдзе у дзела,*
*Тагды за праўду станавіся сьмела,*
*Бо адно з праўдай у грамадзе згодна*
*Дажджэш, Народзе, старасьці свабодна».*

*Пасля гэткіх слоў як можна*
*душой не скранацца нам?*
*З любові і кахання нарадзілася нацыя.*

## 14. Ніколі!

*Даўно маўчыць народная сям'я...*
*Чаму ты не выходзіш? Выйду я!*

* * *

*З народзінамі і вяселлямі*
*Гісторыя тэчэцца паволі.*
*Усё ў небыццё пераселіцца,*
*А воля народа — ніколі!*

*Хай чухае здраднік патыліцу,*
*Насыпле на пяты нам солі...*
*Усё праз гады долу хіліцца,*
*А сцяг, што лунае, — ніколі!*

*Жывем зноўку святамі, буднямі,*
*Дзе сплаў весялосці і болю.*
*Хоць многае хутка забудзецца,*
*А дух наш паўстанцкі — ніколі!*

* * *

*Заварушылася народная сям'я...*
*Чаму ты не выходзіш? Выйду я!*

## 15. Пароль

*Не спыніцца час сяўбы, малацьбы,*
*За праўду бой — вечны,*
*І так — год за годам...*
*Ды кім бы ў жыцці, беларус, ты ні быў,*
*Самім сабой заставайся заўсёды.*

*Наш вечны пароль у любую пару*
*Пакліча душу стаць жывой і нядрэмнай:*
*— Каго любіш?*
*— Люблю Беларусь!*
*— То ўзаемна!*

**30 красавіка — 20 траўня 2020 года**

# Баявік



Алесь БЫЧКОЎСКІ

**Гэтага скурчанага чалавека Сяргей убачыў у Доме састарэлых. Чалавек ледзь дыхаў, выклікаў адно жаласлівыя пачуцці і казаў усім, што яго завуць Валодзька, і пры гэтым разгублена лыпаў вачыма, у якіх, здавалася, назаўсёды пасяліліся няўпэўненасць, сполах, нават жах, замірэнне, асуджанасць і фаталізм.**

Валодзька днямі сядзеў на канапе, ледзь варушыў языком, было бачна, што яму, з'інваліджанаму, маўленне цяжка даецца. Дый бадай не толькі маўленне: праблема назіралася і з хуткасцю мысленчых працэсаў.

Валодзька ніколі не развітваўся са старым капелюшом і зацёганым пінжаком.

Евангельская царква, што апякала Дом састарэлых, прывозіла шмат аддзення з гуманітарнай дапамогі. Даставалася і Валодзьку. Аднак адмаўляцца ад пінжака з капелюшом ён не хацеў. Ну і хай, ніхто і не адбіраў. Праўда, уразіла Сяргея іншая акалічнасць: Валодзьку было далёка да старасці. Ён відавочна маладзейшы за асноўны кантынгент пакінутых дзецьмі альбо наогул бяздзетных нямог, дзядуль і бабуль, а ўжо — тут. Валодзька перасоўваўся ў прасторы з дапамогай драўляных мыліц, якія ў тых мясцінах часам мянуюцца «кавёламі». Рухаўся толькі ў выпадках крайняй неабходнасці: у прыбіральню ці калі няўмольна свярбела пакурыць. Тады ён з крэхтам падымаўся і ценню-зданню сунуўся, шоркаючы ступакамі ў тэпцях, стукаючы кавёламі па паркету доўгага калідора да дальняга вакна, каля прыбіральні, дзе ўзімку дазвалялася выпаліць адну-дзве цыгарэты за дзень. Наогул паліць было забаронена правіламі, але персанал рабіў пабяжкі, бо ўсе добра разумелі, прасякнутыя спагадай, што іншых забаў і радасцяў у Валодзькавым існаванні больш не існуе і не прадбачыцца. Канешне, для праформы папярэджвалі, што паліць шкодна. Словы «для здароўя» тактычна прапускаліся ў дадзеным выразе, бо здароўе і Валодзька неяк не спалучаліся разам.

І Сяргей зацікавіўся, што гэты чалавек тут робіць ды як апынуўся сярод старых.

Дом састарэлых месціўся кіламетраў за дваццаць ад райцэнтра, амаль на мяжы з суседнім раёнам, у сціплай вёсачцы, з шэрагу тых, якія мянуюцца перспектыўнымі ўсё часцей на паперы. Двухпавярховы будынак з белай цэглы, узведзены яшчэ за даўнім савецкім часам, адзінока застыў на акраі вёскі, атачаўся высокімі елкамі і сасёнкамі падступіўшага ўсутыч леса, а ўлетку, як гэта звыкла кажуць, патанаў у зяленіве. І не было асабліва каму гэты лес прарэдзіць, каб не замінаў сонцу свяціць у вокны. Але і не скардзіўся ніхто — хваёвыя пахі прыемна напаўнялі пакоі. Асабліва гэта патрабавалася там, дзе дабывалі век ляжачыя старыя.

Валодзьку забралі сюды глыбокай восенню. У горадзе скалечаны чалавек жыў адзін у прыватным сектары ў старой драўлянай хаце і не мог нарыхтаваць на зіму дроў. У сацыяльныя службы своечасова не звярнуўся, і калі ў верасні набраў нумар «гарачай лініі», пытанне адразу ж узялі на кантроль. Везці інваліду гатовыя дровы выглядала бессэнсоўным, бо хата знаходзілася ў аварыйным стане і патрабавала сур'ёзнага рамонту. Таму і прызначылі Валодзьку ў Дом састарэлых на адну зіму «ў парадку выключэння».

У Дом састарэлых Сяргей прыехаў разам з баптыстамі, з якімі сябраваў. Угаварылі наведацца разам, падтрымаць, аказаць дапамогу духоўную і матэрыяльную хворым і самотным людзям. У першы ж візіт ад убачанага Сяргей так расчуліўся, што пасля накупляў цэлую торбу печыва з цукеркамі ды шакаладнымі батончыкамі і даставіў другім разам, раздаў тутэйшым насельнікам і адчуваў шчымлівае шчасце, назіраючы, як удзячныя старыя ўзрадаваліся салодкім пачастункам. Як дзеці!

Пра Валодзьку ж у гэтым перадапошнім прытулку расказвалі так: да інваліднасці любіў выпіць і з кім-небудзь пасварыцца. Дый Валодзька і сам не ўтойваў падрабязнасці, калі тлумачыў прычыны калецтва. Нарваўся аднойчы на гэтакіх жа аматараў выпіць і пасварыцца. Добра, што выжыў яшчэ. Валодзька вохкаў на канапе і шморгаў носам...

І на Сяргея раптам без дай прычыны наплылі дужа даўнія ўспаміны, яшчэ са школы. Жыў у іхнім двары задзірысты хлопец, якога ўсе звалі Воўчык-баявік і які вучыўся ў той жа школе, што і Сяргей, толькі вышэй на два класы. Воўчык быў здаравіла, дужым, як конь, і меў занадта падазроны, дурны і задзірысты характар. Нікому не даваў праходу. У меншых ды маладзейшых за сябе вымагаў дробязь, цыгарэты і жуйкі, з аднагодкамі вёў сябе пагардліва, са старэйшымі неўтаймавана-нахабна. У школе настаўнікі цягнулі за вушы з класа ў клас, каб незнарок на другі год не пакінуць. Спадзявацца хутчэй выпхнуць пасля дзявятага класа ды збавіцца ад падобнага вучня таксама не выпадала: сітуацыя ўскладнялася тым, што бацька Воўчыка быў начальнікам міліцыі. Ого ж! Тут асабліва не паспрачацца. Сяброўства Воўчык вадзіў з гэтакімі ж цяжкімі на характар баўбэлкамі.

У другой палове васьмідзясятых на хвалі перабудовы аднавілася мода на ўсходнія адзінаборствы, і тут на тую бяду ў тэлепраграме «Вакол свету» пачалі кароткімі ўрыўкамі раз на тыдзень паказваць мастацкую стужку пра кітайскіх паслядоўнікаў Бадхідхармы. Вось тут ужо дурня было не суняць, круціў нагамі, махаў рукамі, выдаваў горлавыя гукі, не раўнуючы як адэпт японскага клана Адзуну. У сённяшні век школьныя псіхолагі, сацыяльныя педагогі, напісалі б: хлопчык з сіндромам дэфіцыту ўвагі. А тады не, завялі Воўчыка-баевіка ў адпаведную секцыю, дзе юнакі нагамі месяць баксёрскую грушу, адціскаюцца ад падлогі на пальцах і бегаюць крос. Наведаўся Воўчык на дзясятак заняткаў дый вырашыў: годзе ўсходніх навук, пара завязваць, і так ведае ўсё, што можна. Набрыняў проста неўтамаваны пыхай. І не прамінаў ніводнага моманту, каб не прадэманстраваць у школе ці ў дварах свае спрыт і майстэрства біцца нагамі. І ніхто не даваў рады, бацька ж начальнік самі ведаеце дзе.




**Людзям на схіле жыцця важна даць адчуванне падтрымкі, натхненне. Але натхненне ў чым? Вельмі многія з гэтых старых праклiналі лёс і скардзіліся, як ні дзіўна, на Бога**

Аднойчы, ужо пасля выпускнога, Сяргей шпацыраваў з аднакласніцай Томкай, праводзіў дадому. Канец ліпеня, вечаровыя прыцемкі, размовы, хто куды збіраецца паступаць. Томка лагодна пасміхалася, «рабіла вочкі», затым узяла Сяргея пад руку. І было надзвычай прыемна ад апанаваўшых пачуццяў.

У нейкі момант Сяргей вырашыў закурыць, дарослы ж ужо, можна. Дастаў цыгарэту з пачка «Мальбара», іх на той момант ужо прадавалі ў шапіках, уставіў у зубы, палез па запальнічку ў кішэню. І тут раптам зніадкуль матэрыялізаваўся Воўчык, нібыта нячыстая сіла прынесла. Сяргей і не паспеў нават як след напужацца, як Воўчык махам нагі спрытна выбіў цыгарэту з зубоў Сяргея. Варта зазначыць, здзейсніў тое па-майстэрску, нават не дакрануўся абуткам да твару, толькі мысок кеда ліха са свістам праляцеў перад самай насапыркай. Сяргей знямеў і разгублена залыпаў вачыма. Воўчык нахабна загыгыкаў і прамовіў: «Мінздраў папярэджвае: паленне шкодзіць здароўю». І ўсім выглядам дэманстраваў: глядзіце, які я здольны.

Да слова, Воўчык з дзяцінства адчуваў асалоду, прыніжаючы іншых, слабейшых за сябе. Усе тое ведалі. Вось і цяпер дваровы асілак меў яўны намер пакуражыцца, паздзекавацца з выбранай ахвяры. Ад яго патыхала потам, мачой і яблычным чарнілам. Але тут Томка выйшла наперад і сказала прама ў нахабны твар: «Дэбіл ты, Воўчык». Нападніка нібыта аблілі вадой, ён неяк адразу зніякавеў. Мо ўсё ж трохі паразумнеў ды нешта ўсвядоміў? Аднак вечар быў безнадзейна сапсаваным. Томка папрасіла Сяргея далей не праводзіць і растварылася ў сутонні. Сяргея ж апанавалі крыўда, горыч, поўная бездапаможнасць; ён яшчэ доўга стаяў, глядзеў услед аднакласніцы.

Пасля на Воўчыка ўсе неяк забыліся. Па-першае, «баевіка» нарэшце забралі ў армію, бацька не змог адмазаць, бо страціў пасаду. Па-другое, усе раз'ехаліся потым, хто куды. І згаданы эпізод выпетрыўся з памяці, зацерся і ніколі не выплываў.

...Убачыўшы жменю цукерак, якія Сяргей высыпаў у падстаўленыя далоні, Валодзька расчуліўся, скрывіўся, ледзь не заплакаў. Сяргей адвярнуўся, каб не бачыць тых слёз. Інвалід пахліпаў, акуратна пераклаў цукеркі ў кішэню зацухмоленага пінжака, затым падняўся, абапіраючыся на кавёлы, і папрасіў Сяргея пастаяць разам з ім каля вакна. Была ўжо вясна, сярэдзіна красавіка, і знаходзіцца Валодзьку ў прытулку для састарэлых заставаліся лічаныя дні, пра што ён не прамінуў уголас абвясціць. Інваліднасць была ўжо бадай пажыццёвай. У той дзень, калі Валодзька ўчыніў п'яную бойку, дэманструючы задзірыстасць і непрымірымасць, яму добра натаўклі ў карак, адбілі вантробы, пераламалі абухом ногі, выклікалі сатрасенне мозга і шматколькаснае ўнутрананае кровазліццё. Амаль месяц правёў у рэанімацыі, пасля палову года праваляўся ў хірургіі, затым год яшчэ рэабілітоўваўся. Урачы ціха дзівіліся ды рукамі разводзілі — пасля падобнай мясарубкі ды з набытай нізкай дягназаў людзі, як правіла, жывуць не доўга. Але Валодзька выжыў, ачуняў, акрыяў. Хоць назаўсёды страціў здольнасць нармальна размаўляць і хадзіць.

Каля вакна Валодзька панаракаў на мінулае, пашкадаваў, што нельга час павярнуць назад. Затым выцягнуў пачак папярос, дрогкімі пальцамі ўзяў адну, уставіў у вусны, прыкурыў ад запалкі, зацягнуўся, выпхнуў струмок едкага дыму. Сяргей кашлянуў, бо не паліў ужо даволі даўно. Збоку адчыніліся дзверы, паказалася жанчына, медработнік.

— Што за свавольства зноў? — ці то абурылася жанчына, ці то прытварылася, што абурацца. — Мінздраў папярэджвае, у апошні раз!

Яна павіталася з Сяргеем і, цокаючы абцасамі, шпарка пакрочыла ў процілеглы бок калідора. Нібы маланка выцяла Сяргея. Менавіта ў тое імгненне ў падрабязнасцях і ўсплыў у памяці той забыты эпізод. Падалося, што медработнік — гэта і ёсць тая самая Томка, якую ён праводзіў цёплым ліпеньскім вечарам дваццаць гадоў таму. І абрысы знаёмыя, і голас падобны. Хаця ці можа падобнае здарыцца насамрэч? Ці ёсць месца ў жыцці падобным супадзенням на мяжы цуда? Не, тое наўпрост гульня фантазіі. З Томкай не бачыўся з тае пары. Ніводнага разу за два дзесяцігоддзі. Нават не ведаў, ці жывая.

А Валодзька неяк сціснуўся, спахмурнеў, адвярнуўся. Дакурыў, расціснуў асмалак у бляшанцы з-пад кавы, якая прытаілася ў куце падваконня. Сяргей зірнуў на мабільны тэлефон, колькі там ужо гадзін. Баптысцкія браты, мабыць, ужо правялі свой «экшн», дзеля якога ехалі. Сяргей менаваў падобныя вылазкі евангельскіх вернікаў «экшнамі». Ну ці пасядзелкамі. На іх браты-вернікі распавядалі пра Хрыста Збаўцу і спявалі песні. Старым было ў радасць таксама паспяваць і паслухаць. А хто яшчэ сюды прыедзе, апрача машыны з прадуктамі ды якой планавай праверкі? Каму яшчэ патрэбныя гэтыя людзі? Дзеля справядлівасці варта зазначыць, што прыязджаў яшчэ і бацюшка. Ну і дзякаваць Богу. Людзям на схіле жыцця важна даць адчуванне падтрымкі, натхненне. Але натхненне ў чым? Вельмі многія з гэтых старых праклiналі лёс і скардзіліся, як ні дзіўна, на Бога, што выклікала зразумелую рэакцыю баптыстаў і бацюшкі. Ну, падумайце, хіба гліна можа пытацца ў Ганчара, навошта з ёю так? Так трэба. Усяму адшукаецца тлумачэнне, калі разабрацца...

Сяргей вось так разважаў і адчуваў, як Валодзька пакутуе знутры, быццам збіраецца нешта сказаць і ніяк не набярэцца смеласці.

— Сяржук, ты мяне пазнаў? — нарэшце выціснуў Валодзька.

Доўгае маўчанне, цішыня. Зноўку вельмі ярка намаляваўся ўспамін пра той даўні ліпеньскі вечар. Нібыта невядомая сіла наўмысна выпіхвала са сховішчаў памяці драматычныя кадры. Няўжо Валодзька — гэта той самы Воўчык-баявік? Сяргей уздыхнуў і апусціў на імгненне вочы. І не здолеў вымавіць гуку і даць веры.

— Вось і добра. І добра. І добранька.

І інвалід Валодзька, у якім, хоць страляй, а ні за што на свеце не пазнаць таго былога здаравілу, коратка прамовіў: «Даруй за былое» і, шоркаючы скурчанымі нагамі, стукаючы кавёламі па старым паркеце, пацёгся ад вакна, у глыбіню будынка да звычайнай канапы.

А Сяргей так і прастаяў у застылым здранцвенні, пакуль голас сябра не вывеў яго з летаргічнага стану і паставіў перад фактам, што пара збірацца, яны адпраўляюцца назад у горад.

# «Купалінка» як паслявыбарчы гімн

**Упершыню ў шматгалоссі сёлетніх пратэстных шэрагаў Менска-Мінска мы пачулі яе 13 жніўня.**


Фота www.tut.by

Увечары таго дня некалькі дзясяткаў жанчын сабраліся ля помніка Якубу Коласу і заспявалі не чаканую ў той момант «Пагоню» альбо баявы марш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», і не рэлігійны гімн «Магутны Божа», і не «Муры» з іх надзённым рэфрэнам «Прагнеш свабоды, то бяры», і нават не бясспрэчны адраджэнскі хіт Лявона Вольскага «Тры чарапахі». Палілася ж над пляцам лірычная «Купалінка». Яе журботныя словы і журлівая мелодыя ніяк, здавалася б, не пасавалі мітынговаму настрою, і тым больш узгаданым на мадэрновых рытмах маладым галасам пратэстоўцаў.

Назаўтра, 14 жніўня, «Купалінка» разлеглася па наваколлі магутным рэхам прафесійных выканаўцаў. Ад раніцы яе акапэльна праспявалі артысты Беларускай дзяржаўнай філармоніі, а ўдзень у суправаджэнні аркестра опернага тэатра над Траецкаю горкай залунаў магутны барытон маладой зоркі Іллі Сіўчукова. Ад 19 жніўня амаль месяц апоўдні ля зачыненых дзвярэй Купалаўскага тэатра «Купалінку» разам з усімі ахвотнымі выконваў Спеўны сход Сержука Доўгушава. А з 20 жніўня пад скрыпку Тацяны Грыневіч яе штовечар спяваў шматтысячны хор на пляцы Незалежнасці. Па суботах жа і нядзелях «Купалінка» асвятляла твары сотняў тысячаў удзельнікаў пратэстных маршаў.

Чаму ж менавіта гэтая песня стала паслявыбарчым народным гімнам?

Адказ, мяркую, трэба шукаць там, дзе ёсць і адказ на іншае пытанне: чаму так хутка і рашуча народ узняў забаронены праз цэлае стагоддзе нацыянальны сцяг, правёўшы тым самым народны рэферэндум па сімволіцы. Прага чысціні і сапраўднасці адразу ж знайшла і адпаведны музычны сімвал.

«Купалінку» за савецкім часам называлі фальклорнаю песняй. Але насамрэч музыку яе стварыў Уладзімер Тэраўскі, а народныя словы апрацаваў Міхась Чарот. І кампазітар, і паэт былі забітыя камуністычнай уладай. Імёны іх як «ворагаў народа» згадваць не дазвалялася. Але забараніць іхні твор антынародная ўлада не змагла. Толькі ўклала ў вусны фальклярыстаў, маўляў, гэта песня пра маладую дзяўчыну, якая на Купалле шукае сваё каханне.

Насамрэч «Купалінка» – як і кожны іншы сапраўдны шэдэўр – у сваёй простасці хавае велізарны ўнутраны падтэкст. Давайце ўслухаемся:

*– Купалінка-купалінка,*
*Цёмная ночка...*
*Цёмная ночка, дзе ж твая дочка?*

Зачын песні гучыць ад імя кагосьці невядомага да Купалінкі, якая, як бачым, зусім не дзяўчына, а цёмная ночка. І менавіта ў яе, цёмнае ночкі, хтосьці пытаецца, дзе ж яе дочка.

Далей адказ ночкі:

*– Мая дочка у садочку*
*Ружу, ружу поліць,*
*Ружу, ружу поліць,*
*Белы ручкі коліць.*

Высвятляецца, што дочка не таямнічую Папараць-кветку ў змрочным лесе шукае, а ў садзе ўзгадоўвае ружу. Пры гэтым яна добра разумее, што перш чым наталіцца далікатным хараством і водарам, ёй давядзецца шмат чаго зазнаць. Але дочка рупна ўзгадоўвае кветку мары. Навat вяночкі з яе ўжо звівае. Хоць і ведае, што вянок з ружаў – гэта не толькі прыгожыя кветкі, але й калючыя шыпы. Амаль Хрыстовы цярновы вянок, ад якога дочка ночкі не адмаўляецца і тады, калі ад болю не ў сілах стрываць горкіх слёз:

*Кветачкі рвець, кветачкі рвець,*
*Вяночкі звівае,*
*Вяночкі звівае,*
*Слёзкі пралівае.*

Фінал песні адкрыты. Як і фінал цяперашняй поствыбарчай сітуацыі. Краіна – цёмная ночка. Яе дачка, дакладней, тысячы і тысячы дачок, якія прагнуць выйсці з ночы да святла, ужо ўзгадавалі кветкі, сплялі вянкі, але з-пад іх па прыгожых світальных абліччах цячэ кроў. Што будзе далей? Пытанне без адказу.

*– Купалінка-купалінка,*
*Цёмная ночка...*
*Цёмная ночка, дзе ж твая дочка?*

Бясконца насіць крывавыя вянкі нават самыя цярплівыя знясільваюць. Апошні раз прыціснутыя чорнымі амбаламі да нейкае глухое сцяны жанчыны спявалі «Купалінку» 19 верасня. З таго азвярэла «хапунскага» вечара і на пляцы Незалежнасці яна тысячагалосым хорам больш не гучыць. На штотыднёвых маршах у гнаных бяствырымі бандытамі пратэстоўцаў што раз паскараецца крок. І не стае ўжо дыхання, каб подбегам зацягнуць на ўсю моц улюбёную песню.

Раздроблены амапаўскімі дубінкамі на лакальныя вакальныя групы шматтысячны хор то тут, то там рэхам адгукаецца ў вечаровых восеньскіх дварах. Туды на падмогу завітваюць барды і рокеры. Пад іх рытмы лёгка таньчыць, саграваючы сподзеў на вясновае светлае ранне.

А каларатурнае сапрана галасоў выбітных дочак цёмнае беларускае ночы цяпер напоўніцу гучыць у высокіх залах міжнародных дэмакратычных інстытуцыяў. Іх чуюць. Імі захапляюцца. Іх натхняюць. І мы верым, што неўзабаве знойдзем адказ на галоўнае пытанне беларускага народнага гімна.

**Валянціна Аксак**

# Плошча сцягакрылая

### Ад Мар'яна, назіральніка на П...ім выбарчым участку 9 жніўня 2020 года

*Бачу фон: грамаду рабую.*
*І во тых, хто ахалуелі,*
*Хто засеў на маральнай мелі*
*І народны выбар рабуе.*
*Да дзвярэй сумленнем штурхае*
*І вачыма мне ў плечы ззяе;*
*Адчуваю апёк на целе.*
*Ай, як жарсна ахалуелі!*

### Разыходжанне ў працэнтах

*Ноч. На сметніцы: «Тры працэнты —*
*Сашу!» — высвеціўся радок.*
*Ты не спаў, падсвільскі браток?*
*Сашу ж — «восемдзесят працэнтаў».*
*...І Мар'ян ідзе ў сельсавет —*
*Пашукаць той выбарчы след,*
*Дык жа — во якая пацеха:*
*Галасоў згубілася й рэха.*

### Досвед з вакна тэлебачання

*Сілы вобразу не знаходжу.*
*Сілай творчай — бы не валодаю.*
*Аднасельцы казеляць вочы,*
*Нібы розум іх пад калодаю,*
*Бо спяшаюцца агарошыць:*
*«Гэта не АМАП, не міліцыя —*
*Апазіцыя! Апазіцыя!*
*Чулі? Купленая за грошы!*
*Лукашэнка трымаецца!»*
*У суседкі словы, як вошы,*
*Распаўзаюцца, распаўзаюцца.*
*І мая адгадка не страчана:*
*Досвед той — з вакна тэлебачання.*

### Плошча адчула крок

*Зло і дабро — ёсць двое,*
*Супрацьстаяльных строем*
*На паралелі строгай.*
*Дабро кіруецца Богам.*
*Дабро не кідае камень,*
*Дабро стралу не пускае,*
*Дубінкаю не махае,*
*Словам гучыць — не рукамі.*
*Дабром кіруецца зрок,*
*І плошча адчула крок...*
*А чым кіруецца зло?*
*Ягоная дзея — злом.*
*Ягоная дзея — зман,*
*Хлусня, у вочы туман.*
*Сцвярджаецца перамога*
*Крывёй — уладнай дарогай.*

### А ў тваім двары...

*А вось Чэсеў стрыечны брат*
*Скіраваў пачуцці ці ўлад?*
*Усміхаецца спанталычана.*
*І настрой ягоны казычу я*
*(Пакарміць ката́ стаўлю міску):*
*«Кажаш: «Неціхоты у Мінску»?*
*Сын жа твой... працуе ў міліцыі?*
*А ў тваім двары — апазіцыя...».*

### Чый дух?

*Аўтазакі. Выгляд невясёлы*
*Каля сцен Чырвонага касцёла.*
*Турнікеты страху ля касцёла,*
*Маскарад ахоўвы навакола.*
*Чый жа ён ахоўвае тут дух —*
*Прыхажанаў стрымлівае рух?*
*І світанак сніць якую бітву,*
*Як бабулі крочаць на малітву?*

### Эдвардзе, падкажы...

*Эдвардзе, які малітву ўзнёс*
*Разам з храмам, для святой любові,*
*І тым самым Госпаду прамовіў*
*Пра непарушальны веры лёс —*
*Падпарадкавальны толькі Богу —*
*Ты адтуль нам падкажы дарогу:*
*Як прасіць у Бога абароны —*
*Збавіцца ад вірусная кароны.*

### Два словы з плошчы — закон

*За тых трывожна, хто целам —*
*Перад сцяной звар'яцелай.*
*Мо і за іншых, каму бязрозна,*
*Калі ім каяцца — рана ці позна —*
*Тут, на айчынна-цвёрдай зямлі,*
*Дзе некалі ўсмешкі зніклых жылі...*
*Дык потым зніклых тых не шукалі.*
*Пытанні горкія выраслі.*
*Дубінкі, раптам, як засвісталі —*
*Дык на пытанні і адказалі?*
*Не марна вуліцы, плошчы ў хвалях.*
*Не марна плошча тут — адно цела,*
*Чырвоным болем на плыні белай.*
*На плошчу горад плыве, плыве,*
*Шматмоўны горад кажа: «Жыве!..».*
*У спела-восеньскую пару*
*Жыве саспелая Беларусь.*
*Не пустазельная — ураджайная,*
*Да праўды голасам узвышальная.*
*Два словы горада — ёсць закон!*
*З шырокіх вуліц, з вакон, з вакон...*
*З крыві на асфальце, на траве,*
*Звон раздаецца: «Жыве! Жыве!».*
*Шматмоўны горад гучыць: «Жыве!..» —*
*Такі во духу яго павеў:*
*Адзіны сцяг і адзіны рух,*
*Адзіным сказам з'яднаны дух*
*(Праз іншы дух пра любоў не хлусь!).*
*Зноў плошча кажа: «Жыве Беларусь!»*

### Плошча сцягакрылая

*Плошча захапленне выклікае.*
*Бачу, сцягакрылая якая!*
*Плошча сёння людна-маладая;*
*Вуліца-рака ў яе ўпадае.*
*Плошча аднадушная суцэльна —*
*Супярэчыць ніве пустазельнай —*
*Узаемна стрункі кожны колас.*
*Плошча ўвасобілася ў голас.*
*Плошча сцягакрылая гамоніць.*
*Ёй не страшны вірус у кароне.*
*У пагоню, голас! У пагоню!*
*Аб'яві: «Хлусня сканала сёння» —*
*Б'ецца ў чарнавірусным бяссіллі —*
*Чарнамаскі горад скалясілі.*
*Часам люта збраяй адмахалі...*
*Дык жа плошча пашырэла ў хвалях.*
*Аж «браты-славяне» не чакалі*
*Гэтакай «сваяцкай» вольнай хвалі.*
*Ззяе, несупынна наплывае.*
*Яркая ў двух колерах, жывая!*
*Хоча быць яна сама сабою.*
*І зусім не з кім не прагне бою.*

### Пачуў... убачыў...

*Святло ты нёс, а бліжні быў няўдзячным?*
*Даруй яму — варожасці не май,*
*Бо ён ад нецярплівасці бядачай*
*Паверыў абяцанню: «Хуткі рай».*
*Не меркаваў, хоць кажуць: «Памяркоўны».*
*Ён пажыццёва створаны — чакаць*
*І ад зары і да зары маркоўнай*
*Сцяжынкі іншай руху не шукаць —*
*Глядзець пад ногі... як пакажа след.*
*І тут пачуў ён слова: «Дармаед!» —*
*І адарваў ад сцежкі вузкай вочы...*
*І апынуўся бліжні твой на плошчы:*
*Ля аўтазакаў, ворагаў у форме?..*
*Убачыў тых, хто б'е, каго ён корміць...*

### Памнажай!

*Год высакосны для кагосьці костны.*
*Аж касталомны... пад матыў: «Сыходзь!».*
*І бель-чырвона-беллю ззялі кросны*
*Духоўныя, аж адчувала плоць.*

*Улетку проста здаўся нейкі гудзень.*
*Яшчэ і жнівень сном не каласіў.*
*Зародак мары ўзнік; дык потым людзі*
*У Бога сталі мудрасці прасіць.*

*І во ўжо жыта тое час малоціць.*
*Зярністы атрымалі мы ўраджай...*
*Не дапусці гнаіць яго ў балоце,*
*Дух плошчы! Шматгалоссе памнажай!*

**Марыя Баравік**

# «Дзень мінулы, дзень наступны»

## Развагі пра аповесць Лідзіі Арабей

**Дасюль вядуцца спрэчкі, ці можна (і ці варта) разглядаць тэксты, напісаныя жанчынамі, у якасці самастойнай галіны літаратуры. Тэрмін «гендар» быў у свой час уведзены ва ўжытак для асэнсавання сацыякультурных канструктаў «мужчынскага» і «жаночага» (насамрэч незалежных ад полавай прыналежнасці).**

Варта заўважыць, што вылучэнне «жаночай прозы» падразумявае не падзел літаратуры на «мужчынскую» і «жаночую» — а, хутчэй, пашырэнне тэматычнай і стылістычнай разнастайнасці белетрыстыкі за кошт творчых індывідуальнасцяў жанчын.

На сёння многімі даследчыкамі «жаночая проза» прызнаецца як асобны літаратурны феномен. Такія творы яднае некалькі фактараў: аўтар-жанчына, жаночы персанаж і адпаведная праблематыка: яскравы акцэнт на жаночым лёсе, погляд на рэчаіснасць з пункту гледжання жанчыны.

Аповесць Лідзіі Арабей адпавядае ўсім гэтым фактарам. Галоўная гераіня аповесці, сціплая супрацоўніца рэдакцыі Таня, — чалавек з няпростым лёсам. Аўтар падымае актуальную і на сёння тэму маці-адзіночкі, спецыфікі выхавання дзіцяці ў няпоўнай сям'і. Будні Тані дзень па дні (адсюль і назва аповесці) разгортваюцца перад чытачом. Мы бачым і яе працу, і паходы па магазінах, дамашнія клопаты, увогуле ўвесь небагаты побыт (з зарплатаю «трохі болей за сто рублёў). А таксама — успаміны пра каханне да жанатага мужчыны, бацькі Танінага сына, Сяргея Кірылавіча.

Твор адкрывае трагедыя Танінай сям'і: маленькі Сашка разам з прыяцелем улез на склад кінастудыі. Разам з сябрам «яны збілі замок, залезлі ў склад і набралі ракет, дымавых шашак». Таня ў роспачы нават падумвае пакараць сына фізічна (чаго раней ніколі не рабіла: «у хаце няма рэменя, няма мужчыны, і няма рэменя...»). Для яе страшная не пагалоска пра прывод сына ў міліцыю, не штраф у сто рублёў, непамерны пры яе небагатых заробках «падручнага ў літаратараў», але адчуванне, што нечага не змагла ўкласці ў сэрца дзіцяці.

— Я сёння наогул як вар'ятка, што як вырасце злодзеем, трапіць утурму, мне тады застанецца адно — рукі на сябе налажыць...— прызнаецца гераіня сяброўцы Любе.

Для Тані яе магчымая няўдача як маці — не проста нядольнасць выканаць «жаночую» функцыю, умоўнае «прызначэнне» жанчыны. Для гераіні гэта хутчэй азначае яе непрыдатнасць у якасці чальца сям'і, яе няздатнасць несці адказнасць за маленькага чалавека, за свой колішні выбар не проста прывесці дзіця ў свет, не проста карміць ды апранаць яго, але і выхаваць чалавекам, нават без якога-кольвек удзелу біялагічнага бацькі.

Апошняга Таня разглядае як ідэал калі не чалавека, то мужчыны: «у цвёрдых вуснах, у разумным позірку адчувалася сапраўды мужчынскае, дужае і прывабнае». Цвёрдасць учынкаў ёй хацелася б бачыць і ў сыне, але, як прызнаецца гераіня сама сабе падчас роспачных разваг, «Саша бязлітасна падобны на яе — такі самы мяккацелы кісель».

Мяккасць характару, якая стэрэатыпна лічыцца жаночай рысай, сапраўды ўласціва Тані. Яна не схільная адстойваць свае пазіцыі ані на працы, ані ў жыцці. Нават тады, калі ёй самой хацелася б выказаць цвёрда і рашуча (як у эпізодзе з Сашкам, якога яна забрала з міліцыі), Таня не здатная гэта зрабіць, марна спрабуе ўздзейнічаць словамі, ідзе за ўласнымі эмоцыямі: яна «не ведала, што гаварыць і ці трэба гаварыць».

Эмацыйнасць, уразлівасць гераіні — амаль дзіцячыя. Скажам, галоўнага рэдактара, свайго непасрэднага начальніка, яна бачыць прыблізна так жа, як вучань малодшых класаў — суровага настаўніка, спрабуе «знайсці дарогу да яго сэрца». Субардынацыя ўвогуле прыгнятае яе, заўвагі па матэрыялах, хай і слушныя, падаюцца ёй недастаткова карэктнымі: «Але мог бы сказаць мякчэй... Не так сурова і холадна...». Інфантылізм, уласцівы гераіні, мяккасць характару, няздатнасць акрэсліць свае асабістыя межы прыводзяць да замінак у кар'еры. Напрыклад, яна не можа скласці просьбу наконт тэлефона ў кватэры або прапанаваць сваю кандыдатуру для павышэння, нягледзячы на прафесійны вопыт і стаж працы ў рэдакцыі. Старанна заціснутыя эмоцыі, вырываючыся вонкі, кіруюць жыццём гераіні, нягледзячы на яе спробы рацыяналізаваць свой побыт, нягледзячы на негатыўны папярэдні вопыт: «Яна, як заказаецца, то траціць галаву, для яе каханне — як хвароба».

Стасункі з жанатым чалавекам яна адразу, з першай жа прапановы ад Сяргея Кірылавіча сустрэцца, акрэслівае як «беспэрспектыўныя». І ўсё адно пагаджаецца — можа быць, якраз праз інфантылізм і нядольнасць адмаўляць, можа быць, праз нізкую самаацэнку. А можа, і праз упэўненасць, што яе «нарачоны ляжыць пад Курскам, Сталінградам». Драбочкі шчасця, якія Таня атрымлівае ад стасункаў з Сяргеем, даюць ёй сілы жыць далей. Але, у той жа час, гэтае «незаконнае» шчасце (асабліва пасля гібелі малодшага сына Сяргея Кірылавіча) дадае болей цяжару да комплексу віны, які фармуе галоўная гераіня. Яна сапраўды ўвесь час пачуваецца вінаватай — найперш праз неадпаведнасць прынятым у грамадстве нормам (стасункі з жанатым мужчынам, пазашлюбнае дзіця). Ёй «не стае сілы на барацьбу», хаця ўнутры, асабліва пасля судакранання з несправядлівасцю, з крыўдай ажываюць горкія развагі:

– Чаму мы такія добранькія?.. Чаму не можам сказаць у вочы нягодніку, што ён нягоднік, чаму, ведаючы, што ён нягоднік, падаем яму руку?

Комплекс віны жыве ў Тані «па інерцыі» — як «па інерцыі» жыве ў ёй і спадзяванне на лепшае, на заўтрашні дзень, што будзе лепшы ад няўтульнага сённяшняга. Характарыстычным тут з'яўляецца эпізод, калі гераіня, спяшаючыся ў час вярнуцца на працу, спрабуе дагнаць аўтобус: «Бачыла, што не паспявае, што аўтобус высадзіў пасажыраў, забраў новых, ужо і дзверы зачыніў, але яна ўсё бегла, хутчэй па інерцыі, бо спадзявацца не было на што. Мусіць, шафёр убачыў і ацаніў яе настойлівасць, бо міргаў паваротам, але не зрушваў з месца, а калі Таня дабегла, адчыніў ёй пярэднія дзверцы». Аўтар як бы падказвае: спадзяванні гераіні ўсё-такі могуць спраўдзіцца, што ў яе хопіць сілы на многае, нягледзячы ні на што.

Галоўнае — верыць. І з вераю ісці з дня мінулага ў дзень наступны.

«...ёсць людзі, якія ў маладосці засвоілі нейкія думкі, формулы і не перараслі іх, ці што, нясуць іх праз усё жыццё... Не таму, што яны засталіся верныя тым думкам, формулам, а таму, што не перараслі, інакш ужо думаць не ўмеюць...».

**Маргарыта Латышкевіч, nlb.by**

# Івянецкі перазвон

Я ўпершыню даведаўся пра загадчыка кафедры, прафесара БДУ Эдуарда Іосіфавіча Збароўскага ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета. Ён удзельнічаў у абмеркаванні законапраектаў, прысвечаных медыцынскай, сацыяльнай і прафесійнай рэабілітацыі хворых і інвалідаў. Пазней пазнаёміліся. Стаў цікавіцца яго навукова-публіцыстычнай творчасцю ў галіне медыка-сацыяльнай абароны жыцця чалавека (сацыяльная віталогія). У маёй бібліятэцы адметнае месца займаюць яго кнігі «Пошуку ісціны жыццё прысвяці», «Гаючая памяць продкаў», «Да ісціны і веры», «Чалавекам быць», «Этыка здароўя», «Чарнобыльскія пантэоны: сны і явы» і інш.

Значны спіс. Кнігі вартыя ўвагі, ці не так?

Ды за пяро я ўзяўся па той прычыне, што спіс гэты толькі што папоўніўся і папоўніўся незвычайным, нечаканым чынам: навуковец, універсітэцкі выкладчык выдаў кнігу вершаў. Так, менавіта кнігу вершаваных твораў. Пад адмысловай назвай: «Івянецкі перазвон: гаючай памяці канон».

Кнігу Эдуард Збароўскі прысвячае сваёй малой радзіме — Івянцу і Івянеччыне. На першым плане — гісторыка-філасофская, надзвычай дакументаваная паэма «Гаючая памяць мінуўшчыны».

*Вось цудоўная вандроўка.*
*Ракаў, вёскі, Івянец...*
*Там кераміка, «Кароўка»,*
*А гісторыя — вянец.*
*Чатырнаццатым стагоддзем*
*Ён пазначаны, ён быў*
*Кірмашамі ў народзе,*
*І рамёствамі ён слыў.*
*Тры стагоддзі францыскане*
*Дабрачыннасць вучаць дбаць —*
*Касцёл велічны ў пашане,*
*Вучыць Бога шанаваць.*
*Водгук трох вузлоў шырокі,*
*Сем стагоддзяў зноў і зноў:*
*Шчасце — не багацце, скокі, —*
*Францысканская любоў.*
*Царква велічна ўзнялася*
*Тут, на плошчы, у наш час —*
*Шлюб вянчаць — яна знайшлася,*
*Каб агонь жыцця не гас.*

Раздзелы паэмы маюць выразныя, асабліва падзагалоўкі тыпу: «Кліча Бог людзей да згоды», «Пераплецены эпохі, тэм нямала для разваг», «Дабрыня ў людзей на твары, бачна годнасць, гонар ёсць» і г.д.

Заснача яшчэ, што ў жанравых адносінах паэма мае месцамі адметны нон-фікшн.

Тэматычна і стылёва пераклікаюцца з паэмай вершы зборніка «Івянецкі перазвон...», у прыватнасці, такія, як «Малая Радзіма», «Івянецкія вяселлі», «Сямейны музей», «Хто ты без роду?», «Нацыянальная ідэя»...

*Чалавек, сям'я, Айчына...*
*Толькі ў гэткай звязцы*
*Квітнець можа ўся краіна —*
*У жыцці, не ў казцы.*

*Тут залог агульнай справы —*
*На ідэі дбайнай,*
*Вартай гонару дзяржавы —*
*Быць нацыянальнай.*
*Пры асобе, дзе ў пашане*
*Сямейная згода,*
*Зможам быць апорай у стане*
*Роднага народа.*

З цікаўнасцю, з вострым адчуваннем аўтарскага пранікнення ў тэму чытаем верш «Івянецкія вяселлі».

*Ды мой аповед пра турботы,*
*Што пачынаюцца з суботы*
*І прадаўжаюцца ў нядзелі —*
*Пра Івянецкія вяселлі.*
*Вяселле тут — сапраўдны фэст*
*Для жаніхоў і для нявест.*
*Увесь гамоніць Івянец,*
*Калі ідзе хто пад вянец...*

Як атрымалася так, што Эдуард Збароўскі выбраў на гэты раз вершаваную форму? Ён сам лаканічна каментуе: «Вершы дазваляюць найбольш кароткім шляхам прыйсці да ўсведамлення вечнай ісціны, што галоўны сэнс жыцця кожнага чалавека — у вышэйшым духоўна-маральным росквіце сваёй асобы. Кожны чалавек — непаўторная кветка прыроды. І ад кожнага асабіста залежыць, каб гэтая кветка не сохла і не марнела, а квітнела велічным харастовам. Галоўнае — знайсці сярод патрэбнага сваю справу, што найбольш адпавядае тваім псіха-фізіялагічным здольнасцям. Гэтая акалічнасць дазваляе кожнаму мець шанц — стаць паэтам у сваёй справе».

Так навуковец і выкладчык-прафесар вытлумачвае, чаму ў дадзеным выпадку ён піша, творыць на вершаванай мове. І вытлумачвае, давайце пагодзімся, даволі пераканаўча. Ну ды рэальнае сведчанне наявы — кніга «Івянецкі перазвон: гаючай памяці канон».

**Анатоль Вярцінскі**

# «Сподачак для цмока» – дзецям




Што рабіць, калі пад тваім ложкам жыве пачвара? Баяцца яе? Ці самому напалохаць? А можа, патэлефанаваць у Службу Змагання з Кузуркамі? Юзік па мянушцы Гузік паспрабаваў усё, пакуль не вырашыўся на перамовы. Ён пакінуў каля ложка сподачак з малаком, і гэта стала пачаткам дзіўнага сяброўства.

Захапляльная гісторыя пра тое, як скарыць свой страх, распаведзеная пісьменніцай Надзеяй Ясмінскай (аўтаркай хітовай «Чаму Меша не мае хаты») і цудоўна праілюстраваная мастачкай Святланай Міхалап.

Кніга «Сподачак для цмока» выйшла ў падсерыі «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў у мінскім «Кнігазборы».

Набыць яе можна ў Мінску:
«Акадэмкніга» (пр-т Незалежнасці, 72)
«Светач» (пр-т Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр-т Незалежнасці, 19),
«Веды» (вул. К.Маркса, 36),
«Мой модны кут» (г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 58, ГЦ «Маскоўска-Венскі» пав.333)

Набыць у Гародні: «Бэбі Бук» (вул. Савецкая, 18, ГД «Нёман», другі паверх),

а таксама праз інтэрнэт: kniganosha.by, knihi.by.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Што робяць у Беларусі вайскоўцы, якія акупавалі Крым і Данбас ды спецпадраздзяленні «Росгвардии»?

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

Касцяком расійскіх «МС» з'яўляецца 15-я асобная мотастралковая брыгада (в/ч 90600) — адзінае злучэнне са статусам Міратворчых сіл у УС РФ і адно з асноўных ва ўдарнай групоўцы войскаў УС РФ, з дапамогай якой здзяйсняецца ваенная агрэсія супраць Украіны. Як мінімум дзве батальённа-тактычныя групы гэтай брыгады знаходзіліся ў авангардзе расійскіх сіл уварвання ва Украіну на пачатковым этапе бягучай расійска-ўкраінскай вайны.

15-я АМСБр была сфарміраваная 1 лютага 2005 года на базе 589-га асобнага мотастралковага палка УС РФ, які ўжо меў досвед удзелу ў так званых «міратворчых» аперацыях на тэрыторыі грузінскай Абхазіі і малдоўскага Прыднястроўя. Пунктам яе сталай дыслакацыі з'яўляецца Рошчынскі вайсковы гарнізон у Волжскім раёне Самарскай вобласці, усяго ў 35 кіламетрах ад Самары.

Асабовы склад брыгады налічвае больш за дзве тысячы вайскоўцаў. У яе склад уваходзяць 3 мотастралковыя і адзін выведавальны батальёны, спецыяльныя падраздзяленні баявога, матэрыяльна-тэхнічнага і тылавога забеспячэння. Укамплектаваная пераважна кантрактнікамі, якія маюць значны досвед у баявой падрыхтоўцы. Цягам апошніх гадоў гэтае злучэнне атрымлівае найноўшыя адзінкі вайсковай тэхнікі і ўзбраення.

### Удзел «міратворчай» брыгады ў ваеннай агрэсіі супраць Украіны

Вайскоўцы 15-й АМСБр напачатку сакавіка 2014 года непасрэдна ўдзельнічалі ў спецаперацыі захопу ўкраінскага Крыму. Пасля падступнага крымскага «бліцкрыгу» падраздзяленні брыгады былі перадыслакаваныя ў памежныя з Украінай раёны Белгародскай і Варонежскай вобласці з прыцэлам на Харкаўскі напрамак.

Увесну 2014 года агентура расійскіх спецслужб, байцы дыверсійна-выведавальных груп і адэпты «русского мира» ў кантэксце гібрыднай вайны рэалізоўвалі праект па стварэнні на тэрыторыі Харкаўскай вобласці так званай «ХНР». Самарскія «міратворцы» чакалі загаду для ўварвання ва Украіну. Аднак у выніку паспяховага правядзення ў красавіку 2014 года ўкраінскімі ўладамі антытэрарыстычнай аперацыі, планы дзяржавы-агрэсара РФ на Харкаўшчыне былі сарваныя. Увесь цяжар ваеннага супрацьстаяння з РФ прыняла на сябе данбаская зямля.

Падчас актыўнай фазы баёў у Данбасе напрыканцы жніўня — пачатку верасня 2014 года тактычныя групы 15-й АМСБр тэрмінова перакінулі ў памежныя з Украінай раёны ўжо Растоўскай вобласці. Адтуль, з базавых лагераў расійскай групоўкі сілаў уварвання, «міратворцы» прыцягваліся для аператыўнага выканання баявых задач на тэрыторыі Украіны.




**Кантрактнік 15-й АМСБр Мікалай Туманаў у сваім акаўнце не толькі выклаў свае фота з медалём за акупацыю Крыма ці фотаздымкі з палявога лагеру ля мяжы з Украінай, але нават фота забітых абаронцаў Украіны з зоны баявых дзеянняў. Фота InformNapalm**

Пасля ўдзелу ў баявых дзеяннях асабовы склад праходзіў ратацыю, замянялася і вайсковая тэхніка. Паводле даных супольнасці InformNapalm, пераўзбраенне брыгады на новыя бронетранспарцёры БТР-82А замест старых БТР-80 адбывалася практычна ў палявых умовах, набліжаных да баявых.

Паказальна, што замена і дастаўка новай вайсковай тэхнікі і ўзбраення здзяйснялася чыгуначным спосабам, а вось ратацыя асабовага складу — вайскова-транспартнымі самалётамі Іл-76МД праз аэрадромы Растова, Мілерава і Таганрога. Такім жа чынам тактычная група самарскіх «міратворцаў» была перакінутая ў кастрычніку 2020 года ў Беларусь.

Станам на сёння супольнасць InformNapalm выявіла і ідэнтыфікавала агулам больш за 30 кадравых вайскоўцаў 15-й АМСБр, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў ваеннай агрэсіі супраць Украіны. Дакументальна пацверджана наданне Мінабароны РФ дванаццаці з іх медалёў за акупацыю Крыма і ўдзел у баявых дзеяннях у Данбасе.

У звычайных штатных умовах вайскоўцы 15-й АМСБр маюць статутны выгляд, на форме можна пабачыць шаўроны «міратворчых сілаў», у некаторых на шаломах маюцца блакітныя пасы з пазначэннем «МС».

Аднак усё змяняецца, калі перад вайскоўцамі брыгады ставяць задачу выканаць баявое заданне на тэрыторыі суседняй суверэннай дзяржавы. Выкарыстанне арсеналу сілаў і сродкаў гібрыднай вайны надае Расіі неабмежаваныя мажлівасці па здзяйсненні схаванай ваеннай агрэсіі з дапамогай ударных тактычных падраздзяленняў сваёй рэгулярнай арміі.

Чыннік схаванага правядзення баявых аперацый прадугледжвае перадусім правядзенне комплексу захадаў па ўскладненні ідэнтыфікацыі і прыналежнасці падраздзялення да УС РФ. Дзеля гэтага з вайсковай тэхнікі і ўзбраення прыбіраюць нумары і тактычныя знакі, а жаўнеры набываюць выгляд мясцовых баевікоў незаконных збройных фарміраванняў, якія маюць нестатутную форму адзення.

Падобныя паказальныя пераўтварэнні самарскіх «міратворцаў» на баевікоў «Л/ДНР» адбывалася досыць часта цягам лета і восені 2014 года.

Перад уварваннем ва Украіну тактычная група 15-й АМСБр, як зазначана вышэй, прыбірае з аўтамабільнай тэхнікі знакі дзяржрэгістрацыі і зафарбоўвае ідэнтыфікацыйныя знакі «МС». Дзякуючы фотасведчанням кадравага вайскоўца «міратворчай» брыгады Яўгена Іванова, гэта можна вывучыць наглядна. На адным з фота ён — прадстаўнік міратворчых сіл, галоўную задачай якіх ёсць падтрыманне міру і развязанне вайсковых канфліктаў.

Аднак рэаліі гібрыднай вайны прымушаюць такіх, як ён, па-тэатральнаму бездакорна пераўвасабляцца ў не зусім звычайны вобраз «данбаскіх сепаратыстаў», ганебна хаваючы пры гэтым прыналежнасць да расійскай арміі.

Драматургія баявых дзеянняў мае ўсё ж свае рэаліі, у якіх задзейнічаныя акцёры і рэквізіт гінуць насамрэч. Расійскія акупанты на ўкраінскай зямлі зазнаюць досыць істотныя страты, іх калоны вайсковай тэхнікі ўкраінскія вайскоўцы паспяхова знішчаюць.

Падчас выканання баявога задання самарскія «міратворцы» хаваюць знакі адрознення, шаўроны, маюць нестатутную форму адзення, жгуты на прыкладах аўтаматаў і звязаныя ляцыйннай стужкай магазіны набояў да АК.

**Відавочна, што чыннік палітычнага рэжыму оруэлаўскай Акеаніі «Вайна — гэта мір» сёння (дый раней) вельмі блізкі для Расійскай Федэрацыі**

Яўген Іваноў падчас выканання баявой задачы здолеў выжыць. У 2014 годзе Мінабароны РФ узнагародзіла яго і яго таварышаў па службе з тактычнай групы 15-й АМСБр медалямі «За вайсковую доблесць».

На відэа з назвай «Как я провел лето 2014» кадравага вайскоўца 15-й АМСБр Мікалая Плотнікава зафіксаваная вайсковая калона «міратворчай» брыгады падчас маршу ў зоне баявых дзеянняў на Усходзе Украіны, у н.п. Навасветлаўка Краснадонскага раёна Луганскай вобласці. У гэтым відэасведчанні можна пабачыць, што пакідаюць пасля сябе расійскія «міратворцы»: разбураныя будынкі, знішчаную тэхніку і выпаленую зямлю.

Відавочна, што чыннік палітычнага рэжыму оруэлаўскай Акеаніі «Вайна — гэта мір» сёння (дый раней) вельмі блізкі для Расійскай Федэрацыі.

Характэрна, што, паводле словаў генсека АДКБ Станіслава Зася, апарат арганізацыі плануе сёлета скончыць юрыдычна-прававую працу па карэктаванні заканадаўства, прававой базы пад стандарты ААН, уняўсення зменаў у базавае пагадненне па міратворчасці і бліжэй да лета мае намер пачаць перамовы па ўключэнні ў міратворчую місію ААН. Гэта сведчыць пра планы Крамля надаць сваім «міратворцам» легальны статус, што можа стаць нагодай для пашырэння эскалацыі канфлікту не толькі ў Данбасе, але стаць чыннікам і для пашырэння геаграфіі баявых дзеянняў у новых рэгіёнах свету.

### Задушэнне мірных пратэстаў

У інфармацыйным фільме па набору на кантрактную службу 15-й АМСБр маюцца кадры адпрацоўкі вайскоўцамі гэтага злучэння прыёмаў супрацьстаяння пратэстоўцам.

Вайскоўцы «міратворчай» брыгады маюць таксама патэнцыял для задзейнічання і ў паліцэйскіх аперацыях па задушэнні пратэставай актыўнасці насельніцтва. Паказальна, што падчас вучэнняў «Нерушимое братство 2020» расійскія і беларускія падраздзяленні адпрацоўвалі задачы супрацьдзеяння ўдзельнікам масавых беспарадкаў.

Дадаткова насцярожвае, што практычна цягам усяго часу трывання масавых акцый пратэсту з расійскімі падраздзяленнямі праводзяць баявое зладжванне армейскія Сілы спецыяльных аперацый РБ, сілы і сродкі якіх ужо прыцягваліся для пацыфікацыі пратэставай актыўнасці беларусаў у жніўні 2020 года.

Безумоўна, усё гэта можа сведчыць пра скаардынаваныя дзеянні вышэйшага вайскова-палітычнага кіраўніцтва РБ і Расіі па намерах задушыць мірныя пратэсты ў нашай краіне сілавым чынам.

Не выключана, што расійскія «міратворцы» і спецпадраздзяленні «Росгвардии» могуць у выпадку неабходнасці прыцягвацца ў Беларусі і для ўдзелу ў супольных аперацыях супраць удзельнікаў мірных пратэстаў. Ёсць верагоднасць, што яны могуць выступіць трэцім бокам для правядзення спланаваных правакацый і дыверсій для дэстабілізацыі грамадска-палітычнай сітуацыі, а таксама эскалацыі супрацьстаяння ў Беларусі. А магчыма, гэтыя сілы могуць быць задзейнічаны РФ і для чагосьці іншага.




**Інфаграфіка ідэнтыфікацыі некаторых кадравых вайскоўцаў са складу 15-й АМСБр УС РФ, якія ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях ва Украіне. Фота InformNapalm**

# Жыццё дзеля бонусаў

Алег НОВІКАЎ

**Час ад часу з'яўляюцца спекуляцыі наконт планаў адаптацыі і ўкаранення ў Беларусі кітайскай сістэмы сацыяльнага кантролю, якая цяпер праходзіць выпрабаванні эпідэміяй.**




Яшчэ пару гадоў таму рэсурс SlashGear паведамляў, што эксперты аднаго з think-tank пры ўрадзе Расіі і прадстаўнікі КДБ Беларусі ў час візіту ў Кітай асабіста ацанілі тую сістэму. Акрамя іншага, яны, нібыта, цікавіліся магчымасцю яе маштабавання ў іншых краінах. У ліпені нешта пісалі пра візіт да нас спецыялістаў гэтай сферы з Паднябеснай.

Цяжка сказаць, наколькі гэтая інфармацыя праўдзівая, але відавочна, што пэўная цікавасць да кітайскіх ноу-хау на Карла Маркса, 38 прысутнічае. Днямі, напрыклад, намесніца міністра аховы здароўя Алена Богдан прапанавала ўвязаць у Канстытуцыі аказанне медыцынскай дапамогі з нормамі паводзінаў грамадзян. Усё гэта ў нейкай ступені нагадвае прынцыпы кітайскай сістэмы сацыяльнага кантролю, якая ацэньвае ўсіх грамадзян на аснове іх паводзін, фінансавага стану, пакупак і парушэнняў. Чым ніжэйшы рэйтынг, тым складаней чалавеку карыстацца публічнымі сэрвісамі.

Саму ідэю сістэмы сацыяльнага кантролю (другая назва — сістэма сацыяльнага крэдыту) кітайскія камуністы яўна запазычылі ў банкаў, якія заўсёды вывучаюць крэдытную гісторыю кліента. У 2014 годзе ў Кампартыі Кітая вырашылі ацэньваць як мага больш сфер жыцця кожнага кітайца і юрыдычных асобаў. Каб «удасканальваць як механізмы заахвочвання законапаслухмяных і добрасумленных грамадзян, так і механізмы пакарання тых, хто парушае закон і страціў давер», — растлумачыў Сі Цзіньпін.

**Больш інтэнсіўнае паніжэнне сацыяльнага рэйтынгу пагражае грамадзянам, якія хаваюць свае падарожжы альбо гісторыю хваробы. Калі пра гэта стане вядома, яны могуць аўтаматычна трапіць у «чорны спіс». У некаторых гарадах прадугледжаныя пакаранні за распаўсюд чутак і плётак**

Адразу пасля анонсу ўлады дамовіліся з дзесяццю кампаніямі пра стварэнне мега-сістэмы, што збірае ўсю даступную ў сеціве інфармацыю пра кожнага грамадзяніна КНР. Перш за ўсё, гэта інфармацыя пра пакупкі, аплату рахункаў, падарожжы і гэтак далей. Праз іншыя праграмы збіраецца інфармацыя пра дзеянні чалавека з архіваў муніцыпальных установ, паліцэйскіх участкаў, даследчых цэнтраў і прыватных кампаній. На аснове гэтай базы фарміруецца рэйтынг карыстальніка. Чым ён вышэйшы, тым больш бонусаў атрымлівае чалавек.

Уладальнікі вялікай колькасці бонусаў могуць атрымаць ад улады рознага роду бенефіцыі — аж да фінансавай падтрымкі на адкрыццё бізнесу або да кар'ернага росту. Людзей з дэфіцытам бонусаў пазбаўляюць працы ці сацыяльнай дапамогі, яны не могуць карыстацца грамадскім транспартам, лётаць самалётамі. Зрэшты, ніхто не перашкаджае ім набраць бонусаў — данесці на суседа.

Нягледзячы на крытыку эксперыменту, у Пекіне яго лічаць вельмі паспяховым і не хаваюць мэту рэалізаваць гэтую амбіцыйную ініцыятыву па ўсёй краіне.

Але тут успыхнула эпідэмія, і ў шмат каго (у тым ліку ў тых іншаземцаў, хто думаў імпартаваць кітайскую мадэль) узнікла пытанне: ці здольная тая мадэль функцыянаваць ва ўмовах каранціну? Відавочна, што выбух каронавіруса парушыў звыклую схему паводзінаў і працы грамадзян, органаў адміністрацыі і бізнесу. Не кажучы пра тое, што нормы каранціну патрабуюць насіць маскі, а гэта робіць цяжэйшай ідэнтыфікацыю парушальнікаў грамадскага парадку з дапамогай відэакамер.

Улады Кітая, адказваючы на новыя выклікі, вымушаныя былі змякчыць правілы. Напрыклад, фірмы і прадпрыемствы, якія былі вымушаныя часова закрыцца з-за віруса, былі вызваленыя ад адказнасці за неплацяжы па пазыках. Таксама многія мясцовыя органы ўлады ўкаранілі працэсы паскоранай выдачы крэдытаў фірмам, што ўдзельнічаюць у вытворчасці прадуктаў і паслуг, звязаных з кантролем і прафілактыкай эпідэміі. Крэдыты маглі атрымаць таксама асобы і кампаніі, якія лічацца «ненадзейнымі».

З іншага боку, у шэрагу сфер гайкі, што называецца, закруцілі яшчэ мацней. Напрыклад, муніцыпалітэты Пекіна і Шанхая патрабуюць ад прадпрыемстваў, якія выпускаюць медыцынскія тавары і лекі, устрымлівацца ад завышэння коштаў. Штрафныя балы пагражаюць і тым, хто займаецца гандлем падробленай медыцынскай прадукцыяй або прадукцыяй, якая не адпавядае нарматыўным стандартам.

Больш інтэнсіўнае паніжэнне сацыяльнага рэйтынгу пагражае грамадзянам, якія хаваюць свае падарожжы альбо гісторыю хваробы. Калі пра гэта стане вядома, яны могуць аўтаматычна трапіць у «чорны спіс». У некаторых гарадах прадугледжаныя пакаранні за распаўсюд чутак і плётак, і нават за ператварэнне хаты ў сховішча прадуктаў. Пацярпелі і гурманы. Каб скараціць маштабы ўжывання ў ежу экзатычных жывёл (сабакі, змеі, чарапахі), якія лічацца крыніцай вірусаў, пачалі караць аматараў падобных страў.

Такім чынам, хоць стандартныя рабочыя працэдуры сістэмы сацыяльнага крэдытавання былі змененыя з успышкай віруса, увогуле сістэма сацыяльнага кантролю захавалася. Захавалася і яе асноўная логіка: людзі і кампаніі атрымліваюць узнагароджанне за лаяльныя паводзіны і пакаранне — за паводзіны, якія ўрад лічыць кепскімі.

У гэтым плане праект беларускай версіі сістэмы сацыяльнага крэдыту, напэўна, будзе па-ранейшаму мець сваіх адэптаў. Тым больш, што магчымасці сістэмы для палітычнага і паліцэйскага кантролю проста фантастычныя. Як піша Bloomberg, у адным кітайскім горадзе ўлады выпусцілі карты для смартфонаў, што паказваюць сілавікам месцазнаходжанне любога чалавека з «чорнага спісу» парушальнікаў у радыусе 500 метраў. Аднак з улікам таго, наколькі апошнія падзеі змянілі беларускае грамадства, вельмі сумнеўна, што такі праект ужо можа быць рэалізаваны.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Тактычная перамога Лукашэнкі не пазбаўляе яго ад перспектывы стратэгічнай паразы. Так, ён захаваў уладу і правёў інаўгурацыю, але яму так і не ўдалося вярнуць падтрымку ці хаця б выклікаць абыякавасць часткі электарату, асабліва моладзі і гарадскіх колаў, сярод якіх фарміруецца пратэставая субкультура. Субкультура, у нетрах якой будуць выяўляцца і развівацца сапраўдныя лідары апазіцыі з харызмай і арганізатарскімі здольнасцямі. Тыя, хто зможа прыйсці да ўлады праз выбарчыя ўчасткі на наступных выбарах (якія, верагодна, пройдуць без Лукашэнкі)».

**Ukraine.ru (Расія)**

«Мы набліжаемся да трэцяга, найбольш важнага моманту "перадачы ўлады". Новае кіраўніцтва павінна складацца з людзей, якім давяраюць Лукашэнка і Масква, інакш мадэль абрынецца. І самае галоўнае: гэты новы ўрад павінен карыстацца даверам беларускага народа. Менавіта гэтым займаецца палітычны алхімік Лукашэнка пры падтрымцы Масквы».

**Печат (Сербія)**

«Еўрасаюза няма выразнай стратэгіі, і казаць пра станоўчыя вынікі яго працы не даводзіцца. Цэлы тыдзень яны (міністры замежных спраў ЕС) не маглі дамовіцца пра санкцыі супраць Беларусі. Калі нарэшце ўсе рознагалоссі былі вырашаныя, Аляксандр Лукашэнка не патрапіў у санкцыйны спіс. Новыя санкцыі — сведчанне бездапаможнасці. Яны яшчэ мацней штурхаюць Лукашэнку ў абдымкі расійскага лідара Уладзіміра Пуціна. Яны не адкрываюць новых перспектыў для Беларусі і дэмакратычнага руху».

**Die Tageszeitung (Германія)**

«Лёс Лукашэнкі знаходзіцца ў руках расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. Калі аўтакрат у Крамлі прыйдзе да высновы, што барацьба за выжыванне Лукашэнкі ў працяглай перспектыве становіцца занадта затратнай, паколькі няма замежных інвестыцый, і ўсё гэта мерапрыемства можа стаць для Расіі занадта дарагім, ён заменіць яго іншым прарасійскім — але менш аўтакратычным — палітыкам, які будзе нармальным і ў вачах Захаду. Такой фігурай можа стаць апазіцыянер Віктар Бабарыка, які цяпер знаходзіцца за кратамі».

**Die Welt (Германія)**

«Надзеі часткі беларускіх апазіцыянераў на тое, што Пуцін дапаможа вывесці краіну з крызісу, — самападман. Пуцін — спецыяліст па закручванні гаек, а не па крызісным менеджменце! (…) Народ Беларусі стаіць перад гістарычнай развілкай: альбо працягваць танцаваць у балоце Саюзнай дзяржавы, з перспектывай паглынання, альбо здзейсніць лёсавызначальны разварот на Захад. Ёсць прадчуванне, што, улічваючы выпакутаванасць такога гістарычнага развароту, Беларусь інкарпаруюць у Еўропу без "жорсткіх экзаменаў"».

**Грузія online (Грузія)**

«Наўрад ці Масква пойдзе на прамое далучэнне Беларусі. Яна будзе займацца паглыбленнем інтэграцыі ў эканамічнай сферы. Расійскімі ўласнікамі будуць скупляцца самыя каштоўныя актывы Рэспублікі Беларусь, затым будуць створаны наднацыянальныя эканамічныя інстытуты, а ў аддаленай перспектыве на беларускай тэрыторыі з'явяцца пастаянныя расійскія ваенныя базы».

**Фонд стратэгічнай культуры (Расія)**

# Такіх эскадронаў нам не трэба!

Алег НОВІКАЎ

**Хіба адзіны пазітыўны момант у цяперашняй эскалацыі гвалту ў Беларусі палягае ў тым, што справа пакуль не дайшла да стварэння «эскадронаў смерці».**


Фота www.antikor.com.ua

Сам тэрмін з'явіўся ў Лацінскай Амерыцы ў 1960-х гадах, калі тут пачалі арганізоўвацца (прынамсі, афіцыйна) узброеныя атрады для супраціву левым партызанам і падпольшчыкам. Вядучую ролю адыгралі латыфундысты і старшыя афіцэры паліцыі, супраць якіх, дарэчы, і быў накіраваны партызанскі тэрор.

Зрэшты, некаторыя гісторыкі вядуць летапіс тых эскадронаў ад атрадаў міліцыі, якія фарміравалі жыхары Тэхасу, каб супрацьстаяць набегам індзейцаў-апачаў у сярэдзіне XIX стагоддзя.

Ёсць меркаванне, што правобразам «эскадронаў смерці» маглі стаць атрады Freikorps — паўвайсковых патрыятычных фарміраванняў, якія існавалі ў Германіі ў пачатку Веймарскай рэспублікі. Тыя атрады актыўна падаўлялі выступленні нямецкіх камуністаў і левых сацыял-дэмакратаў, змагаліся супраць спробаў Польшчы далучыць Сілезію. Пазней многія з іх сябраў далучыліся да нацыстаў.

Гістарычныя крыніцы сведчаць, што ў якасці «эскадронаў смерці» першапачаткова выступалі розныя нефармальныя ваенізаваныя арганізацыі, ветэраны арміі, паліцыі, найміты або амніставаныя злачынцы. Чальцы «эскадронаў смерці», як правіла, імкнуліся схаваць сваю сувязь (калі яна была) з праваахоўнымі органамі.

Аднак паступова ў многіх краінах функцыі «эскадронаў смерці» бралі на сябе дзяржаўныя сілавыя структуры. Згадаем чылійскі Дырэктарат нацыянальнай выведкі (DINA), які дзейнічаў падчас дыктатуры Піначэта. Яго супрацоўнікі настолькі сістэмна падыходзілі да справы, што нават распрацавалі план па знішчэнні ў краіне ўсіх (!) апазіцыянераў і дысідэнтаў.

Калі DINA паўстаў непасрэдна пасля перавароту, то аргенцінскі Сакратарыят выведкі (SIDE) існаваў задоўга да прыходу ў 1976 годзе хунты да ўлады. Гэта не перашкодзіла SIDE хутка ўзяць на сябе ролю «эскадронаў смерці». За час хунты фізічна былі знішчаныя 10 тысяч аргенцінцаў, яшчэ 30 тысяч зніклі бясследна. Гэта без уліку 60 тысяч, якія па палітычных матывах былі адпраўленыя ў месцы зняволення. У ракурсе такой статыстыкі не дзіўна, што пазней лідары хунты, нягледзячы на іх сталы ўзрост (каля 80 гадоў), усё роўна прысудзілі да 50 гадоў турмы.

Прычым адной Аргенціны SIDE было мала. Ці не найбольш важнай аперацыяй, запланаванай Сакратарыятам выведкі, быў патройны замах. Забіць планавалася трох самых вядомых крытыкаў лацінаамерыканскіх дыктатур у эміграцыі, у тым ліку Ізабэль Альендэ, дачку Сальвадора Альендэ. Аперацыя правалілася выключна з-за нежадання аргенцінскага пасла ў Парыжы перадаць забойцам торбу са зброяй.

У некаторых краінах улады бессаромна і адкрыта выкарыстоўвалі «эскадроны смерці» ў якасці дзяржаўнай тактыкі. Усе рэкорды тут пабіла Гватэмала, дзе ў рамках хапуна супраць партызан у 1966–1967 гадах «эскадронамі смерці» былі забітыя прыкладна 8000 цывільных асобаў. Падставай для забойстваў стала падазрэнне ў «падрыўной дзейнасці». Гэты эпізод — паваротны момант у гісторыі гватэмальскага апарату бяспекі, ён паклаў пачатак новай эры, у якой масавыя забойствы меркаваных апанентаў рэжыму сталі звычайнай з'явай. Расправы дасягнулі піку ў канцы 1970-х — пачатку 1980-х гадоў, калі толькі ў 1982 годзе было зарэгістравана больш за 18 тысяч задакументаваных забойстваў.

**Ёсць меркаванне, што правобразам «эскадронаў смерці» маглі стаць атрады Freikorps — паўвайсковых фарміраванняў, якія існавалі ў Германіі ў пачатку Веймарскай рэспублікі**

Здаралася, што да паслуг «эскадронаў смерці» звярталася дэмакратычна абраная адміністрацыя. На пачатку 1980-х гадоў на базе МУС пры ўрадзе іспанскіх сацыялістаў паўстала Група антытэрарыстычнага вызвалення (GAL), якую накіравалі забіваць актывістаў баскскай сепаратысцкай тэрарыстычнай групоўкі ЕТА. Іх нельга было прыцягнуць да суду, бо тыя мелі французскае грамадзянства. Усяго агентамі GAL былі забітыя каля 26 чалавек. Праўда, вынікам стаў не калапс ЕТА, а вялікі скандал у прэсе, якая дазналася пра таемныя справы сілавікоў. Тэма GAL стала адным з галоўных пытанняў выбарчай кампаніі 1996 года, на якіх сацыялісты ўпершыню пацярпелі паразу ад кансерватараў.

Трэба прызнаць, што «эскадроны смерці» не заўсёды займаліся палітыкай. Так, бразільскія структуры, якія былі сфарміраваныя з афіцэраў арміі і спецслужбаў, на нейкім этапе былі кінутыя на фронт барацьбы з арганізаванай злачыннасцю. Ім далі ліцэнзію на адстрэл падазраваных у злачынствах і тых маргіналаў, якія патэнцыйна з'яўляюцца небяспечнымі для грамадства. Але з улікам таго, што атрымалася пазней, лічыць гэта пазітывам немагчыма. Такая практыка заклала традыцыю, калі бразільскія паліцэйскія самастойна фарміруюць нефармальныя групы з ветэранаў-сілавікоў або крыміналу і даручаюць ім забіваць.

Відавочна, што для ўлады пераход да тактыкі выкарыстання «эскадронаў смерці» можа мець драматычныя наступствы. Стаўка на адкрыты палітычны гвалт робіць палітыкаў залежнымі ад такіх фарміраванняў. Збольшага, гэта тлумачыць феномен існавання «эскадронаў смерці» ў Калумбіі. У адрозненне ад іншых суседніх краін, яны існуюць там да гэтага часу, а штогадовая колькасць іх ахвяр можа даходзіць да 28 тысяч чалавек. Гэта тлумачыцца тым, што прыкладна 40% дэпутатаў нацыянальнага парламента (такія звесткі дае Wikipedia) так ці інакш звязаныя са злачынцамі з «эскадронаў смерці». Як знайсці выхад з гэтага, ніхто не ведае. Можа, гэты прыклад ацвярозіць тую частку афіцыёзу, якая сёння заклікае да стварэння рознага кшталту «народных дружын» супраць апазіцыі.

## ЗАМЕЖНЫЯ ПАЛІТЫКІ ПРА БЕЛАРУСЬ

### Нікол Пашынян



Упершыню ў прэсе сур'ёзна загаварылі пра тое, што прэм'ер Арменіі, лідар рэвалюцыі 2018 года, якая прывяла яго да ўлады, можа бліжэйшым часам пакінуць сваю пасаду.

Прычынай стаў паспяховы наступ азербайджанцаў на войска Нагорнага Карабаху на паўднёвым флангу ў пачатку гэтага тыдня. З масіву супярэчлівай інфармацыі можна зрабіць выснову, што пад кантроль Баку перайшлі пэўныя населеныя пункты. Хоць наступ наўрад ці будзе хуткім з-за складанага ландшафту, няўдачы на карабахскім фронце ўжо падрываюць пазіцыі армянскага лідара. Так, 13 апазіцыйных партый запатрабавалі ад прэм'ера стварыць калегіяльны орган, накшталт дзяржкамітэта абароны. Адначасова паўстае пытанне пра асабістую адказнасць Пашыняна, міністра абароны Давіда Танаяна і ўжо адпраўленага ў адстаўку 29-гадовага кіраўніка Рады нацыянальнай бяспекі.

Крытыкуюць Пашыняна і за няпэўныя фармулёўкі плану выхаду з сітуацыі. У некаторых склалася ўражанне, што палітык проста чакае дапамогі ад сваіх партнёраў з ЗША, якім цяпер, відавочна, не да Каўказу. Так ці інакш, негатыўныя навіны з фронту азначаюць для Пашыняна мабілізацыю і кансалідацыю карабахскага клана, які адхіліў ад улады пасля падзей 2018 года. Прычым назіральнікі не выключаюць нават сцэнару палацавага перавароту або масавых вулічных выступаў з чарговай рэвалюцыяй.

### Рафал Тшаскоўскі



Мэр Варшавы, лідар ліберальнай апазіцыі, які ў ліпені ледзь сенсацыйна не перамог на прэзідэнцкіх выбарах, абвясціў пра намер зрабіць тое, што ў апазіцыі не атрымліваецца на працягу амаль дзесяцігоддзя — перамагчы кансерватараў з урадавай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS).

Для дасягнення пастаўленай задачы Тшаскоўскі запусціў праект «Агульная Польшча». Пры гэтым ён адразу даў зразумець, за кошт чаго дасягне перамогі. «10 мільёнаў палякаў прагаласавалі за прэзідэнта Анджэя Дуду, 10 мільёнаў — за мяне, і, на жаль, цэлых 10 мільёнаў засталіся дома», — сказаў ён.

Адначасова Рафал Тшаскоўскі згадвае прафсаюз «Салідарнасць» Леха Валенсы, які паўстаў 40 гадоў таму і дасягнуў змены грамадскага ладу ў краіне. Шэрагі незалежнага прафсаюза таксама складаліся з 10 мільёнаў чальцоў. Менавіта столькі выбаршчыкаў прагаласавалі і за Тшаскоўскага. Каб узмацніць гэтую асацыяцыю, ужо анансавана стварэнне прафсаюза «Новая салідарнасць».

Лёс гэтага праекту вырашаць парламенцкія выбары 2023 года. На сёння, паводле сацыёлагаў, PiS з 33 працэнтамі абганяе партыю Тшаскоўскага на пяць пунктаў. Аднак пры гэтым назіраецца трэнд, калі падтрымка кансерватараў скарачаецца, а рэйтынг апазіцыі, наадварот, расце.

### Мая Санду



Лідарка малдоўскай правай апазіцыі, на думку многіх, мае намер арганізаваць у краіне новы Майдан. Пра гэта, нібыта, сведчаць яе апошнія заявы.

Палітык, у прыватнасці, сцвярджае, што прэзідэнцкія выбары, якія адбудуцца 1 лістапада, сфальсіфікуюць. Гэта дазволіць лідару прамаскоўскіх сацыялістаў Ігару Дадону застацца ва ўладзе. Адначасова лідарка апазіцыі намякае на неабходнасць пратэстаў.

Пакуль эксперты асцярожна ацэньваюць перспектывы чарговага малдоўскага Майдана. Перш за ўсё, у краіне цяжкая эпідэміялагічная сітуацыя, і шматлікія грамадзяне Малдовы, напэўна, праігнаруюць заклікі выходзіць на вуліцу. Па-другое, напярэдадні Санду разарвала пакт з іншым праеўрапейскім палітыкам і даўнім партнёрам Андрэем Нэстасе. Апошні дзеліць з Санду агульны электарат правых выбаршчыкаў. Распад унутры праеўрапейскага лагера відавочна на руку кандыдату ад сацыялістаў, паколькі гэта паніжае патэнцыял для маштабных пратэстаў пасля выбараў.

Зрэшты, час у апазіцыі яшчэ ёсць. Многія назіральнікі не выключаюць, што кампанія можа скончыцца не на карысць Ігара Дадона, нягледзячы на тое, што да гэтага часу сімпатыі асноўнай часткі насельніцтва краіны былі на яго баку. Магчыма, апазіцыі дапаможа скандальная публікацыя журналісцкага праекту «Крэмліновіч», што выкрывае, якім чынам адміністрацыя прэзідэнта Расіі ўплывае на малдоўскіх палітыкаў, у тым ліку непасрэдна на Дадона.

# Як беларусы дапамагалі літоўцам адстаяць незалежнасць



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У выніку Першай сусветнай вайны з палітычнай карты свету зніклі імперыі, а на іх абломках пачалі ствараца новыя дзяржавы. Не выключэннем была і Беларусь, жыхары якой паспрабавалі са зброяй у руках абараніць сваю незалежнасць. Акрамя гэтага дапамагалі яны і суседзям.**

## За БНР

У 1917 годзе па ініцыятыве Кастуся Езавітава і Сымона Рак-Міхайлоўскага была створана Цэнтральная беларуская вайсковая рада. Ужо 24 лістапада ў Мінску пачаў фарміравацца Беларускі пяхотны полк, які складаўся з трох батальёнаў (усяго каля 350 чалавек). Паступова пад бел-чырвона-белы сцяг пераходзілі і іншыя падраздзяленні былой рускай імператарскай арміі. Напрыклад, 43-я пяхотная дывізія і 4-ты армейскі корпус, што ваяваў на Румынскім фронце, заявілі аб сваёй прыналежнасці да Беларусі. На жаль, гэтыя падраздзяленні так і не здолелі вярнуцца дадому. Хутка пасля гэтага яны былі расфарміраваныя нямецкімі і румынскімі акупацыйнымі ўладамі.

У студзені-лютым 1918 года Беларускі пяхотны полк прыняў удзел у баявых дзеяннях супраць бальшавікоў, падтрымаўшы Першы польскі корпус пад камандаваннем генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага. Скарыстаўшыся надыходам нямецкіх войскаў, беларусы абвясцілі незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Але, на жаль, абараніць рэспубліку ад захопу не ўдалося, і пасля таго, як кайзераўскія войскі пакінулі Беларусь, краіну акупавалі бальшавікі. Кіраўніцтва Рады БНР, генерал К. Кандратовіч і палкоўнік К. Езавітаў, эвакуяваліся ў Вільню.

## Пад знакам літоўскай «Пагоні»

Неўзабаве пра сваю незалежнасць заявіла і Літва. Тагачаснае літоўскае кіраўніцтва ўсведамляла, што ў сітуацыі, калі бальшавікі пагражаюць маладой рэспубліцы, дапамога з боку «гудасаў» (так літоўцы называюць беларусаў) была б не залішняй. Ужо ў канцы лістапада 1918 года ў склад Тарыбы (літоўскага ўрада) увайшлі шэсць беларускіх дзеячаў. Таксама было сфарміравана Міністэрства беларускіх спраў, якое ўзначаліў Язэп Варонка. Нарэшце, у складзе Вайсковага міністэрства Літвы была створана беларуская секцыя.

У старажытнай сталіцы ВКЛ Вільні пачаў фарміравацца 1-ы беларускі пяхотны полк. Але бальшавікі не пажадалі змірыцца з незалежнасцю Літвы. У сувязі з наступленнем Чырвонай Арміі літоўскі ўрад эвакуяваўся з Вільна ў Коўна (Каўнас). А чатыры пяхотныя роты, грэнадзёрская каманда і кавалерыйскі эскадрон 1-га беларускага палка перадыслакаваліся ў Гродна. Беларускім камендантам горада быў прызначаны капітан Н. Дзямідаў. 5-я беларуская рота фармавалася ў Коўна. Там жа знаходзілася Беларускае вайсковае бюро пад кіраўніцтвам В. Казлова.

Беларускія часткі, якія знаходзіліся ў Літве, былі апранутыя ў форму літоўскай арміі. Праўда, беларусам дазволілі захаваць некаторыя нацыянальныя асаблівасці. Напрыклад, афіцэрам дазвалялася насіць стужку бел-чырвона-белага колеру, уведзеную яшчэ ў 1917 годзе ў якасці ўзнагароды. Акрамя гэтага, некаторыя беларускія афіцэры выкарыстоўвалі нестатутныя галаўныя ўборы.

У лютым 1919 года армія адроджанай польскай дзяржавы пачала наступ на Усход. Усведамляючы безвыходнасць становішча, беларускі кавалерыйскі эскадрон эвакуяваўся на тэрыторыю Літвы.

31 траўня 1919 года палякі загадалі камандзіру беларускага палка Антонаву перавесці сваю частку ў раён Слоніма і ўліцца ў склад Войска Польскага. Беларус адмовіўся выканаць гэты загад, і ўжо ўвечары таго ж дня палякі раззброілі беларускі полк. Салдат-каталікоў прызвалі ў Войска Польскае, а праваслаўных без лішняга шуму дэмабілізавалі.

## За «ковенскую» Літву

Тыя беларускія падраздзяленні (5-я рота, камендацкі ўзвод і кавалерыйскі эскадрон), што знаходзіліся ў Літве, былі рэарганізаваныя. Так, былі сфарміраваны 1-я і 2-я асобныя беларускія роты, а кавалерыстаў перадалі ў распараджэнне 1-га літоўскага ўланскага палка.

Баявым хрышчэннем для беларускіх салдат стаў удзел (у канцы чэрвеня 1919 года) у баях з бальшавікамі ў раёне Дзвінску. 26–28 жніўня 1-я беларуская рота пад камандаваннем маёра Аляксандра Ружанцова праявіла гераізм, за што 25 беларусаў былі ўзнагароджаны літоўскім ордэнам «Крыж Віціса».



Ордэн «Крыж Віціса»



Салдаты-беларусы літоўскага войска



Камандзір 1-й беларускай роты Мікалай Яніцкі



Камандзір 2-й беларускай асобнай роты А.Ганзэн

Вось як тыя падзеі пасля апісваў відавочца: «28 жніўня рота правяла паспяховую штыкавую атаку на чырвоных латышоў у раёне Суссекле. Выбіць ворага лабавым ударам было немагчыма. Тады беларускі камандзір Міхайлоўскі паслаў узвод праз лес і рэчку Ілукшту на правы фланг варожай абароны. Прайшоўшы ляснымі сцежкамі, пераправіўшыся праз раку ўброд, беларусы аказаліся ў 40–50 кроках ад бальшавіцкіх акопаў і раптоўнай штыкавой атакай выбілі ворага з іх пазіцый».

З кастрычніка 1919-га ўсе беларускія падраздзяленні былі сканцэнтраваны ў раёне літоўска-польскай дэмаркацыйнай лініі ў раёне Ліепаі. 17 лістапада гэтыя часткі былі зведзены ў Беларускі батальён літоўскай арміі. Да снежня 1919 года ў складзе батальёна было 11 афіцэраў, 3 ваенных чыноўніка і 379 байцоў.

У верасні 1920 года батальён быў перадыслакаваны ў мястэчка Вяліковішкі. Маёр Аляксандр Ружанцоў, характарызуючы гэтую вайсковую адзінку, пісаў: «Сёння склалася такая сітуацыя, што толькі ў Літве захавалася беларуская частка, салдаты якой яшчэ маюць гонар называцца беларусамі, у якой дзейнічае свой статут, мова, звычаі». Сапраўды, ключавым момантам было тое, што беларуская мова адыгрывала важную ролю ў фарміраванні нацыянальнай свядомасці беларускіх салдат у Літве. Так, у адным са зваротаў да салдат адзначалася: «Калі ты праваслаўны — не думай, што ты рускі. Калі каталік — не думай, што ты паляк. Ведай, што ты беларус, і гавары ўсюды толькі па-беларуску, таму што

**Беларусам дазволілі захаваць некаторыя нацыянальныя асаблівасці. Напрыклад, афіцэрам дазвалялася насіць стужку бел-чырвона-белага колеру, уведзеную яшчэ ў 1917 годзе ў якасці ўзнагароды**

гэта твая родная мова, мова тваіх продкаў. Хто саромеецца сваёй роднай мовы, той не сын свайго краю, той раб у чужых і здраднік сваім. Твая мова, народ і краіна не горш за іншыя краіны, народы і мовы».

У лістападзе 1920 года беларусы вызначыліся падчас баёў з польскімі часткамі пад камандаваннем генерала Люцыяна Жалігоўскага. З 15 сакавіка 1920 года беларусы ахоўвалі нейтральную зону на мяжы паміж Літвой і Польшчай. Штаб беларускага батальёна знаходзіўся ў мястэчку Серэнай. Праз два гады, у сакавіку 1923 года, Беларускі батальён быў рэарганізаваны ў роту, якая ў ліпені была расфарміраваная.

Акрамя беларускага батальёна, на тэрыторыі Літвы быў створаны Саюз беларускіх стралкоў, які займаўся фарміраваннем партызанскіх атрадаў для барацьбы з палякамі на літоўскай і беларускай тэрыторыі. Ужо зімой 1921–1922 года беларускія партызаны прыступілі да актыўных баявых дзеянняў супраць палякаў. Разам з тым, варта падкрэсліць, што Войску Польскаму ўдалося даволі хутка справіцца са слаба ўзброенымі партызанамі.

Неўзабаве ў барацьбу за беларусаў, якія знаходзіліся ў Літве, уключыліся бальшавікі. Савецкае паўпрэдства стала весці прытоеную агітацыю сярод беларускіх вайскоўцаў, што знаходзіліся ў Літве, з мэтай схіліць іх да вяртання ў БССР. У траўні 1923 года атрад з 60 беларускіх вайскоўцаў літоўскай арміі пакінуў свае размяшчэнне ў раёне Мерачы і праз польскую тэрыторыю накіраваўся ў Беларусь. Падчас руху беларусам некалькі разоў давялося ўступаць у бой з палякамі, але атрад усё ж прабіўся на радзіму.

Гэты інцыдэнт прымусіў літоўскі ўрад канчаткова адмовіцца ад беларускіх вайсковых фарміраванняў. Неўзабаве ўсе беларускія часткі былі расфарміраваныя. У 1924 годзе Коўна пакінула і Рада БНР.

...Але літоўцы захавалі памяць пра беларусаў, якія абаранілі незалежнасць Літоўскай Рэспублікі. У сховішчах Музея Вітаўта Вялікага ў Коўне да сённяшняга дня захоўваюцца фатаграфіі і асабістыя рэчы многіх салдат і афіцэраў беларускага батальёна. На жаль, у літоўскіх архівах не захаваліся асабістыя справы беларускіх салдат і афіцэраў літоўскай арміі. Літоўскі бок зацікаўлены ў аднаўленні біяграфічных звестак беларусаў, якія ваявалі на баку Літвы ў 1920 годзе.

**Фота з асабістага архіва Ігара Мельнікава**

Сяргей КАЙКО

# «Жыве Беларусь!» на стадыёне ў Брэсце

**У краіне працягваюцца пратэсты, затрыманні і рэпрэсіі, аднак беларускі футбол цягне лямку, засунуўшы галаву ў пясок.**

26 тураў мінула ў нацыянальным чэмпіянаце, і барацьба за залатыя медалі абвастраецца літаральна на вачах. Гледачы наведваюць матчы і сочаць за зрухамі ў турнірнай табліцы. Хоць якая прадуха ў гэтыя складаныя часы, а зрэдку пераключыць увагу ад галоўных падзей — можа, яно нават і карысна. Тым больш, што заявіць грамадзянскую пазіцыю можна і на стадыёне.

Пазіцыю заявілі ў Брэсце прама пасярод гарадскога дэрбі — «Дынама» супраць «Руху». У нейкі час над стадыёнам разнеслася скандаванне: «Жыве Беларусь!» Даволі гучнае, яно трапіла на відэа і пашырылася ў інтэрнэце. Пра тое, ці будуць праваахоўнікі даследаваць абуральнае здарэнне і ўзбуджаць адміністрацыйную справу па факце выкарыстання дэструктыўных лозунгаў, нічога пакуль не паведамляецца.

Жарты жартамі, але мяжа паміж фантазіяй і рэальнасцю сёлета станчылася крытычна, так што часцяком хочацца сябе ўшчыпнуць. І ў гэтым сэнсе, можа, футбол гэтаму якраз і спрыяе.

Але вернемся да брэсцкага дэрбі і канстатуем, што «старэйшыя» перамаглі. Пабіўшы лынды да перапынку і прайграўшы першы тайм, «Дынама» своечасова абудзілася, ацвярозілася і зразумела, што далей так жыць нельга. У другой палове сустрэчы чэмпіёны згулялі амаль па-чэмпіёнску — і разнеслі землякоў ушчэнт, забіўшы чатыры галы.

Радасць была вялікай. Бо тур увогуле склаўся так, быццам бос «Дынама» Аляксандр Зайцаў вымаліў у футбольных багоў максімальнае дабраславенне. Яшчэ ўчора мы кплілі з брэсцкіх гульцоў і прагназавалі ім хуткае раскаранаванне, а цяпер самы час чухаць патыліцу і дзівіцца, як чароўна тасуецца калода. Усё ад таго, што тры лідары чэмпіянату балы салідарна страцілі. Нібыта згаварыліся, у знак пратэсту ці намякнулі на страйк у бліжэйшым туры.



Фота прэс-службы ФК «Іслач»

Аднак зноў — далоў жарты. Гэта было б смешна, каб не было так маркотна прыхільнікам БАТЭ, «Нёмана» і «Шахцёра».

Самае прыкрае здарэнне адбылося з гродзенцамі. Яны гулялі дома са сціплай «Гарадзеяй». Шчасце само плыло ў рукі фаварыта — перамагай і ўладар. Ды дзе там. Нават нічыю не выскраблі нёманцы ў гульні з запісным андэрдогам. Корпаліся-корпаліся ад першай хвіліны да апошняй — на ёй і прапусцілі ад гарадзейскага серба Сайчыча.

За прычынамі такога раптоўнага каматозу далёка хадзіць не трэба. «Нёману» адчувальна не хапае досведу такіх вось рашаючых баёў. Калі ўсё на тоненькага, і кожны матч як апошні. Старажылы памятаюць — гродзенцы ўжо трапляді ў аналагічную пастку. У далёкім 2002-м, калі Ігар Кавалевіч быў яшчэ футбалістам каманды, а не яе трэнерам. Тады «заходнікі» нагогул мелі перад БАТЭ перавагу ў сем балаў, ды толькі разгубілі яе на кароткім фінішным адрэзку.

Цяпер і перавагі няма, і сітуацыя вельмі хісткая. Але ж не будзем «Нёман» заўчасна класці ў труну. Магчыма, хлопцы яшчэ збяруцца, возьмуць ногі ў рукі — і хай не за золата, то за серабро-бронзу паспяхова пазмагаюцца. Яшчэ не вечар.

Гродзенцы прайгралі ў суботу, а ў нядзелю ў іх трохі адлягло. Бо канкурэнты таксама, скажам фігуральна, не здолелі захаваць порткі сухімі. Так, супернікі трапіліся моцныя, аднак калі рвешся на Алімп, каракаць на абставіны — справа няўдзячная.

БАТЭ не даў рады «Іслачы», якая ўвосень выглядае малайцом, і нават заглядаецца на п'едэстал. Цікава, што гульня праходзіла на сталічным стадыёне «Трактар», які месціцца непадалёк ад плошчы Ванеева. І акурат у той час, калі барысаўчанін Скавыш забіваў галы, па Партызанскім праспекце рушылі шматтысячны пратэставы марш. Рух транспарту ў тым раёне быў спрэс перакрыты, на аддаленых абочынах ушчыльную — нідзе не прыткнуцца — стаялі легкавікі, і чалавек недасведчаны мог падумаць, што на футболе аншлаг. Але не: футбол той, паводле афіцыйнага пратакола, сабраў усяго 310 гледачоў. Жыццё віравала побач — і цякло ў бок станцыі «Аўтазаводская», напаўняючыся верай у светлую будучыню.

На галы Скавыша «Іслач» знайшла адэкватны адказ, і выніковыя 2:2 — зусім не тое, на што разлічваў Барысаў. Нічога не зробіш — застаецца суцяшацца тым, што першае месца засталося за БАТЭ, і значыць, усё, як быццам, у руках-нагах «жоўта-сініх» каманды.

Што да «Шахцёра», то ён капітуляваў перад сталічным «Дынама». Абое рабое: мінчане і самі гуляюць цераз пень-калоду, таму і знаходзяцца ў табліцы бліжэй да яе сярэдзіны. Але калі доўга мучыцца, нешта ды атрымаецца. Выйгрыш у Салігорску, дзе ўсё вырашыў адзін галявы ўдар напрыканцы сустрэчы, стаў трэцім запар у дынамаўцаў. Хоць якая, а нагода для стрымана аптымізму.

«Шахцёру» ж цяпер не да вяселля. Змяніўшы галоўнага трэнера, салігорскі мэнэджмент, здаецца, у разгубленасці. Дзе эфект? Няма эфекту. Другая параза запар, усяго тры балы ў чатырох апошніх гульнях — і не дапамагаюць ні хаатычныя (і нятанныя) трансферы, ні блізкасць чэмпіёнства, якога ў калійным горадзе не бачылі 15 гадоў.

Пры такіх раскладах могуць не ўбачыць і гэтым разам. Бо адна справа — хацець, дый не шкадаваць грошай «Беларуськалія» на запрашэнне дарагіх легіянераў, і другая — паслядоўна, без шараханняў, ісці да вызначанай мэты. Гэтага ў футбольным Салігорску няма — і ці будзе ў бліжэйшай перспектыве?

### Чэмпіянат Беларусі

**ВЫНІКІ 27-га ТУРА**

16.10. СЛУЦК — МІНСК — 2:1 (Ал.Васільеў, 25 — аўтагол, Казлоў, 91+ — Ал.Васільеў, 85, з пенальці). 17.10. ВІЦЕБСК — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — 1:0 (Жуліа Сэзар, 79). НЁМАН (Гродна) — ГАРАДЗЕЯ — 0:1 (Сайчыч, 90). 18.10. СМАЛЯВІЧЫ — ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — 1:4 (Ложкін, 41 — Белоза, 39, Д. Анціпеўскі, 52, Бардачоў, 64, Габрыэл Рамас, 74). ІСЛАЧ (Мінскі раён) — БАТЭ (Барысаў) — 2:2 (Макась, 19, Кузьмянок, 69 — Скавыш, 20, 51). ШАХЦЁР (Салігорск) — ДЫНАМА (Мінск) — 0:1 (В. Клімовіч, 81). ДЫНАМА (Брэст) — РУХ (Брэст) — 5:2 (Кісляк, 4, Крывец, 56, Лапцеў, 59, Гардзейчук, 69, Пячэнін, 91+ — Нікіфарэнка, 24, В. Васільеў, 29).

СЛАВІЯ — БЕЛШЫНА — перанесены праз каронавірус.

**27-мы ТУР.** 24.10. Гарадзея — Смалявічы, БАТЭ — Віцебск, Дынама Мн. — Белшына. 25.10. Нёман — Славія, Энергетык-БДУ — Шахцёр, Рух — Іслач. 26.10. Мінск — Дынама Бр., Тарпеда-БелАЗ — Слуцк.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| | | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | БАТЭ | 26 | 15 | 5 | 6 | 56-30 | 50 |
| 2. | Нёман | 26 | 14 | 5 | 7 | 34-23 | 47 |
| 3. | Шахцёр | 25 | 13 | 7 | 5 | 43-15 | 46 |
| 4. | Тарпеда-БелАЗ | 26 | 12 | 8 | 6 | 43-32 | 44 |
| 5. | Іслач | 26 | 13 | 4 | 9 | 41-37 | 43 |
| 6. | Дынама Мн. | 26 | 13 | 3 | 10 | 31-22 | 42 |
| 7. | Дынама Бр. | 24 | 13 | 2 | 9 | 48-32 | 41 |
| 8. | Рух | 26 | 10 | 9 | 7 | 48-32 | 39 |
| 9. | Энергетык-БДУ | 25 | 10 | 5 | 10 | 34-36 | 35 |
| 10. | Віцебск | 26 | 8 | 10 | 8 | 25-30 | 34 |
| 11. | Мінск | 25 | 9 | 4 | 12 | 34-45 | 31 |
| 12. | Славія | 23 | 7 | 7 | 9 | 31-42 | 28 |
| 13. | Гарадзея | 26 | 6 | 6 | 14 | 22-42 | 24 |
| 14. | Слуцк | 24 | 7 | 3 | 14 | 27-46 | 24 |
| 15. | Белшына | 24 | 5 | 5 | 14 | 27-45 | 20 |
| 16. | Смалявічы | 26 | 3 | 5 | 18 | 26-61 | 14 |

# Звольненая трыятланістка пераехала ў Маскву

Сяргей КАЙКО

**Трыятланістку Валянціну Зелянкевіч звольнілі яшчэ ў жніўні.**

Майстар спорту, чалец зборнай Беларусі, 21-гадовая дзяўчына стала ахвярай праследу па палітычных матывах. Яна актыўна выказвалася ў сацсетках, удзельнічала ў нядзельных маршах — і, як кажуць, наступствы не прымусілі сябе доўга чакаць.

Класіка жанру: кім бы ты ні быў, якія б перамогі на міжнароднай арэне ні здабываў, ідэалогія — вось альфа і амега сённяшняга беларускага жыцця. Спорт, вядома, не выключэнне. А твае тытулы і дасягненні — гэта падрабязнасць, якая вырашальнай ролі не мае.

«Ледзьве я выклала пост з маршу, як мне напісаў мой трэнер: "Валянціна, я ж прасіў цябе", — расказвала Валянціна ў інтэрв'ю «Салідарнасці». — Адразу зразумела, пра што гаворка, таму адказала так: "Выбачайце, не змагла бяздзейнічаць". "Растлумач тады, чым табе так дарагі гэты сцяг?" — наступнае пытанне ад Талкачова. Я сказала яму, што гэта сцяг незалежнай краіны. І спытала: "А вы самі за каго галасавалі?" "За дзейную ўладу", — адказаў ён. "Я — не! Могуць жа нашы погляды разыходзіцца?" — спытала я. "Тады разыходзімся і мы", — адказаў трэнер».

І яны разышліся як у моры караблі. Зелянкевіч страціла працу. Яшчэ колькі гадоў таму гэта азначала б воўчы білет, але часы змяніліся, межы сцерліся, а беларуская салідарнасць набыла вялізарную моц.

Зразумела, што Валянціна была вымушана пакінуць Беларусь. Дзе-дзе, а тут займацца любімай справай ёй бы не далі. Прынамсі афіцыйна, а інакш цяжка, бо трыятлон — спорт тэхналагічны. Тут не толькі класічны бег, але і плаванне, і веласпорт.

Маладая прыгажуня з'ехала ў Маскву. І, дзякуючы падтрымцы калег-аднадумцаў, паспяхова працаўладкавалася. Нядаўна Зелянкевіч размясціла ў сваіх сацсетках запіс, з якога вынікае, што ў яе жыцці зноў парадак.

Валянціна піша: «Дырэктар РЦАП па веласпорце і старшы трэнер клуба "Tristyle" Талкачоў, які вырашыў звольніць мяне, адлічыць з дзяржаўных арганізацый і забраць у мяне веласіпед, разлічваў, што, пазбавіўшы мяне ўсяго, ён захавае сваю пасаду і аўтарытэт перад сябрамі-чыноўнікамі. Што ж, зычу ўдачы! Сабакі брэшуць — караван ідзе. Сёння я набыла свой уласны ровар — "Argon 18". І цяпер зноў маю магчымасць трэніравацца ў цэнтры трыятлона ў Маскве і ні ад каго не залежаць! Дзякуй за дапамогу Беларускаму фонду спартыўнай салідарнасці».

Варта сказаць, што пакуль гэта, бадай, адзіны вядомы прыклад спартыўнага рэлакейта. Усё ж сувязь з радзімай, пад сцягам якой атлеты спаборнічаюць ад самага дзяцінства, у спартыўнай супольнасці адчуваюць моцна. Але калі іншага выйсця няма, то што дае гэтая сувязь? Таму можна прагназаваць, што ў бліжэйшай будучыні за мяжу пападуцца і іншыя беларусы, чые таленты аказаліся дома не патрэбныя.

Самая вялікая інтрыга тут на паверхні — фрыстайл і яго лепшыя прадстаўнікі Мікалай Казека і Аляксандра Раманоўская. Пакуль яны ў Мінску — пацярпелыя і дыскрымінаваныя. Але яны — і ў полі зроку Фонду салідарнасці. І цудоўна ведаюць, што ў выпадку чаго, іх не пакінуць у бядзе.

# Самыя буйныя страйкі XXI стагоддзя. Дасье ў карыкатурах

**Ці можна праз страйкі адстаяць свае правы? Агляд сусветных карыкатур дапаможа зразумець, наколькі такі метад барацьбы папулярны і эфектыўны.**




Мал. 2




Мал. 3




Мал. 4




Мал. 5




Мал. 6

Дарэчы, кажуць, што першы страйк у гісторыі чалавецтва адбыўся ў XII стагоддзі да нашай эры ў Егіпце на 29-м годзе праўлення фараона Рамзэса Трэцяга. Аднойчы рабочыя-будаўнікі, што цярпелі ад скарачэння колькасці ежы, папросту склалі інструменты і не выйшлі з некропаля, які будавалі. Як гаворыцца ў папірусе, кіраўнікі былі шакаваныя, паколькі ніколі раней не бачылі нічога падобнага. У тым ліку дзякуючы чынніку нечаканасці першы страйк перамог. У нашы часы шмат мастакоў спрабавалі выявіць першых стайкоўцаў. Адзін з карыкатурыстаў паказаў, як, на яго думку, выглядалі тыя егіпцяне. (Мал. 1)

Працягваюцца страйкі працоўных і праз 2500 гадоў, у наш час. Адна з самых яркіх працоўных спрэчак у гэтым стагоддзі здарылася ў Нацыянальнай хакейнай лізе. Да гэтага толькі ў 1919 годзе турнір не адбыўся праз эпідэмію грыпу. Другі раз у гісторыі ганаровы трафей застаўся без новых гаспадароў у 2005 годзе з-за барацьбы хакеістаў за свае правы. Іх прафсаюз не пагадзіўся з умовамі, якія прапанавала дырэкцыя Лігі, што ўводзіла ліміт заработнай платы, каб абмежаваць выдаткі. Спробы дамовіцца да пачатку сезона былі беспаспяховымі, што прывяло да адмены ўсяго сезона ў лютым 2005 года. Лакаут доўжыўся 10 месяцаў і 6 дзён і скончыўся кампрамісам з прафсаюзамі. Безумоўна, для фанатаў хакея гэта быў цяжкі год. Тэматычны малюнак выдання East Bay Times (ЗША). (Мал. 2)

У 2010 годзе ў адказ на пенсійную рэформу ў Францыі пачалася бестэрміновая акцыя пратэсту. На акцыю выйшлі супрацоўнікі нафтаперапрацоўчых заводаў, авіякампаній, чыгуначнікі, работнікі метро, настаўнікі, лекары. Каля паловы школ і ліцэяў былі зачыненыя. Каля 80% цягнікоў спыніліся. Аднак пры гэтым людзі гатовыя былі цярпець транспартныя нязручнасці і губляць у зарплаце, каб у будучыні атрымліваць нармальную пенсію. У выніку пратэсты прынеслі свой плён. Ураду давялося пайсці на саступкі: даць адтэрміноўку рэформы, каб як менш цяперашніх работнікаў ад яе пацярпелі. Пра маштабы руху кажа тагачасная карыкатура з рэсурсу Chappatte: там выяўлены дыктар, які паведамляе, што з-за страйку на гэты Новы год на працу выйшаў толькі адзін з трох Дзядоў Марозаў. (Мал. 3)

3 кастрычніка 2017-га каталонскія сепаратысты правялі агульную забастоўку, патрабуючы прызнаць вынікі рэферэндуму наконт незалежнасці рэгіёна. Рэферэндум быў праведзены насуперак пастановам нацыянальнага суда Іспаніі і прывёў да сутыкненняў грамадзян і спецназа. Больш за 900 чалавек былі параненыя. Гвалт стымуляваў падтрымку забастоўкі з боку насельніцтва і самых буйных прафсаюзаў, якія абвясцілі стайк. У ім прынялі ўдзел сотні тысяч чалавек, у тым ліку толькі 700 тысяч — у Барселоне. Непасрэднымі наступствамі страйку стала заява каталонскага кіраўніцтва пра намер абвясціць незалежнасць. Дэкларацыя пра незалежнасць была абвешчаная пазней, хоць Мадрыд яе дасюль не прызнаў. Спробы каталонцаў атрымаць незалежнасць — тэма малюнку выдання New York Times. (Мал. 4)

У 2015 годзе свайго зеніту дасягнуў амерыканскі рух «Барацьба за 15 долараў», які выступаў за павышэнне федэральнай мінімальнай заработнай платы да 15 долараў за гадзіну. Кампанія ўключала забастоўкі работнікаў дзіцячых установ, службаў аховы здароўя на даму, аэрапортаў, аўтазаправачных станцый, кругласутачных крамаў і фаст-фудаў. Таксама працаўнікі змагаліся за права на стварэнне прафсаюза. У выніку на ўзроўні многіх штатаў улады прынялі законы, якія паступова павышаюць мінімальную заработную плату як мінімум да 15 долараў за гадзіну. На федэральным узроўні прапанова стала значна больш папулярнай сярод лідараў Партыі дэмакратаў, якія ўключылі яе ў сваю выбарчую праграму. Адным з сімвалам пратэсту стала пародыя на знакаміты плакат часоў Другой сусветнай вайны з выявай ваяўнічай жанчыны. У новай версіі славуты жэст дэманструе працаўніца фаст-фуда. (Мал. 5)

Нарэшце, 8-га студзеня гэтага года ў Індыі адбыўся самы вялікі страйк у гісторыі. На заклік 10 федэрацый прафсаюзаў адгукнуліся каля 250 мільёнаў (!) чалавек. Большая частка Індыі выйшла на пратэсты супраць палітыкі ўрада.

Ну а калі казаць пра самы незвычайны страйк у гісторыі, то яго апісанне мы сустракаем у антычнай камедыі Арыстафана «Лісістрата». Камедыя распавядае пра тое, што жанчыны Афін і Спарты, стаміўшыся ад бясконцай вайны паміж гэтымі гарадамі, вырашылі адмовіцца ад інтымных зносін са сваімі мужчынамі. Пасля нядоўгага перыяду вымушанай цноты мужчыны заключылі мір. Вось так, на думку аднаго з мастакоў, выглядала лідар таго незвычайнага страйку. (Мал. 6)



Мал. 1



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1774

Падпісана да друку 22.10.2020. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.